№6 (127) 29 САКАВІКА 1999 Г.

НАША НІВА

Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

HTTP://MEMBERS.XOOM.COM/NASA_NIVA

# РЭЦЭПТ ЦУДУ

## Сяргей Паўлоўскі

### *Перад выбарам*

Нікому ня прыйдзе ў галаву назваць Рэспубліку Беларусь дэмакратычнай краінай. А таксама — багатай, самабытнай, зручнай для жыцьця. Такія азначэньні звычайна (і небеспадстаўна) зьвязваюць з краінамі разьвітага капіталізму. Але РБ не імкнецца ўступіць у гэты клюб і падзяліць ягоныя каштоўнасьці. Хутчэй наадварот. Чаму? Кажуць, што ў нас «свой шлях». І шлях гэты, як бачым на практыцы — рэсаветызацыя, *back in the USSR*, на сёньняшнім палітычным слэнгу — славянскае адзінства. Прычым гэта вельмі важны для нас выбар, які мы будзем бараніць нават пад натаўскімі ракетнымі ўдарамі. Няхай так. Можна ў прынцыпе зразумець і тугу за 70-мі, калі ўсе былі маладзейшыя, і любоў да птушкі Гамаюн ці да праваслаўнай атрыбутыкі, як самаідэнтыфікацыйны выбар. Незразумелым застаецца адно. Чаму наш выбар не вядзе да дэмакратыі, багацьця, самабытнасьці і зручнасьці жыцьця, а наадварот, прыводзіць да адваротных азначэньняў — аўтарытарызму і прыгнёту асобы, жабрацтва, дэфіцыту і чэргаў, сьціраньня ўсяго адметна-свайго (найперш мовы), бюракратыі і мучэньняў паспалітага чалавека. Чаму, галасуючы за чыстую ідэалягему славянскага адзінства, мы на справе галасуем за гэта — за марудную і стабільную дэградацыю краіны і нас саміх? Няўжо мы ня хочам жыць лепей? Няўжо ня ведаем, як гэта — лепей? Мы ня ведаем, чаго хочам.

Да пятае гадавіны старшыняваньня ў краіне першага прэзыдэнта ў нас пасьпяхова праедзеная эканоміка — яшчэ не зусім бедная за Кебічам калгасная вёска і так і не запушчаныя, дакладней, якраз запушчаныя заводы. Пры мінімальных ва ўсіх сэнсах заробках — неверагодна разбухлая сыстэма ўлады — яе бясьпекі і забесьпячэньня. (Варта, дарэчы, параўнаць з савецкімі часамі — колькі тады было міліцыі і колькі сродкаў ішло на ўтрыманьне ўлады.) Краіна жыве для прэзыдэнта і вэртыкалі, усё, што робіцца, робіцца толькі для захаваньня стабільнасьці кіраўніцтва. Гэта наша агульная стабільнасьць. Ані палёгкі, ані хоць якога разьвіцьця хоць у якой сфэры не прадбачыцца, бо не плянуецца. Краіна загрузла ў даўгах.

Адпаведна і зьнешнепалітычны фон гэтага заняпаду нагадвае расейскую сатырычную клясыку. Кітайскі вэктар, аб'яднаньне зь Югаславіяй, ірацкія таварышы, «павысіць ролю Лацінскай Амэрыкі»... Найбліжэйшыя суседзі — Польшча, Літва, Латвія, Украіна — хто раней, хто пазьней рыхтуюцца ў NATO. Для нас NATO вораг. Гэта значыць, ня сёньня — заўтра Беларусь апынаецца ў аблозе ворагаў — самых блізкіх, лічыце, сваякоў. Праўда, кажуць, што самы блізкі — Расея (быццам зь іншымі мы не жывем разам тысячу гадоў). Таму што заўтра першаму прэзыдэнту трэба будзе неяк замятаць сьляды, уцякаць ад адказнасьці за поўны правал ва ўсіх сфэрах жыцьця. Выхад абраны праз далучэньне



да Расеі. Там усё сьпішацца. Для чаго й спатрэбілася тое славянскае брацтва...

Антынатаўскі выбар — гэта таксама, як і славянскае брацтва, — гарантыя ад дэмакратыі, багацьця, самабытнасьці і зручнасьці жыцьця. Розьніца ў тым, што для ўступленьня ў NATO трэба шмат вучыцца, працаваць і здаваць іспыты. Трэба дасягнуць кандыцыі разьвітых краінаў. А для неўступленьня наадварот — ня трэба рабіць нічога, прыкрываючы бязьдзейнасьць, убоства і адсутнасьць фантазіі «ўласным шляхам».

*Працяг на старонцы 4*

# КРЫЎДА І ПРАЎДА

## у беларускім культурным кантэксьце XX ст.



*Тэма нумару*

**Неяк падчас апытаньня культуролягаў на тэму «Што аб'ядноўвае беларусаў як нацыю» прагучаў і такі адказ — крыўда. Крыўда — ці не галоўная тэма беларускай літаратуры. Крыўда на сьвет цэлы, як пісаў Купала. У чым яго крыўда? — спытваў Максім Гарэцкі. Паводле частотнасьці ўжываньня ў беларускай літаратуры слова «крыўда» супадае са словам «шчасьце». Крыўда і Праўда сталі цэнтральнай апазыцыяй беларускага пісьменства і народжанае ў ім нацыянальнае ідэі. Нас спрадвеку прыгняталі акупанты-заваёўнікі, у нас найгоршае ў сьвеце начальства, у нас то тое ня ўродзіць, то гэта... Словам, крыўдаваць ёсьць на што і на каго. Але гэта ў літаратуры і ў нацыянальнай ідэі. А ў жыцьці?**

**З вулічнага апытаньня, якое правёў Севярын Квяткоўскі ў Менску, ніяк не вынікае, што беларусы нясуць сваю крыўду на сьвет цэлы. Наадварот, зьяўляецца пачуцьцё, што асноўныя прывадныя матыў нашай літаратуры і нацыянальнай ідэі пра крыўду і праўду не знаходзіць падтрымкі ў будзённасьці. Сяржук Сокалаў-Воюш наогул лічыць, што беларуская крыўда — гэта прыдумка пісьменьнікаў.**

*Працяг на старонцы 8*

# Narodny Albom

## Міхал Анемпадыстаў, Лявон Вольскі

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Болек (Баляслаў Качынскі) } браты
Лёлек (Леслаў Качынскі) }
Юзік — просты й хамаваты
Фрэдэрык Рагойша — зьлёгку звар'яцелы, але вельмі здольны
Зьміцер Костка — упарты ў дасягненьні зьменлівых мэтаў
Бранiслава Костка — Зьмітрава жонка
Стась Костка — іхны сын
Паляўнічы — арандатар дробнага фальварку
Лістаноша — усюдыісны
Марка — карчмар
Казік Пясецкі — камэрсант зь Вільні
Адэлька — нявеста Лёлька
Надзенька — тутэйшая
Аліцыя — пляменьніца Паляўнічага, студыюе ў Варшаве
Схоля, Сабіна — ейныя каляжанкі з Варшавы, на працягу ўсяе п'есы не вымаўляюць ані слова
Раман
Вучні Рагойшы, сябрукі й аднагодкі Стася Косткі
Міхась
Першы вайсковец
Другі вайсковец
Трэці вайсковец
Чацьверты вайсковец

*Працяг на старонцы 13*



Выйшаў у сьвет двухтамовік

# АРХІВЫ БНР

Два фундамэнтальныя тамы «Архіваў БНР» складаюць разам 1700 старонак. Гэта поўнае апісаньне і частковая публікацыя дакумэнтаў Фонду №582 Дзяржаўнага Архіву Літвы («Рада Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі»). У выданьні ўзялі ўдзел Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк), Таварыства Беларускага Пісьменства (Вільня) і «Наша Ніва» (Менск). Але фактычна ўсю выдавецкую працу выканаў адзін чалавек — Сяргей Шупа. Ён зрабіў укладаньне, падрыхтоўку тэксту, напісаў уступны артыкул, камэнтары, выканаў пераклады, паказальнікі, кампутарны набор і макет.

*«Уявіце сабе,* — піша ў прадмове С.Шупа, — *што вам трапілі ў рукі дзівам ацалелыя старонкі з бартавога дзёньніка карабля, які згубіўся ў бурлівым моры. У старонках гэтых няма пачатку й канца, яны падзёртыя й пераблытаныя. А на іх — кроніка катастрофы, няўмольнасьць стыхіі, вернасьць і здрада, радасьць надзеі, адчай і самагубства, выбухі эпідэміі і людажэрства, зьнікненьне й паўстаньне зь нябыту, каханьне і сьмерць.*

Карабель згубіўся ў тумане. Часам ягоны прывід зьяўляецца ў сонечным зьзяньні і зноў зьнікае ў хмарах.

Гэта не гісторыя пра «лятучага галяндца». Гэта мэтафарычны вобраз абвешчанай у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), а старонкі карабельнага дзёньніка — гэта фрагмэнты раскіданага па сьвеце Дзяржаўнага Архіву БНР».

Дзьве кнігі Архіваў БНР складаюць том 1 і агулам уключаюць 40 % усяго бээнэраўскага архіву. Яшчэ столькі ж дакумэнтаў захоўваюцца ў Менску, а лёс астатніх 20 % невядомы.

**Крыт.**

*Даведкі праз тэл. (017) 227 78 92*

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

АРХІВЫ

БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ



ТОМ І
Кніга 1

# ЧАС СКЛІКАЦЬ УСТАНОЎЧЫ СОЙМ

*Пра карысьць чытаньня 2-й Устаўной Граматы*

Карысна іншы раз перачытаць (а камусьці і проста чытаць) адну з нашых сакральных Устаўных Граматаў — Другую. Так адбылося, што пасля зьяўленьня Трэцяй Другая адышла на другі плян і засталася ў значнай ступені па-за ўвагай. А між тым менавіта ў ёй былі вызначаныя дзяржаўны лад БНР, правы і вольнасьці яе грамадзянаў і народаў, якія Трэцяя зацьвердзіла. Для свайго часу Другая Ўстаўная была дакумэнтам перадавым. Перачытайма яе.

«Другая Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі».

Ужо ў назве — сьведчаньне таго, што Беларусь шматэтнічная.

«У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабаняе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 15—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і баронячы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію».

Хіба цяпер тысячы людзей не напісалі заявы на грамадзянства БНР? Ці не прыйшлі большасьці зь іх паперкі за подпісам Сіўчыка, што заявы тыя прынятыя да разгляду? Дык, можа, насьпеў час нарэшце склікаць Установчы Сойм, пасьля ўнутрыбээнэраўскіх выбараў?

«3. Да часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі».

Цікава, што цяперашнія грамадзяне БНР збольшага ня ведаюць, хто ўваходзіць у сучасную Раду Ўсебеларускага Зьезду. І ці сапраўды яна дапоўненая прадстаўнікамі нацменшасьцяў?

«4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ».

А хто ў сучасным Народным Сакратарыяце? Апроч прэзыдэнта Івонкі Сурвілы я ня ведаю іншых кіраўнікоў БНР. Хто ведае, падзяліцеся, калі ласка, інфармацыяй.

«5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі».

Усіх моваў — якія ў такім выпадку могуць быць спрэчкі пра «адзіную дзяржаўную», «дзьвюхмоўе» і г.д. «Хто как хаціт, той так і гаварыт» — а ў спадара Дземянцея, аказваецца, былі бээнэраўскія перакананьні.

«7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаецца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі».

Хто там выступае за прыватную ўласнасьць на зямлю? І з гэткімі прынцыпамі вы пісалі заявы ў БНР?

«8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень».

Памятаць варта.

«Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пілнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захоўваць правы і вольнасьці працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Ўстаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.

Спаўняючы Камітэт Рады 1-га Ўсебеларускага Зьезду.

*Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року».*

Трэцяя Ўстаўная, як мы ведаем, зацьвердзіла ўсе правы і вольнасьці, дэкляраваныя Другой. І з тых часоў мы маем тыя нашыя Галоўныя Дакумэнты. Іншы раз гэтыя УГ-2 і УГ-3 для сучаснага сьвету і яго права здаюцца крымінальнымі. Але ў любым разе для нас, беларусаў, гэта асноўныя законы *нашай* дзяржавы, і мы, як яе грамадзяне, мусім іх прытрымлівацца.

**Андрыан Мелепік**

# РАЗМАЎЛЯЮ ПА-БЕЛАРУСКУ:

*кроніка без канца*

Скончыўся чарговы беларускамоўны дзень. Заўтра зноў па-беларуску. Заўтра? Заўтра – другое, аўторак. Ужо лежачы ў ложку, успамінаю: заўтра ж расейская мова, дыктоўка. Цікава было б расейскую дыктоўку па-беларуску. Ну, а калі пры гэтым ты сама – настаўнік? Урэшце вырашаю замяніць расейскую мову беларускім чытаньнем. З раніцы тэлефаную ўсім вучням, папярэджваю наконт замены. Чую зьдзіўлена-радаснае: а што, дыктоўкі ня будзе? Будзе, даражэнькія, будзе, але ў чацьвер, а сёньня – сьвята мовы.

Ідэю маўленьня па-беларуску мне падкінуў мой зьдзеклівы брат. У часе чарговай спрэчкі сказаў: «А чаму ты, такая патрыётка, па-беларуску не размаўляеш? Ці мо' па-расейску лепш пераконваць усіх у прыгажосьці роднае мовы? Вы – як фарысэі, кажаце адно, а робіце другое».

Успамінаю пачаткі. Па-беларуску выключна зь сябрамі, ды й тое не з усімі, а толькі з тымі, у якіх упэўненая. Такіх – адзінкі. А з усімі – сорамна. Дзіўная была... Чым больш размаўляеш па-беларуску, тым больш падабаецца. Паступова ўжо нестае размоваў зь сябрамі, хочацца чагосьці новага, «вострых адчуваньняў». Мова, як той наркотык. З часам чалавек патрабуе ўсё большых і мацнейшых дозаў.

Заўсёды зьдзіўляюся: што робіць сталіца зь людзьмі. Адныя горшацца, падаюць на дно, другія наадварот – толькі ў Менску вылазяць з сваіх хатак, пачынаюць па-сапраўднаму жыць. Другія – гэта і я. Менавіта ў сталіцы ад мяне ўпершыню пачулі ўсе і «калі ласка», і «прабачце», і славутую ўжо «шклянку гарбаты». Люблю заходзіць у Чырвоны касьцёл. Там сапраўды чуеш голас душы, і прамаўляе ён па-беларуску, набіраесься моцы.

Назіраю, як часам мяняюцца людзі, калі чуюць мову. Гэта сапраўды сьвятое. Знаёмая манахіня (былая сяброўка дзяцінства) кажа: «Калі я чую тваю беларускую, мне самой хочацца так размаўляць, толькі словаў нестае». Стане, сястрычка, толькі пачні.

Успамінаю Петрыка, цудоўнага сябра, які пачаў размаўляць па-беларуску самастойна і асобна, яшчэ за Шушкевіча. Павага да яго не дазваляла мне размаўляць зь ім па-расейску. Неяк сорамна было. Мове Петрык навучыўся ў настаўніка беларускай мовы, звычайнага вясковага чалавека, якіх шмат. Дзіўна, але мы, настаўнікі, часам не задумваемся, як шмат залежыць ад нас, ад нашага слова, незнарок выказанай думкі, асабістага погляду. На чарговай вечарыне-пасядзелках настаўнікаў чую каторы раз нараканьні на лёс. Сярод сваіх усе – апазыцыянэры. Заўтра, цьвярозыя, зноўку зробяцца маўклівымі... Адзін настаўнік, якога найбольш паважаю за ягонае ўменьне абараніць свае правы, кажа: «А Леначка толькі па-беларуску. Малайчына! Паважаю людзей зь ідэяй». Гэта ня проста ідэя, гэта – большае. Навучыўшыся аднойчы лётаць, поўзаць ужо няма ахвоты. Зноў зрабіцца нямым рабом ня цягне.

Да наступнага ранку, спадарыня Мова! Дабранач!..

**Алена Канапелька, Ваўкавыск**




Прачытаў у «Нашай Ніве» ад 15 сакавіка ліст Ганны Сьцепулёнак, зьмест якога — жаданьне падзяліцца з чытачамі радасьцю, што яна зарэгістравала сябе і трох дзяцей ліцьвінамі. Але я хачу, на жаль, не павіншаваць, а паспачуваць ёй. Упэўнены, што Вас аднясуць да тых самых «літоўцаў», якія летувісы, яны ж жамойты. Ва ўмовах неразьвітай гістарычнай памяці Ваш крок здаецца мне нясвоечасовым. Мала хто зь беларусаў, у тым ліку й перапісчыкі, ведаюць пра нятоеснасьць ліцьвінаў і балтаў. Такім чынам, перапіс зафіксуе на 4 беларусы меней.

**Віталь Станішэўскі, Менск**

# НАРАЧ СТОГНЕ

Узгадваюцца мне словы аднаго госьця зь Менску: мётлы трэба прадаваць, а ня кніжкі — колькі тут пры дарозе валяецца матэрыялу! І напраўдзе, вязаць бы венікі і прадаваць, скажам, проста ля лазьні! Мясцовыя і турысты наведваюць лазьню, каб папарыцца, і часта бядуюць, што няма венікаў. Раней тут прадаваліся ня толькі мётлы ды венікі, але й кошыкі, і іншая тара. Чаму б гэтым не заняцца мясцоваму лясьніцтву альбо пасялковаму савету Нарачы? Безгаспадарлівасьць! Каб не мая хвароба, я б сам гэтым займаўся. Альбо — паляць хмыз, паваленыя дрэвы, хоць дроваў людзям не дапрасіцца. Напрошваюцца словы тых, хто жыве тут: «Добрай тут трэба мятлы, каб гэтае ўсё нарачанскае начальства вымесьці!»

Будуюць дамы і лецішчы, вырубаючы лес, п'юць і гуляюць у трумах кацеру, што спусьцілі два гады таму проста ў возера. З надыходам вясновa-летняга сэзону да рэстарацыі на вадзе едуць машыны зь фіранкамі на вокнах, грыміць музыка, равуць нявыключаныя маторы. Во каму б мятлою ды ўздоўж сьпіны! Едуць людзі адпачнуць і надыхацца паветрам, а тут бітае шкло проста на беразе і дым стаіць. А старшыні пасялковага савету хоць і вады ня будзе — усё адно. Трэба было апраўдацца за забруджваньне возера, дык абвясьцілі прычынай азёру ў курортнікаў ні каго іншага, а качак і лебядзёў. І пачаўся адстрэл усіх вадаплаўных птушак, а стрэльбаў тут хапае, ледзь ня ў кожнага начальніка.

Нарач раней была чыстаю, аж было дно відаць. Старыя людзі толькі ўзгадваюць, як сьпявалі салаўі ў іхных садах увесну, і кіпучую ваду ад нераставаньня, а зараз крычаць вароны.

Праз два дні пасьля апублікаваньня ў газэце «Свабода» артыкулу пад назовам «Хто на Нарачы гаспадар?» перакрылі жалезнай агароджай усе дарогі ля курортнай зоны Нарач, і рух машын зьменшыўся. Зьнік і трактар з восені мінулага году, які за плату вазіў гасьцей Нарачы. Хацелася б верыць, што й гэтая мая публікацыя ў «Нашай Ніве» ачысьціць паветра.

Я зьвярнуўся ў раённую газэту «Нарачанская зара», каб неяк перашкодзіць мясцоваму начальству сьпілоўваць векавыя дрэвы ў пасёлку і спальваць сухую траву вакол здраўніцаў, паліваючы яе бэнзінам. Некаму далі штраф, але не старшыні пасялковага савету Нарачы, а ягоным падначаленым. Начальнік мэтэастанцыі Аляксандар Арлоўскі кажа: няма транспарту, каб вывезьці непатрэбную драўніну, вывернутыя дрэвы і сухастой, значыць, трэба паліць, вось і палыхаюць вогнішчы ўздоўж дарог. Прашу па тэлефоне мядзельскае начальства ўмяшацца, загасіць вогнішчы ля рэстарану «Прыазёрны» і санаторыі «Нарач». І толькі на трэці мой званок адрэагавалі.

Разрабаваная вёска Купа ператварылася ў курортны пасёлак са шматпавярховымі дамамі для ўсялякага начальства. Таварышу Шчарбіцкаму тут жывецца вольна, і нічога, што ў крамах пуста. Але прыйдзе час, калі давядзецца трымаць адказ усім, хто губіць вакол сябе ўсё жывое дзеля сваіх карысных мэтаў.

**Аляксандар Паскробышаў, Нарач**

# «МАЛАДЗІЧОК»

У 1995 годзе ў Менскім дзяржаўным пэдагагічным каледжы № 1 узьнікла літаратурная суполка «Маладзічок». Пачынальнікамі «Маладзічка» зьявіліся Андрэй Латышэвіч, Натальля Чынаткова і аўтар гэтых радкоў. Нягледзячы на арганізацыйныя клопаты, а іх заўсёды хапала, пры падтрымцы кіраўніцтва каледжа і дырэктара Аркадзя Бялькевіча, аб'яднаньне паўстала. У склад «Маладзічка» ўваходзяць навучэнцы, якія маюць схільнасьці да прыгожага пісьменства і спрабуюць свае сілы ў літаратуры. Пры дапамозе кансультанта суполкі, выкладчыцы роднае мовы і літаратуры Валянціны Раманцэвіч праходзяць паседжаньні, на якіх чытаюцца і абмяркоўваюцца вершы, апавяданьні, артыкулы, а лепшыя творы трапляюць на старонкі аднайменнага альманаху, наладжваюцца сустрэчы зь пісьменьнікамі і знакамітымі людзьмі, задумваюцца вандроўкі, вынікам чаго стаюць фотаальбомы. За ча-

тыры гады ў каледжы выдадзеныя 11 альманахаў, аўтарскіх і калектыўных, да канца навучальнага году рыхтуюцца яшчэ тры. Сябры «Маладзічка» наведалі Мір, Нясвіж, Вязынку, Акопы і Карпілаўку.

Сярод сяброў суполкі прозу пішуць Алена Ільюкевіч, Кацярына Хадасевіч, Андрэй Латышэвіч, а паэтычнага Пэгаса трымаюць за лейцы Тацяна Ульянычава, Ірына Сабіла, Галіна Юхневіч. У мінулым годзе юныя аўтары Алена Ільюкевіч, Ірына Сабіла і Галіна Юхневіч сталі пераможцамі рэспубліканскага конкурсу «Дэбют».

Што да праблемаў, дык яны агульныя для ўсіх, хто пад уплывам дзівоснага натхненьня піша першыя вершы і замалёўкі: няма грошай, каб выдаваць кніжкі…

**Сяргеі Званар, Менск**

## У газэту «Наша Ніва»

Вельмі прашу аказаць мне дапамогу. Каротка раскажу пра сябе. Я нарадзілася ў Воршы. З маленства пакутавала ад камуністычнай сыстэмы. Бацькі пры Сталіне жылі бясправўна, часта галадалі і маўчалі, бо ў тыя часы сказаць увогуле нічога нельга было. Усё жыцьцё я была веруючым чалавекам, канчаткова да веры ў Бога я прыйшла пасьля цяжкіх выпрабаваньняў і несправядлівага жыцьця ў гэтай краіне. У 1987 годзе я ўладкавалася на працу ў газэль «Беларусь». Здавалася, нарэшце жыцьцё стала наладжвацца. Але ў 1995 годзе супраць мяне была сфабрыкаваная справа, праз што мяне звольнілі па арт. 33 п. 3. І я, згубіўшы працу, страціла ўсялякую надзею ўладкавацца зноў. Я прайшла ўсе магчымыя стадыі абскарджаньня сваёй справы і паўсюль бачыла валакіту і зьдзек чыноўнікаў і ўлады, асабліва ў адміністрацыі прэзыдэнта. Цяпер нідзе не працую, жыву праз Боскую міласьць з боку царквы, сяброў і Народнага Фронту. Надзею на справядлівасьць дзяржавы я ўжо згубіла. Вельмі прашу газэту «Наша Ніва» напісаць пра мой цяжкі лёс. Можа, каму з чыноўнікаў сорамна стане.

**Лідзія Цыгалёва, Менск**

## ПРАВАКАЦЫЯ ЧЫГІРОЎЦАЎ

Сяргей Даўлатаў неяк сказаў, што ў савецкіх газэтах праўдай зьяўляюцца толькі памылкі друку (напрыклад, "гавнокомандующий" і г. д.). Між тым, шчырая і зацятая вера ў праўдзівасьць паведамленьняў mass-media была ў тыя часы настолькі моцнай, што і па развале СССР нікуды ня зьнікла. Наадварот – яна трывала замацавалася ў беларускім постсавецкім мэнталітэце. І сёньняшні выпадак – пацьверджаньне таго, што магія друкаванага слова жыве й перамагае.

У «Навінах» ад 26 сакавіка была зьмешчаная інфармацыя пра тое, што ў пятніцу ў 17.30 на Ўправе БНФ мае адбыцца сустрэча кандыдата ў прэзыдэнты М. Чыгіра з выбаршчыкамі. У якасьці арганізатараў, паводле тых жа «Навінаў», выступілі «маладзёжны каардынацыйны штаб па падтрымцы прэзыдэнцкіх выбараў» і «маладзёжная фракцыя БНФ». Нічога, здавалася б, дзіўнага. Крыху насьцярожвала толькі месца правядзеньня – цяжка было б уявіць сабе, як гэта стары добры БНФ адыдзе ад "генэральнае лініі" і пусьціць у свае сьцены чалавека, якому Зянон наладзіў такое грандыёзнае аўтадафэ на старонках апазыцыйнае прэсы. Аднак выбарцаў, якія ў вызначаны час зьявіліся на Варвашэні, 8, каб на ўласныя вочы пабачыць, ці такі ўжо Чыгір юда і расейскі шпіён, якім яго малююць, чакаў невялікі сюрпрыз: аказваецца, у кіраўніцтва БНФ дазволу на правядзеньне дадзенай акцыі ніхто не прасіў, і, адпаведна, «несанкцыянаваны мітынг» у канфэрэнц-залі Ўправы адбыцца ніяк ня мог. Так што выбарцам і Чыгіру давялося «тусавацца» на вуліцы. Паводле словаў кіраўніцтва БНФ, гэтую акцыю арганізавалі два былыя маладафронтаўцы (іх закляймёныя ганьбай імёны не былі ўзгаданыя), палітычная арыентацыя якіх апошнім часам моцна пахіснулася ў бок былога прэм'ера, а БНФ (гэтак жа, як і «Малады фронт») да гэтага мерапрыемства ніякага дачыненьня ня мае (падрабязнасьці – хутка чытайце ў афіцыйнай заяве БНФ, якая, трэба думаць, не забавіцца).

**Андрэй Скурко**

## ІНЦЫДЭНТ НА ВЫСТАВЕ

Чацьвертая выстава аб'яднаньня мастакоў «Пагоня», што праходзіць у Менску, прыцягнула мноства наведнікаў. Сярод гасьцей былі вядомыя журналісты, паэты, мастакі. Усеагульную ўвагу выклікала вялізная пастка ў выглядзе крамлёўскай вежы, за прынаду ў якой быў умела зьмітаваны і такі дэфіцытны зараз прадукт з надпісам «Сыр Расійскі». Не абышлося й без эксцэсаў. Аднекуль зьявіліся маладыя людзі з палаючымі вачыма, якія імкнуліся зьдзівіць усіх дэклямацыяй незразумелых бальшасьці вершаў, а калі не сустрэлі ўвагі, адэкватнай сваім намаганьням, пачалі расхістваць тую пастку, ды так, што калаціліся разьмешчаныя побач стэнды з гравюрамі. Людзі адразу ж пачалі гадаць: правакатары яны альбо недаросткі, якія імкнуцца сьцьвердзіцца. На пытаньне «Хто вы?» хлопцы адказалі, што яны мастакі, сьвятыя, выступаюць, дзе могуць, і на вуліцах таксама. Вялікую колькасьць людзей на выставе ў сталічным Доме мастацтваў яны выкарысталі, каб яшчэ раз заявіць пра сябе. Параіўшыся, старэйшыя вырашылі, што яны ніякія не правакатары, а так, шалапуты.

**Уладзімер Гуткоўскі, Баранавічы**

*Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку*

*адкрыты ліст.*

Грамадзянін прэзыдэнт! Ужо год мінуў з таго часу, як быў асуджаны да трох гадоў пазбаўленьня волі па сфабрыкаванай крымінальнай справе япіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Ўладыка Пётар (Гушча). Уладыка Пётар, як мы лічым, ніколі і ні пры якіх абставінах не зьдзяйсьняў злачынства, у якім яго абвінавачваюць, але ёсьць ахвярай добра сплянаванай акцыі. Мэта гэтай гнюснай акцыі – дыскрымінаваць яго ў вачах грамадзкасьці як кіраўніка БАПЦ. Мы добра ведаем Уладыку Пятра як высокаадукаванага, усебакова адоранага і інтэлігентнага праваслаўнага сьвятара, які ўсе свае сілы аддае справе духоўнага адраджэньня беларускага народу і служэньню простым людзям.

Уладыка Пётар ад самага пачатку царкоўнага будаўніцтва цалкам усьведамляў тыя цяжкасьці і рэальную небясьпеку, зь якой яму й ягоным паплечнікам давядзецца сутыкнуцца. Нягледзячы на гэта, ён пасьлядоўна і сьмела рухаецца шляхам адраджэньня Царквы.

Мы, сябры і паплечнікі япіскапа Пятра, цалкам перакананыя ў тым, што менавіта ён, а ніхто іншы валодае неабходнымі ведамі і асабістымі якасьцямі дзеля пасьпяховага будаўніцтва царкоўнай арганізацыі, і ніхто ня здольны запэўніць нас у адваротным.

Япіскап Пётар, як і належыць духоваму лідэру, ёсьць нашчадкам аднаго з найбольш старажытных дваранскіх родаў нашай краіны. Ягоныя продкі стаялі на пачатку фармаваньня нашай нацыі і заўсёды былі ў пярэдніх шэрагах барацьбаў за нацыянальную і дзяржаўную незалежнасьць беларускага народу. Верны справе сваіх слаўных продкаў і Ўладыка Пётар.

Грамадзянін прэзыдэнт, мы настойліва просім Вас умяшацца ў справу Ўладыкі Пятра і перапыніць сваім рашэньнем ягоны незаконны перасьлед з боку карных органаў і суду.

*Камітэт па абароне япіскапа Пятра, Менск*

## Зварот

Пачатак 1999 г. вызначыўся актывізацыяй фашыстаў у Беларусі. Апошнія падзеі: 26 лютага фашысты напалі на паседжаньне Маладзёвага антыфашыстоўскага цэнтру, але атрымалі належны адпор; 5 сакавіка супрацоўнікамі АМОНу беспадстаўна затрыманыя 38 сяброў Цэнтру. Гэтыя падзеі паказалі, на чым баку стаіць улада. Калі мы не абаронім сваёй свабоды, недалёка той час, калі адчыняцца новыя Асьвенцімы й ГУЛАГі. Мы зьвяртаемся з заклікам да ўсіх арганізацыяў і асобных людзей аб далучэньні да барацьбы супраць фашыстоўскае заразы.

Гані фашыстаў з нашае зямлі! No Pasaran!

*Маладзёвы антыфашыстоўскі цэнтар Гарадзенчыны*

# CISK, ADLIHA, NAVALNICY

Polskaja mova ŭvajšła ŭ mianie pryrodna, z daždžom i tumanom. «Wiatr słaby lub umiarkowany, na Mazurach pod czas burz porywisty. Ciśnienie nieco spadnie...» Baćki štovečara hladzieli prahnoz nadvorja paśla «Dziennika telewizijnego» pa pieršaj prahramie polskaha TV, jaki zaŭždy dakładna, da hradusu, adhadvaŭ temperaturu i apadki i dla Bieraścia, u adroźnieńnie ad Biełhidrametcentru ž jahonym tadyšnim kapijavańniem maskoŭskich źviestak: «unačy 1—6, udzień 7—12 hradusaŭ ciapła, miescami apadki». Dzie tyja miescy? U Brasłavie ci ŭ Brahinie?

Prahnoz, jaki čuješ štodnia, stała ŭvachodziŭ u našy dziciačyja hulni ŭ artystaŭ i dyktaraŭ. Televadučyja zdavalisia tady niezvyčajnymi i vielmi važnymi asobami. Na savieckim telebačańni meteorolah źjaŭlaŭsia ŭłasnaj personaj redka, raz u tydzień — saviety na ŭsio byli skupymi — astatnija dni pad Čajkoŭskaha krucili tytry. Savieckim meteorolaham byŭ mardaty važny dziadźka. U bratoŭ-palakaŭ nadvorje źviestavali žančyny: zhrabnyja, pieščanyja, raskošnyja, padstupnyja — byccam by ź ich pisaŭ svaju horduju pałačku Hohal. U Polščy byli niastačy, «Salidarnaść», kruhły stoł, šokavaja terapija, a vykštałconaja — ad pastavy da apošniaha gestu, aź prykra — Elżbieta Zommer vychodziła da karty krainy, jakaja ŭvieś čas madernizavałasia... Ja maju na ŭvazie kartu. Kraina, zrešty, taksama. I kožny raz, jak ja pryjaždžaju da baćkoŭ, za piać chvilinaŭ da dziaviataj maje ŭžo niemaładyja mama j tata słuchajuć jaje (cikava, što Sommer — pa-niamiecku značyć «leta»), dobraha anioła lipieńskich daždžoŭ, drennaha viestuna travieńskich prymarazkaŭ: polski prahnoz niezamienny dla bieraściejskich aharodnikaŭ.

Takoj parodnaści, jak u hetaj, taksama ŭžo niemaładoj blandynki-polki, niemahčyma navučycca, heta naśledaje. I nacyjanalnaje.

Seks-symbal sionniašniaj Ukrainy — Rusłana Pysanka, viadučaja prahnozu nadvorja kanału «Inter» (jaki zamianiŭ ORT). Na jaje mastackija prahnozy zahladajecca ŭsia kraina-Ukraina. Pysanka — ukrainski typaž: vialikaja, kroŭ z małakom, čarniavaja, brovy šnuročkam i vielmi, vielmi pulchnaja (jošć što zhadać, jak toj kazaŭ). Jaje formy, biezdakornaja piavučaja ŭkrainskaja mova, tembar hołasu, charaktar i pramovistaje proźvišča (abo ŭsio ž pseŭdanim?) zrabili ź jaje čałavieka, jakomu, pavodle sacapytańniaŭ, ukraincy daviarajuć najbolš, lepš za Kučmu, Łabanoŭskaha i Rataru. Darečy, likvidacyja ORT była adnym z hałoŭnych etapaŭ dekalanizacyi Ukrainy.

Roŭnych Pysancy ŭ Biełarusi j Rasiei niama. Charašuchi-pampuški jość, ale hladač daviaraje tolki ŭnutranaj ščyraści, dušeŭnaści telehieroja, a jaje nie padmalueš i nie zhulaješ.

Prahnozy nadvorja šmat havorać pra krainu. U Belhii, płošča jakoj mienšaja za Mienskuju vobłaść, biełarusaŭ paciašaje padrabiaznaść prahnozaŭ: «Na plažach Astende cely dzień budzie cudoŭny j sonječny, tolki paśla 15-j viecier stanie paryvisty...U Bruseli doždž z 19-j da 20-j. U Ardenach časam chmurna». Papierakłučajucie kanały spadarožnikavaj TV: voś salidny meteorolah CNN, voś u dziorzka nieachajnym śvedry skandynaŭka-pafihistka, vampapadobnyja farbavanyja blandynki italjanskich kanałaŭ i biespadobnaja vializnaja hišpanka-brunetka, a voś hračanka, pra jakuju maja babula skazała b: «To, music, baćka dobra ŭ ruku daŭ, kab dačku ŭziali ŭ televizar».

Nadvorje na BT, jak i amal usie pieradačy, padajecca takim čynam, kab pry minimumie pracy zaniać na chalavu jak maha bolš efirnaha času. Letaś mianie viesialiła lupa: pakul pierajedzie ź Bieraścia na Viciebsk, pakul nastrojicca...

A ideja hetych zanatovak pryjšła mnie, kali ja adkryŭ, što maładaja «zahadčyca nadvorja» BT žyvie na adnoj leśvičnaj placoŭcy sa mnoj. Choć joj pa papularnaści pakul daloka da Pysanki, raskryju tajamnicy jaje pryvatnaha žyćcia. U jaje muža — stalovaha koleru «Mercedes—600», a štonočy a palovie na pieršuju jana vyhulvaje vializnaha čornaha mastyfa. Noraŭ u muža i ŭ mastyfa, jak pamojmu, adnolkava kruty.

Maje baćki troški pa-dziciačamu ŭściešylisia, daviedaŭšysia, chto ŭ mianie susiedka. Paśla polskaha jany zaŭždy hladziać i biełaruski prahnoz, chacia b dziela z malenstva znajomych i adzinych u śviecie słovaŭ: nadvorje, šerań, navalnica.

**Andrej Dyńko**

# РЭЦЭПТ ЦУДУ

*Працяг са старонкі 1.*

Наш эканамічны крызыс адбываецца на фоне палітычнае сьвістаплясکі і ў самой краіне.

Філіял туапсінскага казачага войска, РНЕўская кабэльная тэлевізія, камуністы, лукамол — патрыёты субардынацыйных гульняў, жырыноўцы... Пры ўсім пры гэтым краіна імкліва русіфікуецца — фізычна насычаецца «кадрамі». Ужо не адразу сустрэнеш беларускае начальніцкае прозьвішча — усё больш завозныя. Перад аблічам вялікага эканамічнага краху РБ ператвараецца ў натуральны бамжатнік, дзе зьбіраюцца людзі бяз роду-племені, бяз дому, без прызваньня, невядома адкуль і куды. Усе гэта бачаць, але ніхто ня скажа, што менавіта гэта і ёсьць наш «свой шлях», наша славянскае адзінства.

Мы сапраўды ня ведаем, чаго хочам.

Прычым, ня толькі тыя, хто сёньня кіруе, але й тыя, што прыйдуць ім на зьмену заўтра. Калі Беларусь Лукашэнкі — гэта апісаная вышэй «стабільная» дэградацыя, дык што такое Беларусь Чыгіра або Пазьняка? Скажыце, у якой зь іх вы хацелі б жыць?

Між іншым, усе гэтыя гады Беларусь Пазьняка таксама існавала і праяўлялася. У выглядзе БНФ. Гэтая арганізацыя літаральна зробленая паводле вобразу і падабенства свайго старшыні. А значыць, кожны ахвотны меў магчымасьць пажыць і ў краіне Пазьняка — апазыцыйнай, але ня менш аўтарытарнай за Лукашэнкаву РБ. Стыль, манеры, дыяпазон, дачыненьні паміж людзьмі тут склаліся цалкам для таго, каб заўтра перакінуцца на ўсю краіну. Гэта свой сьвет, і для выбаршчыка, калі ён захоча, ня будзе ніякіх праблемаў зрабіць сапраўды сьведамы выбар.

З Чыгіром больш складана. Ён адводзіць сабе сьціплае месца, маўляў, дасьведчаны ў фінансах, а ў астатнім — хай усё вырашаюць адпаведныя спэцыялісты. Задача Чыгіра — аб'яднаць усё жывое ў грамадзтве і вызваліць краіну ад аўтарытарнага Лукашэнкі. Праграма Чыгіра заключае дабрабыт і зручнасьць для жыцьця. Стыль і манеры, больш дапасоўныя для Беларусі, знайсьці цяжка. Асабліва калі людзі стаміліся ад няўстрымнай харызмы ППРБ. Але й Чыгір ня мае выразнага ўяўленьня пра тую краіну, якой яна мусіць стаць у часе ягонага кіраваньня і далей. Фінляндыя і Швэйцарыя ў шчыльнай повязі з Расеяй — гучыць як сюррэальнасьць. Адзінае, што ратуе Чыгіра — ён не прэтэндуе на абсалютную ўладу.

А можа, і ня трэба ведаць, што з гэтага ўсяго павінна атрымацца? Ляпі сабе дэмакратычныя законы ў незалежнай краіне і ўсё будзе добра, само складзецца. Аж не. Паспрабуйце зь першым суразмоўцам паўяўляць сабе будучую Беларусь — думкі адразу ж разыдуцца ў бакі. Беларусь у кожнага свая. Гэты ў душы жыве ў Северо-Западном крае, той у БССР, наступны ў Рэспубліцы Беларусь... А большасьць — у гібрыдах...

У такой сытуацыі аўтарытарны кіраўнік і пачынае «ляпіць» краіну пад сябе. Бо іншых узораў у яго няма. У разьвітых дзяржавах ад такой поўнай адсабечыны засьцерагае заканадаўства, якое выпрацоўвалася менавіта ў часы паўставаньня дзяржавы, калі напружваліся ўсе яе ўнутраныя патэнцы, самабытнасьць, традыцыя, перадвызначанасьць. Але гэта зноў там, а ня ў нас.

У знакамітай паэткі і перакладчыцы Веры Рыч ёсьць верш «Рэцэпт цуда» — пра тое, як ствараць Беларусь.

*Для гэтага трэба ўзяць краіну (на мапе няма вольным месцаў, таму бярыце*

*тую, якой нібыта няма), гісторыю,*

*якую выкладаюць, як гісторыю іншых народаў, мову,*

*што ўважаюць за дыялект, дадаць сюды назву,*

*якою не карыстаюцца, потым — люд,*

*які ня памніць свайго імя...*

І г.д. Галоўная думка — цуд. Гэта значыць, што той, хто прыйдзе кіраваць Беларусяй, мусіць пачувацца няйначай чараўніком, здольным рабіць цуды. Другая думка — рэцэпт. Беручы ўладу, вы мусіце бачыць тое, чаго вы хочаце ў цэлым. Мы можам гаварыць пра супольныя дэмакратычныя, незалежніцкія або рынкавыя памкненьні, якія сёньня аб'ядноўваюць нас, але, ня маючы адзінага на ўсіх вобразу краіны, урэшце мы ўсё адно будзем атаясамліваць гэтую краіну з асобай канкрэтнага кіраўніка або прэтэндэнта на пасаду кіраўніка. А гэта тое самае, што, беручыся сьпячы нейкі «ўвогуле» торт, думаць пра муку, масла, цукар (што там яшчэ трэба для торту), але ня думаць пра той канкрэтны вынік, які мусіць атрымацца — пра выгляд і смак.

Рэцэпт цуду вымагае, скажам, забароны кампартыі (прыклад Літвы — пасьпяховы) і ўсенароднага пакаяньня за прыхільнасьць да камунізму (ад сталінскіх рэпрэсіяў да сёньняшняга пракурорскага маразму, калі закон — гэта пракуратура, а не закон). Паўмераў быць ня можа.

Гэта крок адмаўленьня.

Крок сьцьверджаньня — беларусізацыя краіны. Закон, расьпісаны на 10 гадоў, захліпнуўся ва ўласнай бесхрыбетнасьці, дзякуючы менавіта гэтым дзесяці гадам. Бо закон — гэта мэханізм, а ня рыбін тлушч, які трэба прымаць і па кроплі нарошчваць дозу. Людзі ўсё зразумеюць акрамя, дурасьці, а дзяржаўныя чыноўнікі абавязаныя ведаць мову краіны, у якой працуюць хоць бы і паводле закону чалавечай прыстойнасьці, які ніхто ня ўводзіў і ніхто не адмяняў.

Мяжа з Расеяй. Калі з аднаго боку вашага падворку — чарназём, а з другога — гнілое балота, а дакладней, горныя абвалы, — куды вы будзеце пашырацца? Усе гэтыя саюзы апраўдваюцца толькі ідэалёгіяй, прычым ня ў Менску прыдуманай. Чаму не баяцца за паказчык дабрабыт людзей і нармальнае, неістэрычнае жыцьцё? Чаму ня гэта галоўны крытэр выступленьняў палітыкаў, а штосьці яшчэ?

Я пералічыў толькі тры крокі з «рэцэпту цуду», якія ў Беларусі кіраўніцтва ў свой час не адважылася зрабіць цалкам, а толькі «прыпаднялі нагу». Бо ня мелі й ня маюць рэцэпту. Як вы сьпячэце добры торт, калі ў рэцэпце напісана дванцаць яек, а вы паклалі два? І тое — на ўсякі пажарны...

Мы ня ведаем, чаго хочам.

Калі б «свой шлях» і «славянскае адзінства» ня засьцілі вачэй, мы б зірнулі (зноў жа) на суседзяў — дзе яны ўзялі свае «рэцэпты цуду». А ўсе як адзін (з тых, каму сёньня зажылося) — з бабулінага куфра. А там...

Ёсьць Беларусь Івонкі Сурвілы. Прычым натуральных і праўдзівых альтэрнатываў гэтаму рэцэпту не йснуе ў прыродзе. Я не кажу, што Старшыню Рады БНР можна заўтра запрасіць на беларускае прэзыдэнцтва (хоць, далібог, гэта быў бы разумны выбар), я кажу пра тое, што ў сп. Івонкі ёсьць рэцэпт гатовага прадукту. На жаль, гэтага недаацэньваюць ані Чыгір, ані Пазьняк. Ім бы, як той казаў, увязацца ў бойку, а краіны, якой яна мусіць быць, яны ня бачаць. Рабі пільна, і тут будзе Вільня? Можа, і так. Але папярэдні досьвед паказаў, што беларускія дэмакраты хутка заблытваюцца ў тактычных працэдурах і прайграюць. Няма стратэгіі.

Вы скажаце — Пазьняк, нацыянальны трыбун, ня бачыць? А паглядзіце, што зрабіў БНФ з ідэяй грамадзянства БНР. Сьвятымі камянямі брукуе апосталу свайму шлях на п'едэстал... Але вось незадача — БНР ад гэтага ня стала бліжэй. Ідэя не запала ў сэрцы. Дый рэцэпт з бабінага куфру, па вялікім рахунку, не патрабуецца. Самі з вусамі. Разьбяромся...

Мы ня ведаем, чаго хочам пасьля Лукашэнкі.

За апошнія гады Фронт страціў ініцыятыву ў галоўным — у нацыянальным адраджэньні, якое ад канца 80-х трывала спляталася са справай дэмакратыі ў краіне.

Недзе фатальна прападаюць учорашнія адраджэнцы, якія нібыта бралі на сябе адказнасьць за мову і Беларусь. Адказнасьць. Пра патрэбу нацыянальнае асьветніцкае працы сярод насельніцтва кажа сёньня Сьвятлана Алексіевіч. Закрываюць Саюз палякаў, а не БНФ. У турмах сядзяць міністры і старшыні калгасаў, а не змагары. Фашысты зьбіваюць гаспадзіна Саньнікава. Стаіцызм выяўляе Ганчар. Штодзённую інфармацыю даносяць «БДГ», «Хартыя» і электронныя «Дранікі», а не эклектычныя «Навіны», якія даўно ператварыліся ў газэту без пазыцыі. Вось і атрымліваецца, што рэальную адказнасьць за гэтую краіну, яе дзяржаўнасьць і будучыню, за незалежнасьць нясуць гаспада Халезіны зь Бябенінымі і таварыш іхны Бандарэнка. Фронт, даўно развалены ўсярэдзіне, маўчыць.

І ўрэшце ўсё адно, якую вы займаеце пазыцыю. Галоўнае — ваша адказнасьць за Беларусь. А яе сёньня дэманструюць зусім не нацыянал-дэмакраты, прынамсі, яны тут не на першых ролях. Я маю на ўвазе ня тое, хто колькі атрымлівае грантаў і хто працуе на маскоўскі імпэрыялізм і КГБ. Я маю на ўвазе, хто штодзённа, эфэктыўна і ахвярна стварае ў краіне аб'ектыўную сытуацыю барацьбы.

І калі зьяўляецца М.Чыгір, які сапраўды можа аб'яднаць фланг процістаяньня Лукашэнку і выклікаць аптымізм як сярод апазыцыі, так і сярод вэртыкальшчыкаў, дык тут неістотна нават — кагэбісцкая гэта ініцыятыва ці не. Ужо аптымізм гэты важны, бачаньне разьвіцьця сытуацыі. Ня ўсё прапала ў Беларусі. А куды гэтае разьвіцьцё пойдзе і як разгорнецца, залежыць ад усіх. Няхай пераможа мацнейшы.

Заблякаваць гэты працэс — значыць, пакінуць у Беларусі застой і ціхае кананьне. Не ведаю, які з гэтых варыянтаў — Чыгір ці застой — проста ці ўскосна інсьпіруецца КГБ і Масквою. Ды й неістотна. Я толькі бачу, як мова і нацыянальная ідэя ў дэмакратычным працэсе страчваюць свае пазыцыі выключна дзякуючы суб'ектам, а не аб'ектыўным прычынам.

Расчараваная беларуская інтэлігенцыя тым часам пагаворвае пра патрэбу выпрацоўкі нацыянальнае ідэі і нават робіць накіды. Гэта яшчэ адзін спосаб адстараніцца ад рэальнае плыні жыцьця. Нацыянальная ідэя сёньня — гэта дзеяньне.

Зянон Пазьняк верыць у сваё фээрычнае вяртаньне. Але тых, хто ў гэта верыць акрамя яго, засталося ўжо няшмат.

Фізычна выбыўшы з рэальнага працэсу ў Беларусі, лідэр БНФ выцягнуў з гэтага працэсу і ўласную арганізацыю. Так, у яе яшчэ ёсьць структуры, людзі і г.д. Але калі іх становішча відаць, гэта кожнага разу значыць, што яны дзейнічаюць насуперак прадпісаньням правадыра. Сёньня яны разгубленыя — і колецца ўдзельнічаць, і ня можацца. Вяртаньне Пазьняка стала спачатку стымулам мітынгаў, пасьля ператварылася ў стопар. Чаканьне Гадо зацягнулася. А як сказаў некалі Вацлаў Гавэл, Гадо ня прыйдзе. Бо яго няма...

Лукашэнкава пяцігодка нікога нічому не навучыла. Яна сканчаецца, і самае важнае для Лукашэнкі — захаваць стабільнасьць улады, а самае важнае для апазыцыі — гэтую стабільную дэградацыю разгайдаць, зрушыць зь мёртвае кропкі, нягледзячы нават на тое, хто там зь іх кагэбіст, хто лукашыст, а хто — рука масквы. Апазыцыя аб'ядналася. Нават другі лом знайшоўся, які на Лукашэнкава галоўнае пытаньне: «Хто на танцах главны?», гледзячы проста ў вочы сказаў: «Ня ты!» Я маю на ўвазе Ганчара. Чатыры гады апазыцыя зьнебывалася бязь лідэра, а тут — Ганчар, Чыгір і нават Шарэцкі кажуць — будзем ісьці да канца. Узялі на сябе адказнасьць. І кожны разумее, чым рызыкуе. Але — разгайдаюць, пачне хадзіць паветра ў грамадзтве, там у кожнага й будзе магчымасьць выявіць сілу пазыцыі, а то і ўзяць справу ў свае рукі.

Цалкам можна дапусьціць, што пасьля 20 ліпеня Лукашэнка перастане быць. І вось тут прэтэндэнты на ўладу выкладуць кожны свае карты. Можа, да таго часу ў кагосьці яшчэ знойдзецца жаданьне і розум зазірнуць у бабулін куфар і дастаць адтуль беспройгрышны «рэцэпт цуду». І не вынаходзіць ровара..

# ПАМЯЦІ ВЯЧАСЛАВА ЧАРНАВІЛА



...Ягоная сьмерць была імгненнай і бязглуздай: на шляху машыны, што мчала начною Барыспальскай шашой, раптам апынуўся грузавік. Так 26 сакавіка а чацьвертай раніцы Вячаслаў Чарнавіл назаўжды стаў гісторыяй.

Хоць, уласна, ён быў гэтай гісторыяй ужо пры жыцьці. Тры арышты, шматгадовае зьняволеньне, старшынаваньне ў першай несавецкай Львоўскай аблрадзе, калі ён яшчэ за Саюзу першым узьняў над будынкам блакітна-жоўты штандар. Тады, у красавіку 1990-га, гэта была ня проста зьмена сьцягу, а знак зьменаў, што несьлі надзею.

З 1992 году Вячаслаў Чарнавіл узначальваў Народны Рух Украіны. Гэты пэрыяд ягонай дзейнасьці выклікаў, мабыць, найбольш спрэчак. Адны абагаўлялі яго як харызматычнага лідэра, іншыя крытыкавалі за быццам бы аўтарытарны стыль кіраўніцтва. А для ўкраінскіх камуністаў ён увасабляў сабой «сусьветнае зло». Яго называлі «бандэраўцам» і «заходнікам», хоць нарадзіўся ён на Чаркашчыне, ля Шаўчэнкавых Марынцоў і Кірылаўкі.

Апошнія месяцы былі для Вячаслава Чарнавіла цяжкімі. Унутрырухаўская апазыцыя ўзьнялася супраць свайго лідэра, і з сакавіка дзейнічалі ўжо два Народныя Рухі. Цяжкім маральным ударам стала для Вячаслава Чарнавіла працягнутае праз Вярхоўную Раду рашэньне аб уступленьні Ўкраіны ў Міжпарляманцкую асамблею СНГ, супраць якога ён так змагаўся. Яго моцна крытыкавалі за тое, што ён дапусьціў гэта. Цяпер гэтыя крытычныя галасы, вядома, сьціхнуць – бо ягоныя апанэнты з правіцы і цэнтру не маглі не шанаваць у ім магутнай асабістасьці, Грамадзяніна і Змагара.

Ён пайшоў у вечнасьць, дзе зойме свой пасад у коле пабрацімаў-шасьцьдзясятнікаў: Васіля Сіманенкі, Васіля Стуса, Алы Горскай, Івана Сьвятлічнага – якія сталіся сымбалем прагі ўкраінцаў да волі. Застанецца вобраз «зэкаўскага генэрала» (так пісаў пра яго сыніст Мыхайла Хейфэц, які пад уплывам Чарнавіла далучыўся да ўкраінскага руху). Застанецца здымак шчаснага і стомленага Вячаслава Чарнавіла ў дзень абвяшчэньня Незалежнасьці – тонкая ўсьмешка чалавека, які перажыў два інфаркты.

**Максім Стрыха, Кіеў**

# СУМНАЯ ВЕСТКА

Сумная вестка прыйшла з амэрыканскага штату Флёрыда – памерлі, на адным тыдні, Аліса і Юры Пятроўскія. Сьветлая памяць патрыётам Беларусі!

Навіна тым больш сумная, што адначасова спыніў працу Беларускі адукацыйна-харытатыўны фонд, у якім яны працавалі. Кіраўнік фонду, доктар тэалёгіі Ян Пятроўскі, у сваім лісьце паведамляе пра гэта, але запэўнівае, што, нягледзячы на гора, якое яго напаткала, ён працягвае працу над 1000-старонкавым нямецка-беларускім слоўнікам і зборнікам успамінаў «Мінулае і прышлае».

Фонд выдаў болей за 30 друкаў на беларускай і ангельскай мовах. Выдавецкая дзейнасьць фонду прынесла ў скарбонку беларушчыны надзвычайны плён: асобнымі кнігамі выдадзеныя «Дыялёгі» Плятона, «Клясычны грэцка-беларускі слоўнік», першае беларускамоўнае выданьне «Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека», трохтомныя ўспаміны «Стагодзьдзе ў рэтраспэктыве», часопіс «Анаграфы», а таксама шмат іншых навуковых і публіцыстычных працаў у галіне беларусістыкі, элліністыкі і тэалёгіі.

Зямля Вам пухам, Аліса і Юры!

**Анатоль Мяльгуй**

# NATO ЯК «РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ НАШАГА ЧАСУ»

Сытуацыя, што ўзьнікла вакол міжнароднае канфэрэнцыі «Польшча ў NATO» на мінулым тыдні, прымусіла згадаць часы «халоднай вайны».

За дваццаць хвілінаў да пачатку канфэрэнцыі, акурат калі машыны з удзельнікамі, а таксама запрошанымі дыпляматамі прыпаркоўваліся ля будынку Адукацыйна-культурнага цэнтру, ягонае кіраўніцтва адмовіла арганізатарам у памяшканьні, спаслаўшыся на званок з адміністрацыі прэзыдэнта. Такім чынам арганізатары — польскі Цэнтар міжнародных дачыненьняў і пасольства Польшчы ў Беларусі — былі вымушаныя перанесьці канфэрэнцыю ў пасольства. У выніку грошы, унесеныя за арэнду і за банкет у рэстаране пайшлі, верагодна, у графу «непрадбачаныя выдаткі», а Беларускае тэлебачаньне, якое не насьмелілася пераехаць за ўдзельнікамі канфэрэнцыі на «варожую тэрыторыю», засталося ў той вечар без тэлекарцінкі на натаўскую тэму.

Праз два дні пасьля гэтага прэс-сакратар МЗС Беларусі прадставіў інтэрпрэтацыю гэтага дыпляматычнага казусу. Паводле вэрсіі МЗС, польскі бок адвольна «зьмяніў фармат сустрэчы», не паведаміўшы пра гэта своечасова ў замежнапалітычнае ведамства ў Менску. Пасьля гэтага пасол Польшчы Марыян Машкевіч быў запрошаны ў МЗС, дзе яму выказалі нэгатыўнае стаўленьне да таго, што на брыфінгу будзе названае «адсутнасьцю дыпляматычнага такту».

Пад зьменай фармату меўся на ўвазе ўдзел у канфэрэнцыі старшыні Беларускай Эўраатлянтычнай асацыяцыі Мечыслава Грыба ды экс-міністра абароны, генэрала Паўла Казлоўскага замест (як плянавалася спачатку беларускім МЗС) кіраўніка няўрадавага Інстытуту праблемаў стратэгічнай бясьпекі генэрала Ягорова. Ягораў зь невядомых прычынаў адмовіўся, а можа — прадчуваў атаку ўзброеных сілаў NATO на Югаславію, і тым самым выказаў прэвэнтыўны пратэст?




Так ці йнакш, зь беларускага боку ў канфэрэнцыі бралі ўдзел адзін генэрал і два аташэ па пытаньнях абароны, якія пажадалі застацца неназванымі, а з польскага боку — часовы паверany ў пытаньнях абароны пры пасольстве Польшчы ў Беларусі палкоўнік Мацей Валошык. Асьветніцкая, паводле задумы, канфэрэнцыя, набыла рысы зусім ужо грамадзянскага мерапрыемства. І толькі абрэвіятура NATO нагадвала, што тэма канфэрэнцыі мае дачыненьне да пасьляваеннага падзелу сьвету.

Ідэя гэтай канфэрэнцыі ўзьнікла яшчэ ўвосені мінулага году. Меркавалася, што дыскусія аб сучасных праблемах бясьпекі ў Эўропе калі й не прывядзе яе ўдзельнікаў да поўнага паразуменьня, дык хоць бы дасьць магчымасьць быць пачутымі.

Зразумела, што арганізатары з польскага боку былі зацікаўленыя больш у тым, каб падзяліцца зь беларусамі досьведам, набытым Польшчай на шляху ў Паўночна-Атлянтычны альянс. Паводле Анатоля Лябедзькі, «пасьля заканчэньня пэрыяду «халоднай вайны» эўрапейская бясьпека залежыць ня столькі ад канфліктаў паміж дзяржавамі, колькі ад канфліктаў унутры дзяржаваў... З гэтага вынікае неабходнасьць перагляду прынцыпаў эўрапейскае бясьпекі». Пытаньне магчымага ўваходжаньня Беларусі ў NATO А.Лябедзька разглядае ў залежнасьці ад унутрыпалітычнай сытуацыі: «пакуль яна ня будзе вырашаная, гэтае пытаньне не стаіць на парадку дня для Беларусі... Фактычна, для нас цяпер прыярытэтам павінен быць нэўтралітэт, які замацаваны ў беларускай Канстытуцыі... Гэта дазволіць пазбавіцца моцных абдымкаў расейскіх генэралаў». На думку А.Лябедзькі, прынцып салідарнае адказнасьці дапускае магчымасьць калектыўнага ўмяшаньня краінаў у справы той або іншай дзяржавы ў тых выпадках, калі ў ёй адбываецца масавае парушэньне правоў чалавека або нацыянальных меншасьцяў.

Юры Хадыка абышоўся бязь лішняе дыпляматыі. У часе абмеркаваньня стаўленьня беларусаў да NATO, ён заявіў, што пашырэньне альянсу «ў інтарэсах беларускага народу, яно набліжае мэту, да якой мы імкнемся: Беларусь у Эўропу».

На фоне падзеяў вакол Косава не магла ня ўзьнікнуць гутарка наконт пагрозы разьмяшчэньня натаўскай ядзернай зброі ў Польшчы й вяртаньня ядзернай зброі ў Беларусь з Расеі. Ангешка Магдзяк-Мішэўска, дарадца прэм'ер-міністра Польшчы ўпэўненая ў немагчымасьці такога вяртаньня. Яна сфармулявала сёньняшнюю пазыцыю сваёй дзяржавы ў дачыненьні да Расеі так: «Польшча не ўспрымае Расею як імпэрыю зла. Гэтая дзяржава загразла ў глыбокім крызысе... Напярэдадні 17 жніўня 1998 году расейскі рынак быў памерам з гішпанскі, а цяпер роўны бэльгійскаму». Гэта да пытаньня пра «звышдзяржаву», у якой ёсьць пакуль ядзерная зброя, але якая, з разьлікаў амэрыканцаў, да 2010 году памрэ ўласнаю сьмерцю. Аднак, спадар Хадыка запярэчыў, што «пакуль існуе імпэрыя, зь яе боку будзе зыходзіць рэальная ваенная пагроза». Прафэсар Хадыка лічыць NATO «надзвычай цікавым наддзяржаўным стварэньнем, кшталту нашай першай, агульнай Рэчы Паспалітай. Дакладна такая ж свабода, доўга зьбіраецца на вайну й прымае рашэньні, і ўвесь час шукае магчымасьці запрасіць да сябе на трон маскоўскага цара».

**Алена Лукашэвіч**

# ПАЎНОЧНА-АТЛЯНТЫЧНЫ АЛЬЯНС РЫХТУЕ НОВУЮ ДАКТРЫНУ

Калі прадстаўнікі беларускай дэлегацыі ў Штабе вярхоўнага камандаваньня аб'яднаных сілаў NATO ў Эўропе спыталі ў сваіх суразмоўцаў — нямецкіх і амэрыканскіх афіцэраў, ці стаў сьвет пасьля падзеньня бэрлінскае сьцяны, распаду сацыялістычнага лягеру і СССР, больш стабільны, тыя на пэўны час задумаліся, але адказ іх быў кароткім: «Не, сьвет ня стаў больш стабільным. Хутчэй наадварот». Аднак вяртацца ў ранейшую эпоху «стабільнай канфрантацыі» двух лягераў і дзьвюх сыстэмаў ні ў каго асаблівага жаданьня ня выявілася — ні ў беларусаў, ні ў натаўцаў.

Для многіх беларускіх грамадзянаў, выхаваных у часы «халоднай вайны», NATO ўсё яшчэ ўяўляецца ворагам, што бразгае суперсучаснай зброяй. Але палякі, чэхі, украінцы і дзясяткі іншых нацыяў бачаць у NATO эфэктыўную сыстэму калектыўнай бясьпекі. Сьвет непазнавальна зьмяніўся за апошнія дзесяць гадоў і NATO, якому ўжо не супрацьстаіць ніякі моцны праціўнік, зьмяніўся таксама. Сам NATO імкнецца зьмяніць падазронае ці нэгатыўнае ўяўленьне пра сябе, штогод запрашаючы каля 20000 гасьцей у сваю штаб-кватэру ў Брусэлі.

Грамадзянскія чыноўнікі і вайскоўцы са структураў NATO нават увялі ў свой моўны зварот спэцыяльны тэрмін — «празрыстасьць». NATO прыстасоўваецца да зьменаў у сьвеце, рэфармуючы сваю дактрыну адпаведна патрабаваньням новага часу. Вынікі пошукаў аптымальнай сучаснай мадэлі бясьпекі ў Эўраатлянтычным рэгіёне будуць падведзеныя 23—25 красавіка на саміце NATO ў Вашынгтоне. Гэты саміт будзе ня столькі юбілейным мерапрыемствам, прысьвечаным 50-м угодкам NATO, колькі канцэптуальным.

— Вашынгтонскі саміт адзначыць гістарычную фазу ў эвалюцыі Атлянтычнага альянсу. У Вашынгтоне мы завершым фармаваньне новага аблічча NATO: альянс, якому даручана павышаць стабільнасьць і бясьпеку ў цэлай Эўраатлянтычнай прасторы, арганізацыі з новымі мэханізмамі, прыстасаванымі для выкананьня гэтай задачы, з новымі партнэрамі і новымі мэтамі на XXI ст., — так сфармуляваў свае чаканьні ад Вашынгтонскага саміту генэральны сакратар Хаўер Салана.

Стратэгічная канцэпцыя замацуе пераход NATO ад чыста абарончых функцыяў да выкананьня дынамічных стратэгічных задачаў усталяваньня калектыўнай бясьпекі на эўрапейскім кантынэнце, праведзеньня міратворчых апэрацыяў, дапамогі пры ліквідацыі наступстваў стыхійных бедстваў, барацьбы з пашырэньнем зброі масавага зьнішчэньня, тэрарызмам... Як расказаў прадстаўнік Італіі ў NATO Нікола дэ Сантыс, у праекце новай дактрыны закладзеныя 4 асноўныя накірункі.

Першы: пашырэньне зоны стабільнасьці ў Эўропе праз дыялёг і супрацоўніцтва паміж Захадам і Ўсходам, стварэньне ўсеабдымнай бясьпекі на кантынэнце, уключаючы СНГ і Расею праз праграму «Партнэрства дзеля міру».

Другі: імкненьне NATO ўмацаваць «эўрапейскі складнік» у сфэры бясьпекі і абароны, гэта значыць узмацніць ролю эўрапейскіх краінаў у вырашэньні праблем бясьпекі без прыцягненьня сілаў ЗША і Канады. У прыватнасьці, ужо цяпер сілы эвакуацыі з Косава, якія разьмешчаныя ў Македоніі, складзеныя менавіта эўрапейскімі краінамі. ЗША ня ўдзельнічаюць у гэтых сілах.

— Эўрапейцы бяруць на сябе больш адказнасьці на сваім кантынэнце, і ЗША гатовыя адысьці ўбок ды паглядзець, як гэта ў іх атрымаецца. Цяпер многія амэрыканцы лічаць, што пакольку ў Эўропе не адбываецца нічога складанага, мы павінны крыху дыстанцыявацца. Аднак досьвед паказвае, што неабходнасьць нашай прысутнасьці ў Эўропе ўсё ж ёсьць, — зазначыў палкоўнік Узброеных Сілаў ЗША Слэйтан.

Трэці: рэарганізацыя ваеннай структуры NATO. Пасьля заканчэньня «халоднай вайны» вайсковая насычанасьць Заходняй Эўропы скарацілася ажно на 80%: на 31% скарочаныя Ваенна-марскія сілы, на 45 — Ваенна-паветраныя, у тры разы — да ста тысячаў — скарочаная прысутнасьць амэрыканскіх вайскоўцаў у Эўропе. Раней у NATO было чатыры рэгіянальныя камандаваньні, цяпер засталося тры, колькасьць штабоў зьменшылася з 65 да 20. Усё гэта дазволіла ашчадзіць грошы і накіраваць іх на стварэньне мабільных сілаў. Паводле Нікола дэ Сантыса, структура войскаў NATO цяпер шматузроўневая. Першы ўзровень — асноўныя сілы краінаў NATO, якія знаходзяцца ў мінімальнай боегатоўнасьці.



«Цяпер мы ня бачым непасрэднай пагрозы сваім краінам, але нельга выкідаць парасон толькі таму, што сёньня няма дажджу», — зазначае Нікола дэ Сантыс. Другі ўзровень — сілы неадкладнага і хуткага рэагаваньня, якія могуць апэратыўна ўмяшацца ў крызысную сытуацыю згодна з дадзеным ім мандатам. Прыклад іх дзейнасьці — Босьнія. І трэці ўзровень — сілы ўзмацненьня, якія ўключаюцца, калі ўзьнікае сур'ёзны заціяжны крызыс, як у Косаве.

— NATO не патрэбныя болей вялікія танкавыя злучэньні, бо няма пагрозы, супраць якой мы можам іх задзейнічаць, — зазначыў палітычны дарадца італьянскай дэлегацыі пры Эўраатлянтычнай Радзе Францэска Фаранзоні. — Патрэбнае хуткае ўзаемадзеяньне партнэраў для падтрыманьня міру, патрэбны новы від войскаў — гібрыд звычайных вайсковых фармаваньняў і паліцэйскіх сілаў, якія маглі б забясьпечыць праведзеньне выбараў, свабоду СМІ ў краінах, дзе праводзяцца міратворчыя акцыі і іншае. Такія сілы ўжо былі апрабаваныя ў Босьніі, створаныя яны былі на прыкладзе італьянскіх карабінэраў з самым актыўным удзелам італьянцаў.

Чацьверты: усталяваньне шчыльных адносінаў зь іншымі эўрапейскімі інстытутамі для ўрэгуляваньня крызысаў у Эўропе. Афіцэры NATO прызнаюць, што іх блёк ня можа самастойна вырашаць цяперашнія праблемы бясьпекі, этнічных канфліктаў, распаду дзяржаваў, фінансавай нестабільнасьці і масавых хваляваньняў. Зь іншага боку, супрацоўнікі штаб-кватэры NATO прызнаюць, што для таго, каб альянс мог прымяняць свае сілы для падобных апэрацыяў, патрэбны мандат такіх арганізацыяў як ААН, АБСЭ, якія павінны вызначаць межы адказнасьці NATO ў Эўропе і сьвеце.

Зрэшты, цяпер, пасьля натаўскага ўмяшаньня ў югаслаўска-альбанскі канфлікт, сытуацыя ў Эўропе рэзка зьмяняецца.

**Валер Каліноўскі**, *Брусэль — Менск*

# ПІСЬМЕНЬНІК І ПЭДАГОГ КАНДРАТ ЛЕЙКА (1860–1921)

Кандрат Лейка нарадзіўся на Слонімшчыне ў вёсцы Збочна 17 верасьня 1860 г. Вучыўся ў Азярніцкім вучылішчы, а затым у Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі за казённы кошт. У 1879 годзе яго паслалі працаваць настаўнікам у Косава. Тут ён пачаў пісаць вершы на беларускай мове. Захаваліся яго вершы, датаваныя 1883 годам («Сарока», «Песьня ластаўкі», «Бусел»). У «Нашай Ніве», «Нашай думцы», «Беларускім календары» былі апублікаваныя ў 1912—1916 гадах шматлікія творы К.Лейкі. У лютым 1918 г. К.Лейку паралізавала, і яго перавезьлі да брата ў г. Здалбунаў на Валыні. Там ён 6 верасьня 1921 г. і памёр, там і пахаваны.

Стваральнік школьнага музэю «Літаратурная Слонімшчына» Мікалай Сідаровіч адшукаў некалькі невядомых лістоў з спадчыны Кандрата Лейкі, пісьменьніка-сучасьніка Багушэвіча. Эпоха глядзіць на нас з гэтых лістоў.

### ПАШТОЎКА З ВАРШАВЫ К.ЛЕЙКУ АД ГАЛЬЯША ЛЕЎЧЫКА.

«Вашу пісулю мы атрымалі і адказваем. 1. Аб вашай пэнсіі, што вы падалі просьбу, напішыце нам: калі гэта было, як, што і каму ўручылі і дзе, тады наш старшыня пойдзе ў Міністэрства і лягчэй будзе клапатаць. 2. Беларускія газэты выходзяць у Вільні: «Наша думка» (вул. Вастрабрамская, 5) і «Krynica» («Крыніца») (вул. Завальная, 7). 3. Вашы літарацкія творы па-беларуску: вершы, казкі, апавяданьні і ўсё — вы прышліце на імя нашага Камітэту (Szpitalna 12, m. 29), а мы адашлем іх у Беларускае навуковае таварыства, а калі будуць друкаваць, то вам і грошы дамо. Верце, што недалёкі час, калі наша Бацькаўшчына Беларусь будзе незалежнай!

*Беларускі камітэт у Варшаве. Сакратар Г.Леўчык. 7.2.1921»*

### ЛІСТ К.ЛЕЙКУ ЛЯВОНА ДУБЯЙКОЎСКАГА.

Паважаны Пане!

Беларускі Камітэт у Варшаве, атрымаўшы ад Вас ліст, даручыў мне прадаставіць Вам крыху грошай — пяць тысяч польскіх марак і пры гэтым спытацца ў Вас, ці не былі б Вы ласкавы прыехаць на Бацькаўшчыну. А можа тут, між сваімі, будзе Вам хоць крыху лепей. А калі зможаце, то напішыце штосьць да беларускіх газэт. Мне здаецца, што найлепей было б Вам пасяліцца ў Горадні, там знойдзецца шмат знаёмых. Калі будзе на гэта Ваша згода, то прашу, едучы да Горадні, заехаць у Варшаву, тут пабачымся і параімся, як трэба зрабіць лепш. Калі ў гэтым часе немагчыма будзе ехаць праз холад, то пачакайце крыху, а за які месяц можа ня стане цяжэй, тады прыедзеце. Калі ня будзе грошай на дарогу, то напішыце, калі ласка, Камітэту, а ён вышле.

Вось гэта менш-больш такая рада. Бывайце здаровы і пра нас не забывайце.

*З праўдзівай да Вас пашанай застаюся Лявон Дубяйкоўскі. 27.2.21»*

### ЛІСТ К.ЛЕЙКІ ЛЯВОНУ ДУБЯЙКОЎСКАМУ.

«Паважаны Пане!

Не змагу словамі выказаць мае радасьці, якая ахапіла мяне ў момант, як я атрымаў ад Вас шчодру дапамогу. Французы кажуць: хто дае ўпору, той дапамагае двойчы. І праўда: я маю цяпер не 5000 марак, а нязьмерна больш, бо атрымаў іх якраз упору. Я, будучы хворым, адзінокім, сядзеў без хлеба, бяз грошай, і якраз у гэты горкі час прыйшла з пошты вестка аб Вашым дарунку. Кожны, хто перажываў такі цяжкі момант, зразумее маю радасьць, мае пачуцьці. Складаю перад Вамі, паважаны пане, сваю сардэчную падзяку за Вашу ахвяру. Ваша добрае імя буду насіць у сваім сэрцы да самай сьмерці і ніколі не забуду Вашай добрасьці. Няхай Бог адплаціць Вам чым толькі Вы пажадаеце за Вашу літасьць да мяне.

Падаца на Бацькаўшчыну, жыць там паміж сваіх братоў, умерці і легчы ў магілу на сваёй зямлі — о, яка б гэта была для мяне радасьць, шчасьце, але я не змагу гэтага выканаць, бо жыцьцё мяне зусім задавіла, а аб сваёй Маці-Айчыне магу цяпер толькі ў салодкіх марах успамінаць. Пасылаю Вам для друку карэспандэнцыю з Валыні і два вершы. Прашу тую газэту, дзе будуць надрукаваны мае вершы, прышліце мне. Калі газэта зацікавіцца маёю літарацкаю працаю, то магу неўзабаве прысылаць больш.

Затым выбачайце за ўчынак Вам лішніх клапот і бывайце здаровенькі, хай Вас Бог мілуе. Складаючы Вам падзяку, застаюся Вашым верным слугою.

*К.Лейка. Здалбунаў».*

**Падрыхтаваў Мікалай Сідаровіч**

# ВАРШАЎСКАЕ ДАСЬЕ ГЕНЭРАЛА ВІТУШКІ

У другой палове 1930-х гадоў у Варшаве дзейнічала Асьветнае таварыства беларусаў (АТБ). Многія яго сябры былі студэнтамі, сярод іх — Міхал Вітушка, у будучыні асоба легендарная і таямнічая. Вітушка трапіў у Варшаву ў 1934 годзе, праўдападобна, пераехаўшы туды з чэскай Прагі. Ён паступіў у Варшаўскую палітэхніку, каб стаць інжынэрам. Я наведаўся ў Варшаўскую палітэхніку, каб адшукаць у ейным архіве зьвесткі пра беларускага генэрала. Аднак тэчкі Вітушкі ў архіве не аказалася. «Яна загінула ў часе вайны». А ўліковая картка? - схамянуўся я. Яе паклалі на стол.

Не чакаў я, што на гэтым маленькім кавалку паперы можа быць так шмат інфармацыі пра Вітушку!

Па-першае, удалося дакладна ўстанавіць дату ягонага нараджэньня — 5 лістапада 1907 году, і месца — Нясьвіж. Па-другое, зьнімаючы ўсе прыпушчэньні пра ягоную нібыта ўкраінскую нацыянальнасьць. У картцы запісана: «нацыянальнасьць беларуская... родная мова беларуская... праваслаўны». Аднак дакумэнт не дае адказу на пытаньне, ці скончыў Міхал Вітушка палітэхніку, бо ў ім ёсьць зьвесткі толькі пра два гады ягонай вучобы. Ці не вайсковая служба перашкодзіла яму скончыць студыі?

Што зьнікла разам з тэчкай № 15041? Кароткая аўтабіяграфія М. Вітушкі, пасьведчаньне пра заканчэньне гімназіі з здымкам, мэтрыка, пара фотаздымкаў... Такія дакумэнты захаваліся ў тэчцы яшчэ аднаго сябра АТБ Янкі Гінько. У вайну Гінько ўваходзіў у ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі, разам з дэсантам у лістападзе 1944 г. вярнуўся з Усходняй Прусіі ў Беларусь, неўзабаве быў арыштаваны. Магчыма, тое, што Янка Гінько трапіў у рукі НКВД і спрыяла захаваньню ягонай справы. Чэкістам не было патрэбы яе шукаць. А вось да Вітушкі чэкістоўскія кіпцюры не дацягнуліся. Таму ня дзіўна, што ў архіве няма ягонай справы. Яе маглі сканфіскаваць для складаньня «жыцьцяпісу» генэрала. Ня выключана, што пра зьнікненьне дакумэнтаў паклапаціўся сам іх уладальнік летам 1944-га. А можа, дасье Вітушкі і сапраўды згарэла пад час пажару...

**Сяргей Ёрш**

*Матэрыял падрыхтаваны, дзякуючы «Беларускай майстэрні» ў Падкове Лесьнай*

# ДЗЕ СВАЁ,

У сёлетнім чацьвертым нумары газэты сп. Валеры Строкач наважна выказаўся супраць спальшчэньня нашае мовы, патаўраваўшы пры гэтым звыш дзесятка словаў, якія ён заўважае апошнім часам у беларускіх выданьнях. З думкаю пра аб'ектыўнасьць я бяру на сябе сьмеласьць пракамэнтаваць вострыя ацэнкі сп. Строкача.

Кур'ёзна выглядае ацэнка лексэмы *запальнічка* як «польскага слова». Ведама, што ў сучаснай беларускай літаратурнай мове суіснуюць дзьве словаўтваральна аднатыпныя лексэмы *запальнічка* і *запальніца*. Форма з суфіксам суб'ектыўнай ацэнкі (**-к-**) натуральная: абазначаецца ў гэтым выпадку машынка, рэч (снастка) маленькая, кішэнная. Ставячы пад сумнеў магчымасьць ужываньня ў беларускай мове заканамернае й лексыкаграфічна нармалізаванае формы *запальнічка*, аўтар памыляецца, бяз довадаў залічаючы знаёмую яму з кантэксту іншае мовы форму да чужых.

Усё часьцейшае ўжываньне ў сучасных тэкстах і жывым маўленьні лексэмаў *рэстарацыя* і *тэлевізія* ня можа сьведчыць (пры аб'ектыўнай ацэнцы) пра чыёсьці мкненьне «казаць на польскі манер». Слова *рэстарацыя* ведамае ў нашай мове ад старабеларускае пары: яно лацінскага паходжаньня (ад *restauratio* "падмацаваньне, аднаўленьне"). Беларуская літаратурная мова першае трэціны XX ст. зьведала ўжо суіснаваньне *рэстарацыі* з *рэстаранам* (з франц. *restaurant*), што й знайшло адлюстраваньне ў найгрунтаўнейшай лексыкаграфічнай працы 1920-ых гг. – «Расійска-беларускім слоўніку» С. Некрашэвіча й М. Байкова. Да адкіданьня слова *рэстарацыя* на моўную пэрыфэрыю спрычыніўся запанавалы ў БССР на доўгія дзесяцігодзьдзі расейскі стандарт для беларускае мовы – *рэстарацыя* вымушаная была састарэць. Вось жа цяпер актывізацыя гэтага слова выглядае адно вяртаньнем да традыцыйнае лексыкі.

Што да слова *тэлевізія*, дык тут мы маем дачыненьне з звычайным інтэрнацыяналізмам (гр. *tele* + лац. *visio*). На ўзор часткова расейскага асваеньня *телевидение* афармілася й замацавалася ў БССР у 1950-ыя гады слова *тэлебачаньне*, створанае паводле іншамоўнае словаўтваральнае мадэлі, але пры дапамозе сродкаў беларускае мовы (няпоўная лексычная калька). У савецкіх і постсавецкіх слоўніках фігуруе з двух гэтых словаў толькі *тэлебачаньне*. *Тэлевізія*, застаючыся пакуль без лексыкаграфічнае фіксацыі, тым ня менш, характарызуецца ўсё шырэйшай прысутнасьцю ў сучасных тэкстах і жывым маўленьні. Як пакіруецца суіснаваньне беларускіх *тэлебачаньня* й *тэлевізіі*, пакажа час.

Сп. Строкач слушна перасьцерагае не ігнараваць «старых словаў», аднак адным з прыкладаў адстойвае нешта процілежнае. Ён, па-першае, фактычна атаясьняе лексэмы *прыкра* і *крыўдна* (а гэта далёка не абсалютныя сынонімы), па-другое, падводзіць да думкі пра пазычанасьць слова *прыкра*. Такая думка абсалютна беспадстаўная: папросту праславянскае *prikrъ* мае працяг у шэрагу славянскіх моваў, у тым ліку польскай. Нашай жа мове ведамая цэлая група словаў з каранёвай марфэмаю *прыкр* (*прыкры, апрыкры, прыкрасьць, прыкраць (а(с)прыкраць), прыкрацца (а(с)прыкрацца)*). Вось жа, застаецца толькі заахвочваць да шырэйшага ўжытку пералічаных словаў.

Крытыкуючы непераборлівасьць размоўцаў пры выбары лексычных рэсурсаў, сп. Строкач вызначае шчэ два словы - дастаецца *варункам* і *стасункам*. Аднак аналіз беларускае гісторыі гэтых словаў выклікае нязгоду з крытычнымі ацэнкамі іх бытнасьці ў літаратурнай мове. Так, паводле «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», лексэма нямецкага паходжаньня *варунокъ (варункъ)* (з *Wahrung*) ужывалася старабеларускае пары ў трох значэньнях: "умова" (слоўнікавы прыклад зь Літоўскае мэтрыкі: *вси станы згодне поступили и уЂалили...под таким же обычаемъ и* ***варункомъ***), "азначэньне, пастанова" і "ахова, засьцярога". «Этымалягічны слоўнік беларускай мовы» поруч традыцыйнае вэрсіі, што адстойвае польскае пасярэдніцтва пры пазычэньні гэтага слова беларускай моваю ў XVI ст., падае таксама меркаваньне, згодна зь якім старабеларускі *варункъ* трэба выводзіць беспасярэдне зь нямецкага этымону. Якім бы ні быў характар пазычэньня, слова трывала закарэнілася, а гэта адлюстравалі ўжо слоўнікі маладое літаратурнае мовы ў першай трэціне XX ст. (між іншых «Беларуска-маскоўскі слоўнік» М. Гарэцкага, «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча). У перыяд 1930-80-ых *варункі* апынуліся ў лексычным пасыве літаратурнае мовы ў БССР; тым ня менш, гэтая лексэма атрымала стылістычна неабмежаваную лексыкаграфічную нармалізацыю ў пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы». У сёньняшніх тэкстах і жывым маўленьні прыкметна ажыўленыя *варункі* твораць паўнацэнны сынанімічны рад з назоўнікамі *умовы, абставіны, акалічнасьці, становішча* і *сытуацыя*.

Цягам апошняга дзесяцігодзьдзя аднаўляе свае традыцыйныя пазыцыі й лексэма *стасунак* (*стасункі*). Даўняе пазычаньне з польскае мовы, дзе яно зь нямецкага *stoßen* "штурхаць, пхаць; біць, цяць", слова гэтае дзеля сваёй пашыранасьці ў беларускіх дыялектах увайшло ў актыўны лексычны фонд літаратурнае мовы з самага пачатку яе навачаснага ўладкоўваньня. Перажыўшы час лексыкаграфічнага ігнараваньня, у 90-ыя гады *стасункі* вярнуліся ў нарматыўныя слоўнікі беларускае мовы (напрыклад, акадэмічны «Руска-беларускі слоўнік»); форма адзіночнага ліку *стасунак* замацаваная таксама з тэрміналягічным значэньнем "лік, які атрымліваецца ад дзяленьня аднае велічыні на другую" («Русско-белорусский математический словарь», «Тэрміналягічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ» і інш.). Наагул, беручы пад увагу беларускую культурамоўную практыку XX ст., нельга прыняць Строкачавага проціпастаўленьня «чужым» *стасункам* «нашых» *адносінаў*. Рэч у тым, што гэтыя *адносіны* і цэлая група словаў зь іхнага лексычнага гнязда (*адносны, адносна, адноснасьць*) ня раз разглядаліся ўдзельнікамі нацыянальнага моватворчага працэсу як штучныя ў беларускай мове, як прадукт некрытычнага перарабленьня расейскае лексыкі на беларускім грунце (напрыклад, Вацлаў Ластоўскі называў «адносныя» словы жаргоннымі барбарызмамі: «як быццам нешта... адыходзіць ад носу»). У выніку, для непадсавецкае літаратурнае мовы характэрная тэндэнцыя ўнікаць «зусім чужых і дзікіх», як вызначыў яшчэ ў 1929 г. на бачынах часопіса «Узвышша» Антон Адамовіч, *адносінаў*, замяняючы іх у залежнасьці ад нюансаў значэньня беларускімі *дачыненьне, стаўленьне*, а таксама (праўда, радчэй) *узаеміны* і *стасункі*. Тым часам у беларускай савецкай мове назіралася

# А ДЗЕ ЧУЖОЕ?

адваротная тэндэнцыя: адназначна дамінавалі *адносіны*. Гэтае слова нагэтулькі трывала ўелася ў лексычную тканіну нашае мовы, што ўжо, бадай, не выклікае дыскамфорту ў пераважнай бальшыні размоўцаў у Беларусі. Сёньня непажаданыя з гледзішча беларускага моўнага пурызму *адносіны* – усюдыісны кампанэнт сынанімічнага раду, дзе, праўда, ужо зусім ня госьцем пачуваюць сябе й пакрытыкаваныя сп. Строкачам *стасункі*.

Поруч *варункаў* і *стасункаў* трэба спыніцца й на словаўтваральна зь імі аднатыпнай лексэме *пастарунак*. Але найперш адна істотная заўвага, якая датычыць традыцыйна разгляданага ў якасьці польскае словаўтваральнае прыкметы суфіксу **-нак (-унак)**. Гэтая структурная частка групы словаў нашае мовы – нямецкага паходжаньня (з **-ung**). Больш за тое, гісторыя залучэньня старабеларускай моваю паасобных лексэмаў-германізмаў (*рахунокъ, рыштунокъ* і інш.) дазваляе выказаць меркаваньне пра самастойнае (магчыма, паралельнае з польскім) беларускае асваеньне гэтага суфіксу. Вынікам пашыранасьці ў народнадыялектавай мове пазычаных словаў з марфэмаю **-нак (-унак)** стала стварэньне структурна ідэнтычнай «сваёй» лексыкі (*ласунак, мацунак, паправунак* і г. д.). Дык жа няма нічога дзіўнага ў тым, што прынесены праз пасярэдніцтва польскае мовы германізм *пастарунак* (ад *Postierung* "лінія пастоў, вартавая ахова") затрымаўся ў XX ст. на беларускай (перадусім заходнебеларускай) моўнай прасторы і пры гэтым, натуральна, перарос значэньне, зафіксаванае акадэмічным тлумачальным слоўнікам (ТСБМ) – "мясцовае аддзяленьне паліцыі ў Заходняй Беларусі да 1939 г.". Так, паводле «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе паграніччa», *пастарунак* – гэта "пост" (слоўнікавыя прыклады з Баранавіччыны й Пастаўшчыны сьведчаць пра значэньне "пункт (аддзяленьне, участак) органаў правапарадку": *быў тут міліцэйскі пастарунак; ніdалёка быў пастарунак, там дзяжурылі*). Нарэшце, за апошнія гадоў дзесяць *пастарунак* дайшоў і да прыкметнага ўжытку ў літаратурнай мове. Скептыкі могуць суцешыцца тым, што новаўведзенае слова мае апору ў шырокае дыялектавае ўжываньне, а таксама ўзбагачае літаратурную мову ў сынанімічным пляне.

Аўтар успамінанага допісу, настройваючы на выкараненьне польскіх элемэнтаў, пералічае словы, якія ўжываюць «некаторыя ўжо з польскім вымаўленьнем». Як такое разумець? Зьвярнемася да прыведзеных прыкладаў. Найперш – назоўнік *хвіля*. Гэтае слова (паходжаньнем ад старажытнавышэйнямецкага *hwîl* (*hwîla*) "час, гадзіна, імгненьне"), маючы на прасьцягах беларускае мовы некалькі значэньняў (у прыватнасьці, "бура", "мяцеліца, завея", "сварка"), традыцыйна ўжывалася і ўжываецца ў нашай літаратурнай мове толькі ў адным значэньні – "кароткі прамежак часу; момант". Як бачым, гэтая часавая сэмантыка беларускага *хвіля* (а таксама заходнеславянскіх *chwila, chvíle, chvíl'a* і часткова ўкраінскага *хвиля*) стасуецца з сэмантыкаю першакрыніцы. Трэба падкрэсьліць, што праўдападобнае пасярэдніцтва польскае мовы ў працэсе засваеньня моваю беларускай слова *хвіля* ня мела вынікам нейкіх фанэтычных або словаўтваральных зынакшаньняў – польскіх напластаваньняў.

А вось ці ёсьць польскае напластаваньне шчэ ў адной, прыпісанай да чужых, форме? Гаворка йдзе пра *мейсца* з устаўным **[j]** паміж галосным **[е]** і зубным зычным **[с]**. Гэтую форму знаходзім у шэрагу аўтарытэтных беларускіх слоўнікаў народна-дыялектавае мовы, як даўнейшых, так і сучасных (у прыватнасьці, у слоўніку Насовічавым, «Віцебскім краёвым слоўніку» Міколы Касьпяровіча, у вышэйзгаданым «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі...»). Яшчэ на пачатку 30-ых гадоў нашага стагодзьдзя знаны беларускі лінгвіст Янка Станкевіч, дасьледуючы групу фанэтычных зьяваў, фіксаваных у межах беларускае моўнае прасторы, зьвярнуў увагу на рэгулярнае паяўленьне ўстаўнога **[j]** паміж галоснымі **[а]**, **[о]**, **[е]** і зубнымі зычнымі (*войстры, Жойдзішкі, зайдрасьць, кайстрыца, пляйстар, трэйці* і г. д.). Такая фанэтычная заканамернасьць дазваляе паставіць пад сумнеў традыцыйна культываваны погляд пра перанясеньне формы *мейсца* на беларускі грунт з польскае мовы. Аднак – тут увага – пры суісnаваньні ў народных гаворках формаў *мейсца* і *месца* для беларускае кніжна-пісьмовае традыцыі (і савецкае, і непадсавецкае) характэрны выбар варыянту без устаўнога **[j]**. Гэта трэба тлумачыць прынцыпам міжмоўнае дыфэрэнцыяцыі («ня так, як у суседзяў»): упарадкавальнікі беларускае літаратурнае мовы адкідалі форму *мейсца* як структурна ідэнтычную польскай *miejsce*. Вось жа з улікам гэтае традыцыі наўрад ці выпадае сёньня захвочваць ужываньне ў межах літаратурнае мовы рэгіянальнага беларускага варыянту *мейсца*.

Яшчэ адно ў Строкачавым пераліку словаў «з польскім вымаўленьнем» – дзеяслоў *сьвяніць*. Тут крытык нарэшце цаляе ў дзясятку. Але ўсё адно нельга не згадаць працяглае гісторыі беларускага ўжываньня формы *сьвяніць*: выйшаўшы з касьцёльных сьценаў, дзеяслоў *сьвяніць* прыняўся й без абмежаваньняў ужываўся на ладнай частцы беларускага моўнага абшару. Чужое паходжаньне гэтага слова відаць зь неўласьцівага нашай мове спалучэньня галоснага з насавым зычным (на месцы польскага насавога галоснага **ę**). Праўда, гэты палянізм і вытворны ад яго прыметнік *сьвяцоны*, маючы значную апору ў беларускіх дыялектах, рэгулярна выкарыстоўваліся й выкарыстоўваюцца сёньня ў мове літаратурнай. Больш за тое, і *сьвяніць*, і *сьвянцоны* фіксуюцца акадэмічнымі беларускімі слоўнікамі. І ўсё ж, відавочна, пры наяўнасьці агульнабеларускіх словаў *сьвяціць* (*асьвячаць*) і *сьвячоны* (*асьвячоны, пасьвячоны*) абсалютна апраўданымі выглядаюць перасьцярогі ад ужываньня ў літаратурнай мове формаў з чужой фанэтычнай прыкметаю.



А як ставіцца да слова *самаход* у беларускай мове? Сп. Строкач, да прыкладу, іранізуе: «А адзін разумнік напісаў: *самаход*. Лепей бы ўжо *самавоз* прыдумаў». Тым часам акадэмічны тлумачальны слоўнік падае назоўнік *самаход* ня толькі з спэцыяльным значэньнем, якое датычыць падачы разца або дэталі ў мэталарэзным станку; ёсьць і другое значэньне – "назва некаторых машын і транспартных сродкаў са сваёй цягай". Сыходзячы з такога значэньня, хіба ж ня можа насьбіт нашае мовы ўжыць слова *самаход* як сынонім да словаў *аўтамабіль, аўто* (*аўта*)? Упарадкавальнікі беларускае мовы ў пару нацыянальнага моўнага абуджэньня 1910-20-ых пасьлядоўна імкнуліся замяняць іншародны лексычны матэрыял (перш за ўсё тэрміналягічнага характару) беларускімі сродкамі. Таму натуральным на той час было слоўнікавае замацаваньне лексычнае калькі *самаход* (фр. *automobile* < гр. *autos* "сам" + лац. *mobilis* "рухомы"). Поруч *самахода* тады паявілася, дарэчы, цэлая група аднатыпных складаных назоўнікаў і вытворных ад іх прыметнікаў на *сама-* (*самарух* "аўтамат", *самаўрад* "аўтаномія", *самаўладца* "аўтакрат" і інш.). Бальшыня такіх наватвораў ня выжыла. Адну з прычын гэтага можна бачыць у тым, што мова-арыенцір з 1930-ых - расейская - ня мела к таму часу калькаваных з уласнарасейскага матэрыялу адпаведнікаў да названых і шэрагу іншых інтэрнацыяналізмаў. У выпадку слова *самаход* фактарам выкіданьня яго ў пасыўны фонд нашае мовы выступала й шырокае ўжываньне аднамадэльнага *samochód* у польскай мове. Як вынік, у ацэнках беларускіх лінгвістаў *самаход* набыў кляймо «палянізму», а гэта значыла, што безь яго беларуская мова павінна абысьціся, маючы на ўжытак усясьветныя *аўтамабіль, аўто* (*аўта*). І сёньня, здаецца, трэба прызнаць фактычную адсутнасьць тэндэнцыі на ажыўленьне гэтага слова ў межах літаратурнае мовы. Разам з тым, ідучы за ўспамінанай вышэй слоўнікавай фіксацыяй і беручы пад увагу гісторыю лексэмы *самаход* як у літаратурнай мове, так і ў народных гаворках, не выпадае, прынамсі, сьцьвярджаць пра недапушчальнасьць яе ўжываньня ў нашай мове.

Затое ёсьць падставы ўсьлед за сп. Строкачам патлумачыць непажаданасьць ужываньня ў беларускай літаратурнай мове двух нядаўніх пазычаньняў з польскае – словаў *плыта* і *выкшталцоны*. Першае з гэтых словаў, захоўваючы арыгінальны націск, у беларускім кантэксце суадносіцца хутчэй з *плытом*, якім плывуць, чым з кавалкам, скажам, мэталу з плоскай роўнай паверхняю. У адрозьненьне ад грэцкае першакрыніцы *plinthos* ("цэгла") і нашае рэалізацыі *пліта*, у якіх зычны **[л]** мяккі, для польскага слова *płyta* характэрная цьвёрдасьць другога зычнага асновы. Этымоляг А.Брукнэр прытрымліваўся думкі, што памянёная цьвёрдасьць магла прыйсьці ў польскую мову з украінскае (*плита*). У беларускай мове ненатуральная форма зь цьвёрдым **[л]** паявілася ў выніку перанясеньня на беларускі грунт польскага слова *płyta* ў адным зь яго значэньняў – "дыск з гукавым запісам для прайграваньня". Прыхільнікі такога пазычэньня, відавочна, ня ведалі пра зробленую больш як паўстагодзьдзя назад сэмантычную кальку - беларускаму слову *плітка* было дадзенае новае значэньне паводле сэмантыкі іншамоўнага (польскага) слова (прыклад з тыднёвіка «Бацькаўшчына» (1951. N 76.): *Ня раз ужо гаварылася ды пісалася аб патрэбе насьпяваньня **грамафонных плітак** зь беларускімі песьнямі*). Такім чынам, высьцерагаючыся прыкрага палянізму *плыта*, беларускія размоўцы маюць з чаго выбіраць, каб назваць прайгравальны дыск: побач з традыцыйнай *пласцінкай* ёсьць бездакорная ўласнабеларуская *кружэлка*, а таксама праілюстраваная *плітка*.

Лексэма польскага паходжаньня *выкшталцоны*, якая, быццам на заказ, на дзіва порстка прабралася ў маўленчую практыку маладых беларусаў, разьвіла на беларускім грунце новыя значэньні. У сёньняшнім маўленьні *выкшталцоны* - гэта зусім не сынонім да *адукаваны* (пол. *wykształcony* "адукаваны; узгадаваны, выхаваны"); носьбіты беларускае мовы, як правіла, ужываюць гэтае слова з даволі шырокай сэмантыкаю – "тонкі, вытанчаны; зграбны, элегантны; дасканалы, адборны; рафінаваны" (для ілюстрацыі першы-лепшы газэтны прыклад (ЛіМ.1997.N 49): *І таму даўно час вярнуць ансамблю колішні выкшталцоны выгляд...*). Бянтэжыць фанэтычнае аблічча пазычаньня: гук **[ц]** на месцы дапісьмовага спалучэньня **tj**, якому адпавядае беларускі **[ч]** (параўн.: *сьвяціць - асьвячоны, гваліць - гвалчаны*). Вось жа адаптаваная пад заканамернасьці беларускае фанэтыкі лексэма *выкшталчоны* ў залежнасьці ад гіпатэтычнае ўтваральнае базы (калі дапусьціць магчымасьць існаваньня ў нашай мове адназоўнікавых дзеясловаў *выкшталціць* або *выкшталтаваць*) магла б выглядаць так: *выкшталчаны* або *выкшталтаваны*. Але ці варта ўвогуле, узяўшыся за польскае слова, утрапёна яго падпраўляць?

Пры канцы гэтых зацемак выкажу перасьцярогу: выносячы вырок таму ці іншаму слову, ніяк не абысьціся без уліку яго традыцыі ў мове. Трэба памятаць, што зазвычай старыя пазычаньні – гэта арганічныя элемэнты лексычнага складу мовы. Абачлівы падыход пры абыходжаньні з словамі дапаможа нам, прынамсі, не прымітызаваць сваёй мовы. Выразаючы чужое, будзьма пільныя, каб ня выразаць неўспадзеўкі свайго.

**Юрась Бушлякоў**

# КРЫЎДА І ПРАЎДА

## ў беларускім культурным кантэксьце XX ст.

*Працяг са старонкі 1.*

**Зразумела, чаму літаратуры спатрэбілася прыдумляць крыўду. З аднаго боку, крыўда мусіла правакаваць у чытача жаданьне праўды. Зь іншага боку, крыўда — гэта хлусьня, безь якой не магла абысьціся беларуская савецкая літаратура. Ці ня стала крыўда адной з прычынаў падзеньня папулярнасьці нацыянальнае ідэі, літаратуры і мовы ў народзе?**

**Усё наша нацыянальнае адраджэньне мае ў сабе гэты матыў — пакрыўджанасьці, у першую чаргу, калі заходзіць гаворка пра беларускую мову. Гэты плач ці нават хныканьне абавязкова прысутнічалі на ўсіх зьездах пісьменьнікаў апошніх гадоў. Пры гэтым не зьвярталася ўвагі на тое, што такім чынам выяўляецца слабасьць, бездапаможнасьць і тое, што паэт Ігар Бабкоў назваў маргіналізацыяй літаратуры.**

**У словах Адама Глёбуса пра тое, што ня крыўду трэба паказваць, а праўду, мне бачыцца і выразны палітычны кантэкст таго, што адбываецца сёньня ў Беларусі. Менавіта пакрыўджанасьць беларусаў увасобілася ў іхным волевыяўленьні на першых прэзыдэнцкіх выбарах. Чалавек, якога яны абралі з-за крыўды на Кебіча і іншых тагачасных начальнікаў, скардзіўся, што яго абстралялі ў машыне, што яму абарвалі гузікі, што ён адпомсьціць карупцыянэрам, плакаў, калі яму казалі крыўдныя словы, пасьля садзіў у турму ўласных паплечнікаў і тых, хто калісьці зь ім ня так абышоўся. Сёньняшняе фізычнае катаваньне сямідзесяцігадовага старшыні калгаса, пяцідзесяцігадовае банкіркі ці саракагадовага палітычнага апанэнта ня маюць ніякага іншага рацыянальнага вытлумачэньня, апроч асабістай крыўды Лукашэнкі. Лукашэнка і крыўда сталі сынонімамі. Гэта пацьвярджаецца і тым, што Лукашэнка і Праўда складаюць трывалую антанімічную пару. Бадай не бывае дня, каб гэты чалавек ня схлусіў. Менавіта ППРБ стаў той крыўдай, якую нясуць беларусы сёньня на сьвет цэлы.**

**Першай рэакцыяй інтэлігенцыі на дзеяньні й выказваньні прэзыдэнта таксама была глыбокая крыўда. Беларусы ўскрыўдавалі на ўласную крыўду і некалькі гадоў толькі пра тое й гаварылі. Але ад таго нічога не зьмянялася, наадварот, рабілася толькі горш. І вось сёньня ўжо амаль не чуваць звыклых словаў крыўды з вуснаў духоўных лідэраў нацыі. Наадварот, яны выкрываюць хлусьню і заяўляюць пра вызваленьне ад крыўды. Паказальныя апошнія публічныя выказваньні пра патрэбу выпрацоўкі новай нацыянальнай ідэі. Старая не задавальняе. Магчыма, мы назіраем тую эвалюцыйную зьяву, калі адбываецца зьмена галоўнага матыву нашай нацыянальнай ідэі і нашай літаратуры, калі ў іх замест крыўды пачне ўвасабляцца праўда, а эфэмэрнае і маргінальнае адраджэньне стане сапраўдным.**

**Сяргей Паўлоўскі**

Я пытаўся ў мінакоў, што для іх значыць крыўда, чым яна выклікаецца. Часьцяком людзі адказвалі, што стараюцца пераводзіць гэтае пачуцьцё ў іншыя якасьці. Як, напрыклад, гэтая маладая кабета, якая працуе журналісткай:

— Я часьцей ня крыўджуся ўвогуле. Мяне выводзіць зь сябе чужая бездакзаднасьць. Я магу раззлавацца, але крыўдлівасьць мне не ўласьцівая. Былі выпадкі, калі я сядзела і плакала. Так рабілі тысячы людзей, напрыклад, 15 траўня 1995 году... Часьцей, вядома, крыўдзісься на тых людзей, якія табе бліжэй. Я часьцей крыўджуся на свайго дзіцёнка, калі ён ня слухаецца.

Вось меркаваньне іншай кабеты:

— Няўпэўненасьць, сумневы... А на каго я павінна крыўдаваць? Толькі на сябе.

Бард Андрэй Мельнікаў распавёў пра расчараваньне ў сябрах, у людзях, у якіх ён верыў:

— Калі здраджваюць людзі, якіх я лічу сваімі. Для мяне найбольш паказальнай стала сытуацыя, калі я быў за кратамі.

Андрэй распавёў пра тое, што доўгі час ён казаў сукамэрнікам пра салідарнасьць беларускіх нацыяналістаў, але так і не дачакаўся падтрымкі. У той жа час ён прывёў у прыклад некаторых прадстаўнікоў сучаснай беларускай апазыцыі:

— Хутчэй я бачу там людзей, якія пакрыўджаныя гэтым рэжымам, і ім усё роўна, пад якімі сьцягамі зь ім змагацца.

А гэта меркаваньне кабеты-супрацоўніцы адной зь дзяржаўных структураў:

— Падман, несправядлівасьць, недаацэнка людзей. Увесь час сутыкаесься з гэтым, у на-

# НЕ ГАТОВЫЯ ПРЫМАЦЬ ВЫБАЧЭНЬНЯЎ

Часьцяком езьдзячы зь Вільні ў Менск і назад, я станаўлюся сьведкам бясконцых гамонак сваіх суайчыньнікаў пра іхныя крыўды. Крыўдзяцца на мытнікаў, сваіх і літоўскіх, на прэзыдэнта, на апазыцыю, на калгаснае начальства, на тых, хто падымае кошты, хто плоціць мізэрныя заробкі і на тых, хто сам зарабляе добрыя грошы. Спробы павесьці гаворку ў рацыянальным рэчышчы, напрыклад, параўнаць нашую сытуацыю зь літоўскай або ўкраінскай, ня маюць посьпеху. «Літва яна ж маленькая», — адказваюць. «А Ўкраіна?» «Дык яна ж вялікая...» Карацей, выйсьця няма. І яго не шукаюць. Маім выпадковым субяседнікам лягчэй пачувацца пакрыўджанымі самотнікамі.

Ці не таму беларусы супрацьпастаўляюць «мы і Эўропа»? Бо мы пакрыўджаныя. Бо мы ня зь імі. Гэта ў іх — спрадкаваныя законы і побыт, поўныя кішэні і талеркі, здаровыя зубы і валасы. Гэта ў іх — ашчадна дагледжаныя помнікі і музэі, чыстыя лясы і горы, модныя адзеньне й парфума. У іх, нашчадкаў нямецкіх і італьянскіх фашыстаў, ангельскіх і францускіх каланізатараў, нават ў былых



вугорскіх і чэскіх «таварышаў». А мы ня зь імі. У нас ставяць новыя помнікі Леніну і носяць чырвоныя зоры. Іншыя ж па-ранейшаму з надрывам скандуюць «Беларусь у Эўропу...», хоць што такое Эўропа і якой мусіць быць у ёй Беларусь, ніхто пакуль не сказаў. Крыўда — пачуцьцё ірацыянальнае.

Матыў крыўды, пранесены намі праз XX стагодзьдзе, стаў адным з найбольш магутных фактараў фармаваньня нацыі. Крыўда адрозьніла беларуса ад іншых. На пачатку прычына была нібы ясная: пан-паляк, жандар-маскаль і гандляр-жыд смакталі крыўю з паняволенага неадукаванага, «сьляпога, быццам крот», беларуса.

Пасьля нібыта таксама ясна: нямецкі фашызм, маскоўскі бальшавізм «не пускаюць зь ярма». І крыўда ўжо гатовая была саступіць месца

# КРЫЎДА І ПРАЎДА

Шаноўная газэта «Наша Ніва»,

бяда мая такая: мае сыны незаконна, у парушэньне ўсіх правоў чалавека, ня хочуць вярнуць сабе сапраўднае, бацькоўскае і дзедаўскае прозьвішча, адвечнае, унікальнае, якое па дакумэнтах Берасьцейскага архіву прасочваецца да 1536 году. Мне ў савецкі час з-за ўціску і тагачаснай палітыкі прыйшлося ўзяць іншае прозьвішча, а цяпер сыны... Я пісаў ужо ў «Звязду», «Вячэрні Брэст» і «Народную волю», але ніякага адказу не атрымаў. Спадзяюся на вашу дапамогу, бо адзін хлопец у цягніку казаў мне, што вы — найпраўдзівейшая ў Беларусі газэта, самая *наша*. Толькі вы не падумайце чаго — вам піша нармальны чалавек.

Во — пішу ліст і пачынаю з даказваньня, што я не вар'ят. Гэта, мабыць, і ёсьць старасьць. Ведаеце, ня так старасьць страшная, як вар'яцтва на старыя гады, каб сам сабе парадзіць ня мог. Цяпер сочыш за сабою, перадумваеш, варожыш — ці ты такі, як быў, ці сьвет такі... Але й бачыш, чаго раней ня бачыў.

Неяк іду я ля станцыі Брэст-Палескі, дзе за Саветаў стаялі вагончыкі, і ў іх людзі жылі (я ехаў ад сына, езьдзіў на Рэчыцу, у бальніцу і заехаў да сына), і пераходжу там цераз калеі: ляжыць пад рэйкаю ў ямінцы дзясятак іржавых бляшанак з-пад ваксы, калісьці ваксу ў такіх прадавалі. Мае дзеці, як былі малыя, гулялі такімі бляшанкамі ў «ордэны і мэдалі», называлася. Крэсьлілі на зямлі дзьве рысы, адну ля адной, і кідалі бляшанкі. У каго бляшанка ляжа на першую — таму залічваецца мэдаль, у каго на другую — ордэн. А ў каго больш, чым на пядзь за другую заляціць, той згарэў. Так і ў жыцьці: адзін мэдалёў назьбірае, а другі рызыкне ордэн выйграць і згарыць, трэцяму пашыхуе, а чацьверты зусім ня хоча гуляць. Канец жа ўсім адзін.

Іншы раз глядзіш — і сьлёзы цякуць. Пад верасень, пад Спленьне выйшаў увечары, а на клуні бусел стаіць. Адстаў, думаю, небарака. Ажно не, на хвоі яшчэ тры, і на ліпе, і на яблыні, і ў суседзяў. Калі буслы пасьля Спаса затрымліваюцца, значыць, на цёплую восень. А вечары ўжо халодныя, за сьпіну бярэ. Холад першы — такі тужлівы. Пакуль лета, пакуль цёпла, здаецца, і той сьмерці няма, і той старасьці няма, і канца жыцьцю няма, а холад першы бязьлітасны: усё зялёнае, сама сьпее. І стаяць тыя буслы проста во тутака, цягнуць шыі, глядзяць на цябе, як ніколі чалавека ня бачыўшы. Мо' дзе ў Расеі выгадаваліся, то й ня бачылі. Хто гарадзкі, у таго, мо', сэрца ад якой музыкі растрывожыцца, ад якой перадачы па тэлевізары, ад якой безьдзялушкі, а ў нас на вёсцы хіба што ад цішыні. Стаяць буслы, і хоць бы дзе што зварухнулася. Ні вятрынкі, ні галасінкі. І цішыня стаіць увушшу, о якая цішыня нам у сяле цяжурная! Я буслоў люблю, я б на іх пашпарты беларускія павыдаваў. Вазьмі ты Расею (я знаю, я служыў у Петразаводзку) ці я во быў у сястры сваёй у Італіі: ці ж там буслоў столькі е? Можа, дзе й е, але ці яны так да людзей горнуцца?

То праз гэтую цішыню згадваць пачынаеш. Згадаеш бацьку. Усе кажуць «Божа мой, Божа мой», а стары ніколі не казаў «Божа мой», заўсягды — «Божа наш».

То як каву п'ю — а бацька трохі чудны быў, каву любіў і любіў быў узяць кубачак кавы, пойдзе сядзе на лаўку пад грушку, вып'е глыток і сьпявае. Адсьпявае куплет, яшчэ глыток вып'е. «Каб лепш смак у роце стаяў». І любіў ён песьню пра зялёную вішню, што ўсе знаюць. Мне чамусьці сама стаяць у галаве тыя куплеты, каторыя зь лічбамі. «Згадай мяне, маці, хоць раз у аўторак, а я цябе згадаю на дзень разоў сорак». Бацька дзелавы быў, пасьпеў за Польшчай пабыць у Амэрыцы на заробках. Або маці згадаю. Бывае, наварыць баршчу, кавалак мяса, сядзе проці мяне, глядзіць, як я ем. «Еж, — кажа, — сынку, еж, выбірай любовае мяса; не шкадуй сабе, пакуль малады; будзеш стары, усё ў цябе будзе, а зубоў ня будзе». Такія дробязі ўсякія згадваюцца, якіх цяпер ужо не здарасцца. Хіба што вайна вырвецца, каб такія дробязі пачалі здарацца зноў.

Як гарэлка. Цяпер гарэлка не выводзіцца — таньнейшая, ці што? Але п'еш, п'еш, а смаку няма. Калісьці ж, бывала, прыедзе сванька, прывязе сьвежыны, хрэну. Як знарок, пляшкі ня будзе. Бяжыць жонка да суседкі пазычаць. П'еш — у смак!

То згадаеш унука. Яму тады годзікі тры было, як мяне судзілі. Падбяжыць, і тыча дзеду ў кішэні цукеркі. Памёр ён ад раку. І жонка мая таксама ад раку памёрла. У нас тут ва ўсіх у Беларусі рак. Я быў бы ажаніўся зноў, удваіх жыць весялей; але дачка забараніла, сказала: буду прыяжджаць, праць, чысьціць, але калі якую прывядзеш, я больш ні нагою. Ведама, дзецям ня хочацца, каб хата каму чужому папалася. Карову не трымаю, казу трымаю. Дактары раяць. У мяне тубэркулёз. З-за таго, што я паўтара году ў турме быў у Івацэвічах. За крадзёж. Грузчыкам я працаваў на панчошна-шкарпэткавай фабрыцы. Узімку 86-га пасадзілі. Бульбу саджу, садок. Ведаеце, дзеці цяпер у арэхі ня лазяць. Маюць тыя самыя арэхі, толькі ў чакалядах. Куры, сабакі, кот.

Во як жывем — усё больш маўчым. Аўталаўка прыяжджае раз на тыдзень, прывозіць хлеб, масла, піва, селядку. Паштальёнка — два разы на месяц, адзін раз пэнсію прыносіць, другі — бярэ гро-

## Аліцыя

***

Табе няўтульна. Ты ня можаш быць самім сабой.
Хоць вусны крывяцца ва ўсьмешцы, ты смуткуеш.
Тваімі думкамі даўно кіруюць сум і боль.
Ты сочыш за сабой. Ты на сябе палюеш.
Твае сябры стаміліся ўздымаць табе настрой
І больш ня клічуць на вячэрнюю вандроўку.
Ты апранаесься ў жалобны чорны строй,
Што так пасуе да тваіх вачэй. І зноўку
Зьнішчаеш колькі пачак цыгарэт штодзень,
Шчыруеш зь незнаёмымі за танным півам…
І толькі ў снах адбіткі колішніх падзей
Нагадваюць, што некалі ты быў шчасьлівым.
І ты абраць ня можаш свой далейшы шлях:
Пачаць жыцьцё наноў? Наноў чакаць удараў?
Ці перакрэсьліць гэты сьвет? Ён у тваіх руках!
Ты пакідаеш на запясьці бранзалеты шнараў…

***

*Зьмітру*

Палымяная споведзь вянком неахайных радкоў
Нерашуча кладзецца на аркуш цнатлівай паперы.
Адпускаю пачуцьці ў палон вершаваных памераў,
Атрамантавых літараў, словаў, паганскіх замоў.
Надыходзячы ранак расквеціць усьмешкаю твар,
Надыходзячы дзень прынясе купу новых турботаў,
Надыходзячы вечар – вяртаньне дадому з работы,
А наступная ноч – зноў спатканьня з табою цяжар.
Дасканалая постаць, нахабнасьць, агонь у вачах,
Выкшталцонасьць, прывабнасьць, упэўненасьць рухаў…
Я маліла аб літасьці – ты не паслухаў.
Выглядаю травінкаю кволай у моцных руках.
Правінцыйны гармідар, чыгуначны грукат, мароз.
Горад брудны ды цесны, няўтульны, нібыта скляпеньне.
Ты адзіны ратункам маім у яго сутарэньнях,
І адзіны салодкай атрутай і вострым лязом.

## Аляксандар Антончык

ЗАМЕЖНАЯ МОВА

Усе мядзьведзя абзывалі
Лайдаком, тупіцам,
Бо рабіць ён ленаваўся,
Так, як і вучыцца.

Кніг ніякіх не чытаў,
Салаўёў ня слухаў,
Усім казаў, што яму дзядзька
Наступіў на вуха.

Сабраліся зьвяры неяк
Ў лесе ля крыніцы,
Каб рашыць, як лёс уладзіць
Неслуха-дурніцы.

Калі выступілі ўсе,
Ўнёс лось прапанову:
«Хай ідзе ён вывучаць
Іншаземну мову.

Нам даўно ужо патрэбен
Дыплямат талковы,
Які б меў давер у вёсцы
Ў ягнятаў і каровы».

Як сказалі, так зрабілі –
Чаго больш кумекаць.
І пачаў мядзьведзь вучыцца
Тут жа блеяць-мэкаць.

Так і сяк стараўся, роў
На усе манеры,
Што страшней суседзям стаў
Грому і халеры.

Ноч прароў безь перапынку –
Не ўдаецца мэкаць,
Толькі голас загубіў,
Стаў ім кукарэкаць.

Кукарэкае, сіпіць,
Ўверсе вятры дуюць,
І ня бачыць, што воўк зь ліскай
Ідуць-шпацыруюць.

Ўчула ліска голас пеўня
Кажа: «Пачакай тут, Вова,
Курэй доктар прапісаў мне,
Каб была здарова».

Падкралася да кустоў,
Скок туды зьнянацку,
Затрасло зямлю навокал,
Як карабель ў качку.

Быццам бура узьнялася
Між густога бору,
Гальлё й трэскі паляцелі
Аж да сіня мора.

Ўрэшце сьціхла. Воўк дрыжыць,
Ідуць, ляцяць хвіліны,
Замест ліскі мядзьведзь выйшаў,
Сеў каля яліны.

Кіпцюром з зубоў дастаў
Мяса кус здаровы
Й кажа: «Мне пайшоў на карысьць, бачу,
Курс замежнай мовы».

## Ігар Камікадзэ

***

Краіна-фантом…
Быццам ёсьць, быццам не.
А што там за герб
На шурпатай сьцяне?
Куды адлятае
Ў таксычным тумане
Бусел-мутант
На тэлеэкране?
Што п'юць тыя людзі
Гарбаты замест?
Хто ведае зь іх
Канстытуцыі зьмест?
І што там за брага
Ў галовах кіпіць?
І хто будзе заўтра
Ў краіне той жыць?
І як будзе жыць?
І ці будзе там заўтра?
Хто ведае праўду?
Ці трэба ім праўда?

ФАС!

*Камунізм – гэта фашызм для жабракоў.*

*Габрыэль Гарсія Маркес*

Ну што, грамадзяне, пашчасьціла вам?
Загналі і Сонца за краты?
І хто ж сёньня вораг ружовым снам?
Хто ж будзе ва ўсім вінаваты?
Бязгрэшны, каго назаве правадыр
Крыніцаю вашых бедаў?
Кагосьці ж дазволіць парваць на шматкі,
Каб моц вашу вораг ведаў.
Багатых грашыма, тым болей – душой
З агульнасьцю масы зраўняе
Бацька народа. Жалезнай рукой
У шчасьце ўвапхне. Ці зламае.
Бо той, хто ня з вамі – той супраць вас.
Калі не пакаяўся – зьнішчыць.
Ня можа быць побач «іншых»,
Ніякіх сумненьняў.
«Народ мой… Фас!..»

ПАДСЬВЯДОМАСЬЦЬ

*І.У.*

За 101-м кілямэтрам ад сьвядомасьці
Край, дзе вольна дыхаецца жахам,
Думкі там заблыталіся ў роўнасьці,
Лёгіка пасыпаная прахам.
Край, што падабаецца філёзафам,
Што чыталі Фройда ў перакладзе,
Тут карэньні абэрацый розуму,
Сеяных яшчэ ў дзіцячым садзе…

## Дзед Карней

БЛАКІТНАЯ ЛАСТАЎКА

*Прысьвячаецца «Запарожцу»*
*Зьм. Бартосіка*

«Блакітнаю ластаўкай» неяк
Цябе я, сябрук, ахрысьціў,
І ты мне натужнаю працай
За гэту пяшчоту плаціў.
З тваёю, сябрук, дапамогай
Я край свой увесь скалясіў.
А ты, хоць здаесься нябогам,
Ня есьці, ня спаць не прасіў.

Ня страшнымі былі з табою
Ні сьпёка, ні холад, ні газ –
Надзейна ад іх укрывала
Кабіна твая, любы ЗАЗ.

З табою здабыў сваю славу
І грошай з табою скапіў…
А ўчора зайшоў у аўтакраму…
І новую «тачку» набыў.

Бывай жа, блакітны мой сябра,
Дзень добры, блакітная мара!
Усё ж «Запарожац» і AUDI
Ня пара, як хочаш, ня пара!

Скупую сьлязу абраніла
Разьбітая сябрава фара,
І дзынкнула моцна, надрыўна
Струною парванай гітара.

## Алесь Ляскоўскі

БЕЛАРУСКІ МЭСІЯ

Не было даўнавата ўжо ў нас важака
Па прызваньні такога, як дар Пазьняка.
Жыць сумленна ды годна, а не абы-як,
На пазыцыях гэтых шчыруе Пазьняк.

А што зьехаў спадар за мяжу ў эміграцыю,
Дык на гэта ён меў усё ж пэўную рацыю:
Не сядзець жа яму ў бальшавіцкай турме,
Калі стогне Айчына ў імпэрскім ярме!

І Пазьняк, і Навумчык там, у эміграцыі,
Тытанічнай, карыснай занятыя працаю.
Беларускае заўтра – іх сёньняшні клопат,
На такіх, як яны, Беларусь мае попыт.

Што на лёс Беларусі ўплывае Пазьняк,
Толькі тыя ня могуць уцяміць ніяк,
У каго ў галаве палітычны скразьняк.
Крытыкуюць яго «дзеячы» некаторыя.
Справядліва ацэніць жа толькі Гісторыя!

## Аксана Марозава

***

Сяджу ля расчыненага вакна.
Ўзіраюся ў цішыню.
Чаму я адна? Я заўсёды адна.
Нікога – пакуль – не віню.
Высока. Ня помню, які паверх.
І горад – ня горад, макет.
Паверыць? І штосьці мне шэпча: «Вер».
Акно. Падваконьнік. Паркет.
Праз колькі хвілін прачынаецца страх,
Амаль падсьвядома – злосьць:
Нашто? З-за чаго? Ці – няўжо – проста так?
Маланкай – душа. Млосьць.

## Браніслаў Пяткевіч

ЛЯНОТА

Чакаем гожых перамен,
Надвор'я добрага ад мора,
А тут някемлівы бязьмен
Дае кірунак нам да гора.
Пра шчасьце нечага казаць,
Яно ў адзінстве з барацьбою.
Лазу пабачыўшы каза,
Ня стане кешкацца з хадзьбою.
А мы ляжым, плюём у столь,
Хаваем доўгае цярпеньне,
Каб час адкрыў сакрэт-пароль
Для нас жаданае збавеньне.
Сплывец у рэках шмат вады,
Мільгнуць у вечнасьці стагодзьдзі,
Шляхі упруцца ў нікуды,
Вясна завязьне ў разводзьдзі,
Бо розум сьмеласьці аслаб,
Таўсьцее покрыва туману,
А нашых сэрцаў ціхі раб
Чакае літасьці тырана.

НЕЛЕГІТЫМНАЕ

Рэфэрэндумны ўрад,
Як для голых пальцаў восы,
Як улетку вадаспад
На духмяныя пракосы.
Нарадзіўся не ў законе –
Ад інтрыгі дыктатуры,
І жывець, як у палоне,
Як гнайнік на чыстай скуры.
Не прызнаў шырокі сьвет,
Бо ён яўны самазванец,
Не вядзець ні ў буфэт,
Ні на гожы, добры танец.
Толькі хітрыя сябры
Зь ім гуляюць шуры-муры,
Прайдзісьветы-махляры
За пажыткамі багры,
Што таксама не ў законе,
Нарачоныя браты –
У адным глухім загоне,
Дзе гуртуюцца на ты.
Мажуць лёс уласным сокам,
Запакованым кублом,
Хто ляжыць, а хто з падскокам
Дасягае столі лбом.

## Віталь Стахіевіч

***

Блукаю вуліцамі Менску
Іду з кнігарні у кнігарню
Самотны думаньнік віленскі
Я п'ю гарбату у кавярні

Між гмахамі халоднай Лодзі
Здуваю пену з куфля піва
У мэтро бурлівым пераходзе
Кіянка зіркае гульліва

У Віцебску марозным ранкам
У жыдоўскую заходжу краму
Старанна абмінаю панкаў
Ля лёнданскай вакзальнай брамы

Ў Галяндыі ў вясковым клюбе
Я п'ю шампанскае з гарэлкай
У дзеда ўвечары ля грубы
Старыя слухаю кружэлкі

Мінаючы краіны й вёскі
З імгненьняў лепяцца ўспаміны
Ад тэкстаў адпадаюць коскі
А горкія рагочуць кпіны

***

Між кішэнямі ды бразготкамі
Загубілася нешта значнае.
Між аголенасьцю ды вопраткай
Зьневажанае штосьць нябачнае.

Праз адрозьненьні мы, нячулыя,
Разгубіліся, адкаснуліся,
Паняверкаю сэрцы мулкія,
Як папераю, абгарнуліся.

Адкахаліся, адчакаліся…
Панамарылі, панахлусілі,
Ад рамантыкі адлякаліся
Ды разумнымі стацца мусілі.

## Ш.Урузманава

КАЛЫХАНКА ДЛЯ ПАЭТА

Цішэй, калі ласка, я засынаю…

Бездакорныя рысы
Падагнаныя рыфмы
Адпаведныя фарбы
… Каляровыя сны

Што пэрымэтр краіны
Разбураюць патроху
Што плывуць між аблокаў
У кірунку вясны

Будзе ранак цудоўным
І ў чаканьні Калядаў
Можна глянец наводзіць
Толькі цяжка заснуць

Сьпі спакойна, Паэце
Дасканалыя словы
На дагледжаных градках
Уначы падрастуць

Мы навучымся дыхаць
І забудзем пра дзьверы
Пакладземся ў ложкі
Галавой да вясны

А каб добра спалося
Кінем пернік за краты
Дзе сумуюць ў шуфлядзе
Каляровыя сны

## Вітаўт Чарняўскі

***

*(Урывак з паэмы)*

Гляджу я на чыстае неба,
На дрэва бязь лісьця гляджу.
Свабоды мне трошачкі трэба,
Бо я ўжо тут доўга сяджу.

Мне згадзіла неба ў палоску,
Хачу я на волі гуляць,
Хачу закурыць папяроску,
А ўсім на мяне напляваць.

Я зэк, я пабрыты злачынец,
Па дробязі я заляцеў,
Мне дзьверы ніхто не адчыніць,
А я б на свабоду хацеў.

Як мне тут хрэнова і цяжка,
Я плачу, крычу – ўсё дарма.
Хацеў бы маленькай быць пташкай,
Каб вылецець з тога дзярма.

За рукі, і ногі, і шыю
Схапілі мяне кайданы.
Ад болю ў душы ледзь ня выю,
Ня ўбачу радной стараны.

І вось адкрываюцца дзьверы,
І сьлепіць мяне яркі сьвет.
Шкада, што я ў бога ня верыў,
Ня чуў я яго запавет.

## Аляксей Шаблоўскі

СЛОВА

Стварыў ты слова для сябе.
Яно жыло, яно палала.
Ты адышоў, а ўсьлед яно.
Усё зьнікла, усё прапала.

Стварыў ты слова для сяброў.
Пазабаўляліся ім трошкі,
Пагаманілі і далоў:
Сплыло яно з вадой патрошкі.

Стварыў ты для Народу слова,
Яго ня згубяцца сьляды.
Яно замрэ і ажыве нанова
І будзе зіхацець заўжды!

## Аляксей Шыдлоўскі

ЗОМБІ

Досыць ужо, досыць
Выгляд рабіць, што штосьці
Выправіцца яшчэ,

Бачылі ўжо ўдосталь
Мы беларусаў косьці…
Трэба прыклад ярчэй?!

Ведаеце ж, што трэба
Рваць зь нецярпеньня плёмбы,
Здраднікаў гнаць зь зямлі.

Як нас трымае глеба?!
Мы ж не народ, мы – зомбі,
Што ўжо аджылі.

***

Запаліся, зорачка,
Пракаціся зьнічкаю…
Ледзяным узогорачкам,
Зьмерзлаю крынічкаю.

Да свае я мілае,
Ды знаёмай сьцежачкай,
Пайду ночкай стылаю
Крокам-перабежачкай.

Панясу ёй вестачку
Полем скрозь засьнежаным.
Гаем-пералесачкам,
Гасьцінцам заежджаным.

У вёсачку далёкую
Я прыйду пад раніцу,
І калі да весьнічак
Крокаў сто застанецца,

То й заб'ецца сэрцайка –
Выйдзе мая ласачка,
Мілая, прыгожая,
Палявая красачка.

Моцна абдыму яе,
Пацалую, родную,
У вусны чырвоныя,
Файныя, лагодныя.

І шапну ласкава ёй.
«Будзь маёй ты жонкаю!»
Працягну пярсьцёначак,
Залаты, з каронкаю.

І удзячнасьць ейную
Целам ўсім адчую.
«Мілы мой, я згодная», –
У адказ пачую…

***

Аніводнага дня бяз суму,
Аніводнага дня бяз мары,
Толькі аб Волі думы,
Погляд толькі ў хмары.

І быццам на вуснах сода,
Даждлівы й брудны нарыс…
На імгненьне спыніся, свабода,
Адкажы мне, якая ты зараз…

## Сяржук Шмялёў

ВЯШЧУН

Гэй, крумкачу чорны, песьню, што пяеш,
На каго чакаеш, на каго ты жджэш?
Вокам сваім змрочным што мне ў твар глядзіш,
Што застыў на месцы, ў неба не ляціш?
Ты хіба вяшчуеш злую мне бяду,
Што пакою ў сьвеце гэтым не знайду?
Што паморку вецер прынясе на нас,
Што краіна згіне у крыві заўчас,
Што на барыкадах кішкі нам матаць,
Што ў засьценках цёмных моўчкі нам канаць.
Што да згубы сьвету будзе радзіць кат.
Адлятай ты прэчкі, чорны супастат!

***

Ночай выйшаў, зірнуў –
Неба чорнае,
Зоры ў ім – незьлічоныя.
Адная ў цэнтры – найкрасная,
Чырвонага колеру,
Гарыць як яска,
Ў полымі, мэрам жар-краска.
Справа ясная,
Справа гонару!
Лякайся, алігархія! –
Анархія йдзе,
Анархія…

PIROMANIA

Гэй, давайце сьмяяцца, бушуе пажар,
На відовішча-жар я так хутка бег,
А вагонь так пажадліва бёрнаў цяжар
Разразаў, як лязо удалога нажа,
То ляжаў, то ляцеў, то ён ружай квітнеў,
Гэты жах я глядзеў і, як трэ', вар'яцеў.
Як вужака я ў дрыжыках біцца жадаў,
Але, як у дзяржавы, ў пажару мяжа
Ёсьць таксама, на жаль, і з вадою дзяжа
Пралілася стакротна, вагонь асаджаў…
І пабег тады новы пажар я раджаць.

Вагонь ласкае маю скронь,
Прыгожы, змрочны мой вагонь.
Як рарытэт, кранеш рукой
І разьліецца ён ракой.
Люблю грымотамі я граць,
У хмары бліскавіцай цяць.
Як мітульгі нястройны рой,
Трымціць вагонь па-над гарой,
Я права вогненны герой,
Бо ўсё спаліць хачу парой,
І крозы мрояцца гурбой,
Яскравы я й крывавы вой,
З вагнём ў гарачы крочу бой.
Я рад такою барацьбой.

# ГІСТОРЫЯ СВАБОДЫ СЛОВА



*Бярозкіна Н. Гісторыя кнігадрукаваньня Беларусі (XVI — пачатак XX ст.). — Менск: Беларуская навука, 1998. — 199 с. ISBN 985-08-0247-2*

Хуткасьць, зь якой гэтая кніга зьнікла з паліц кнігарняў, паказвае, што яна патрэбная. Вартасьці яе відавочныя. Але...

Вось трапляе на вочы штамп: «Першыя кнігі на кірыліцы выдадзеныя ў 1490—91 г. у Кракаве Швайпольтам Фіёлем, які па праву лічыцца пачынальнікам славянскага кнігадрукаваньня». Такое адчуваньне, што я гэта ўжо чытаў шмат гадоў таму і тады нібыта вырашыў спраўдзіць гэта, і быццам знайшоў, што ўсё гэта ня так. Вяртаюся да старых кніг, куды даўно ўжо не заглядаў, і сапраўды: першая кніга на славянскай мове — чэскай — лацінскім альфабэтам — надрукаваная ў Пльзэне каля 1470 г. (славутая «Траянская гісторыя»). Наступная славянская вяха — харвацкі каталіцкі «Місал» 1483 г., выдадзены на глаголіцы. Ш.Фіёль мог бы ганарыцца, што ён пачынальнік славянскага кнігадрукаваньня на трэцім славянскім альфабэце — кірыліцы, і гэтым апярэдзіў таго невядомага кнігавыдаўца, які неўзабаве надрукуе славянскую кнігу на апошнім славянскім альфабэце — арабскім.

Тэза пра тое, што беларуская культура «сфармавалася, з аднаго боку, пад уплывам руска-праваслаўнай культуры (усходняя цывілізацыя), а з другога, пад узьдзеяньнем вуніяцка-каталіцкай культуры (заходняя цывілізацыя)» з бляскам абвяргаецца на наступных старонках самой аўтаркай: першыя друкарні на тэрыторыі сучаснай Беларусі былі не праваслаўныя і не каталіцкія, а пратэстанцкія, і было іх у XVI ст. ня менш за 6. І казаць пра іх ролю ў палянізацыі наўрад ці апраўдана.

Пэўна, зь нейкай старадаўняй працы на старонкі кнігі перайшло сьцьверджаньне, што «каталіцкая царква прыклала шмат намаганьняў, каб забараніць друкаваньне літаратуры на беларускай мове». І што гэта былі за намаганьні?

«З пачаткам вайны паміж Масквой і Польшчай у 1654 г. куцеінская друкарня была пераведзена ў Іверскі манастыр пад Ноўгарад», — гэта пра рабаўнічы вываз маскоўскімі ўладамі праваслаўнай друкарні ў глыбіню Расеі. Прычым такі акт быў невыпадковы, пра што сьведчыць паўтор гісторыі ўжо пасьля далучэньня Беларусі да Расейскай імпэрыі пад канец XVIII ст. Дарэчы, як тое далучэньне адбілася на кнігадрукаваньні, не дасьледавана зусім. Вядома, што адзіная праваслаўная беларуская друкарня (у Магілёве) зноў спыніла існаваньне. Замест яе Кацярына II адкрыла найбуйнейшую жыдоўскую друкарню ў Шклове. Усе каталіцкія друкарні, здаецца, засталіся на месцы. Парадокс?

Кніга не знаходзіць адказу на пытаньне, калі было забароненае беларускае друкаванае слова. Цыркуляр міністра ўнутраных справаў П.Валуева ад 1863 г. забараніў друкаваньне кніг на ўкраінскай мове, а цыркуляр 1865 г. — літоўскіх кніг лацініцай. Беларускую мову «ў рабочым парадку» прыраўноўвалі да ўкраінскай і літоўскай. Асобнага антыбеларускага акту не было! Не лічылі патрэбным для краіны, дзе адкрыта адно Дунін-Марцінкевіч пісаў па-беларуску?

Карыстаньне з розных крыніцаў прывяло да некаторых супярэчнасьцяў. «Кніг на беларускай мове не было», — піша аўтарка ў адным месцы пра XVIII ст. У другім жа адзначае супрасьльскае выданьне 1722 г. «Собрание припадков краткое и духовным особам потребное» (вуніяцкі друк). Ці Супрасьль — не Беларусь? Толькі праз 100 гадоў выйшла наступная кніга на беларускай мове — «Кароткі збор хрысьціянскай навукі» (1835 г.), на гэты раз каталіцкая.

Нарэшце, пра пэрыяды нашага кнігадрукаваньня. Аўтарка пэрыядызуе XIX ст. па пунктах: 1830, 1861 і 1900 г. Першы зразумелы і цалкам апраўданы — паўстаньне! Калі трымацца гэтай лёгікі, дык наступная дата — паўстаньне 1863—64 г., а трэцяя — маніфэст 17 кастрычніка 1905 г., які дазволіў свабоду слова. Гэта не пачатак «вышэйшай фазы капіталізму — імпэрыялізму», як адзначана ў кнізе, але, думаецца, больш важная падзея. Бо гісторыя сучаснага кнігадрукаваньня — гэта гісторыя свабоды слова.

**Валеры Пазьнякоў**

# 60 УВОДЗІНАЎ У БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ

*«Беларуская думка» (Філязофія, рэлігія, культура (Анталёгія). Уклад. Юры Гарбінскі. Варшава. Славістычны асьродак выдаўнічы, 1998. ISBN 83-86619-62-7*

Знаёмства з гэтай кнігай адбылося нечакана. Рэдактар газэты «Рабочы» Віктар Івашкевіч паклаў на стол 18-даляравы 744-старонкавы фаліянт. «Усе шукаюць беларускую ідэю, а яна – вось», – сказаў ён.

Пяцьдзясят дзевяць аўтараў і адна калектыўная рэзалюцыя прадстаўленыя ў сямі разьдзелах гэтага зборніка, роўнага якому па аб'ёме яшчэ ніхто не выдаваў. Кніга ўражвае.

«Беларуская думка» (у падзагалоўку – «Філязофія, рэлігія, культура (Анталегія)») выдадзеная ў Варшаве Інстытутам славістыкі ПАН пры падтрымцы IDEE. Укладаньне, прадмова і апрацоўка Юр'я Гарбінскага.

Як сказана ў прадмове, зборнік «уяўляе сабою першую спробу сыстэматызацыі і абагульнення ўсяго інтэлектуальнага досьведу прадстаўнікоў краёвай ідэі, сьвецкай і духоўнай элітаў беларускага народу ў кантэксьце праблемы Беларусі як эпіцэнтру культурна-цывілізацыйных уплываў Усходу і Захаду... тэксты разглядаюцца намі як ключавыя коды, з дапамогай якіх чытач наблізіцца да разуменьня марфалёгіі беларускага этнасу, сутнасьці нацыянальнага характару і мэнтальнасьці беларусаў, адметнасьці і ўнівэрсалізму беларускай душы, яе аўры ў пэрманэнтным узаемадзеяньні з гістарычнымі, рэлігійнымі і культурнымі традыцыямі Усходу і Захаду. Ня менш важнай функцыяй-зададзенасьцю публікаваных фактаграфічных матэрыялаў зьяўляецца паказ, рэ(дэ-) канструкцыя існуючых у беларускім сьветаглядзе комплексаў і стэрэатыпаў...»

У аснову структуры «БД» пакладзены храналягічна-тэматычны прынцып. Кожны з разьдзелаў акрэсьлівае пэўны пэрыяд і напрамак у разьвіцьці беларускай думкі. «Пракокі нацыянальнай ідэі» – тэксты Ант.Луцкевіча, М.Гарэцкага, Я.Купалы, М.Багдановіча, В.Ластоўскага, М.Даўнар-Запольскага, Я.Лёсіка, А.Цьвікевіча, І.Канчэўскага, У.Самойлы, Я.Коласа. «З пазыцыяў краёвага патрыятызму» – прадстаўленыя Р.Скірмунт, М.Ромэр, Т.Урублеўскі, К.Скірмунт, Л.Абрамовіч. «У люстэрку нацыянал-камунізму» – З.Жылуновіч, П.Каравайчык, фрагмэнт «Пратаколу пасяджэньня прадстаўнікоў І канфэрэнцыі беларускіх сэкцый РКП(б)», Я.Канчар, А.Бурбіс, У.Ігнатоўскі, Б.Тарашкевіч. «Вехі беларускага фундамэнталізму» – К.Сваяк, В.Багдановіч, У.Талочка, Я.Станкевіч, Дрыгвіч, А.Становіч, Т.Грыб, А.Станкевіч. «На разломах вайны» – У.Верас, У.Казлоўскі, В.Іваноўскі, Ф.Акінчыц, Ант.Адамовіч. «Беларуская думка на эміграцыі» – Ч.Сіповіч, Л.Гарошка, С.Станкевіч, М.Лапіцкі, Л.Акіншэвіч, В.Тумаш, С.Коўш. «У пошуках альтэрнатывы і дыялёгу» – А.Каўка, А.Бембель, Н.Гілевіч, В.Быкаў, Ал.Адамовіч, С.Дубавец, А.Майхровіч, А.Майсеня, У.Конан, З.Пазьняк, Ю.Хадыка, М.Крукоўскі, А.Рагуля, Л.Лыч, Ю.Туронак.

Разьмеркаваньне пэўных асобаў небясспрэчнае. Нехта зь іх мог бы прэтэндаваць, як мінімум, на месцы ў двух разьдзелах. Для шэрагу вартых тэкстаў месца ў зборніку такой структуры не знайшлося.

Падаюцца біяграфічныя зьвесткі – прыблізна паўстаронкі на кожнага аўтара.

Пераважная большасьць тэкстаў зборніка знаёмая зацікаўленаму чытачу. Яны проста сабраныя пад адну вокладку ды сыстэматызаваныя, і цяпер плоймў кніжак, брашурак ды часопісаў можа замяніць адна таміна «Беларускай думкі». Тэксты прадстаўленыя згодна з правапісам арыгіналаў. На жаль, «з тэхнічных прычынаў» чытачы выданьня ня здолеюць пабачыць у ім «уласнабеларускага графічнага пісьма» Вацлава Ластоўскага і Тамаша Грыба. У зборніку іх тэксты падаюцца звычлай кірыліцай. Трэба адзначыць недакладнасьць перакладу асобных кавалкаў. Ангельскі варыянт зьместу, відочна, перакладаўся з польскай. У выніку, беларускія загалоўкі ў англамоўным варыянце маюць, часам, трохі іншы сэнс.

Ці выпадкова «Беларуская думка» выйшла ў Польшчы? Палякі ў значнай ступені перахварэлі на комплексы варожасьці да суседзяў. Цяжка ўявіць публікацыю падобнага выданьня пра беларускую думку ў Літве, Расеі, Украіне, так што параўноўваць зь нейкімі аналягамі не выпадае і, відаць, доўга ня выпадзе.

Кнігай будзе задаволена патрэба на анталягічную літаратуру па беларускай філязофіі, рэлігіі і культуры ў Польшчы. На жаль, здаецца яе ў Беларусі практычна немагчыма. У пэрспэктыве зборнік можа стаць адной з асноваў для шматтомнай энцыкляпэдыі беларускай думкі.

**Андрэй Мельнікаў**

# НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Беларуская мова: Зборнік дыктантаў / Уклад. Э.Блінава, Н.Гаўрош, М.Кавалёва і інш. — Менск: Вышэйшая школа, 1998. — 302 с. — Наклад 7000 ас. ISBN 985-06-0373-9

Грамадчанка Т. Беларуская літаратура. Школьныя творы. Кароткі зьмест і аналіз / Маст. А.Цароў. — Менск: Аверсэв, 1998. — 463 с. — Наклад 10000 ас. ISBN 985-6389-10-0

Грачанікаў А. Перазвоны азёр і бароў: Вершы, казкі, легенды: Для малодш. шк. веку / Маст. Р.Кондрад. — Менск: Юнацтва, 1998 — 256 с.: іл.— (Школьная бібліятэка). — Наклад 28000 ас. ISBN 985-05-0265-7

Жывіца: Вершы, апавяданьні, казкі пра дзяцей і для дзяцей / Уклад. І.Гемпель, Маст. В.Сакалоў. — Менск: Юнацтва, 1999. — 351 с. — (Школьная бібліятэка). — Наклад 34700 ас. ISBN 985-05-0268-1

Казкі дзяцей Беларусі / Для дашк. і малодш. шк. веку. (На бел., рас., анг. мовах). — Менск: Юнацтва, Беларускі фонд «Мы — дзецям», 1998. — 224 с.: іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-05-0104-9

Спадчына. № 1/1999. — 224 с. ISSN 0236-1019

Старжынская Н. Мэтодыка разьвіцьця роднага маўленьня: Вучэб. дапаможнік. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1998. — 287 с. — Наклад 1150 ас. ISBN 985-09-0311-2

Тэатры Беларусі / Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, «Тэатральная творчасьць»; Пад рэд. А.Сабалеўскага; Пер. на ангельскую мову Н.Лейзэр. — Менск: Беларуская навука, 1998. — 135 с.: іл. — Наклад 1300 ас. ISBN 985-08-0253-7

Русско-белорусский словарь / З.Бадзевіч і інш. — Менск: «Современное слово», 1998. — 480 с. — Наклад 11000 ас. ISBN 985-443-087-1

СЛОЎНІК ПАНЯЦЬЦЯЎ

## §2. СЛОВЫ В.АКУДОВІЧА «МЯНЕ НЯМА» І БЕЛАРУСКА-РАСЕЙСКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ.

На транспарце, у крамах і вёсках, іншых мясцох засяроджаньня народу ліецца, пеніцца і струменіцца мова. «Краіну развалілі, — гнеўна кажа кіроўца аўтобуса, — усё раскрадаюць. Эх, каб мы яшчэ ў Расеі жылі, там у іх зарплата вялікая». Калі канчаецца зьмена, гэты самы шафёр прадае налева дызэльнае паліва, «бо жыць жа неяк трэба», і лічыць прыбытак ад продажу «левых» талёнчыкаў – сёньня яго хапае на абед. Сельскі работнік, запоўніўшы ўвосень жытам і буракамі засекі дзяржавы, выносіць дзеля ўласных патрэбаў з калгасных палёў калгасныя ж караняплоды, расьцягвае з мэтай асабістага ўзбагачэньня машынны парк гаспадаркі, мармычучы сабе пад нос: «Якую краіну разбурылі... Як жа нам цяпер адным, паасобку... А там яны ў Менску ўсё пакралі, такія палацы будуюць». Даярка Зося, рашчыняючы ўжо на першай стадыі вытворчасьці малочных прадуктаў малако нейкай бясколернай вадкасьцю, нясьмела дадае да гэтага: «Затое які ў нас прэзыдэнт харошы».

На нашых вачох паўстае новы неклясычны фальклёр, які характарызуецца ўстойлівым адзінствам сваіх жанравых формаў – у строгім сэнсе, у межах парадыгмы карпаратыўнага мысьленьня адбываецца цыркуляцыя адных і тых першаўзораў моўнай практыкі. «Развалілі вялікую краіну», «пакралі ўсё», «няма як чэснаму чалавеку пражыць», «колькі гэта яшчэ можа прадаўжацца» — гэта адно бясконцае рытуальнае галашэньне, і няма, як правіла, сэнсу ўступаць у спрэчку зь яго выразьнікам. Ён настолькі заняты сваім эмацыйным парывам, што проста ня бачыць многага вакол сябе. Падобнае пачуцьцёвае ўзрушэньне не скрыжоўваецца, аднак, з абсягам каштоўнасных арыентацыяў – колькі роту ні гаварыць, а рукі бяруць сваё. Невыпадкова, што ў нас гэтак цяжка прыжываецца «дух капіталізму» — бо сфэра вуснай народнай творчасьці слаба ўплывае на сфэру практычнай ці, інакш, прыкладной этыкі, і наадварот.

Эсэ беларускага філёзафа В.Акудовіча «Хто я? альбо Мяне не было, няма, ня будзе» якраз і прыцягвае ўвагу пераламленьнем велічыні першапачатковага камунікацыйнага пасланьня ў прызьме яго ўспрыманьня рэцыпіентамі. Вырванае адтуль з кантэксту (нагадаем, што ў сваім досьледзе Акудовіч аналізуе дыскурсійныя фармацыі, закранае пытаньні экзыстэнцыі чалавека ў сучасным сьвеце, і праца мае выразна нігілістычныя падтэксты «канца чалавека і чалавецтва»), вульгарна пераасэнсаванае і, нават, адвольна дадуманае выказваньне «мяне няма», за якім нібыта стаіць аўтарства В.Акудовіча, неспадзявана часта замільгацела на старонках беларускага друку.

Такая частасьць ужываньняў красамоўна сьведчыць аб тым, што гэтым словам надаецца новы непаўторны сэнс. «Мяне няма», прамоўленае ва ўмовах палітычнай рэакцыі, калі існаваньне нацыі зноў пастаўлена пад сумнеў, гучыць як калектыўны выдых, як канстатацыя паразы, як адмова ад якіх-любя дзеяньняў на ўмацаваньне незалежнасьці.

Параноя расейскай інтэлігенцыі «што рабіць?» і «хто вінаваты?» праз стагодзьдзе згукнулася ціхім беларускім «мяне няма».

**Валерка Булгакаў**



## ПАХНЕ ВЯСНА

Ніяк не магу забыцца на сваю першую сустрэчу зь беларускім нацыянальным сьцягам. Гэта было ў верасьні 91-га. Шпацыруючы зь сяброўкаю ў Румянцаўскім парку, мы, набыўшы па пляшцы «Рэчыцкага» піва, выйшлі на ўзьбярэжную. Яшчэ цёплае восеньскае сонца паволі асядала на супрацьлеглы, амаль некрануты цывілізацыяй, бераг Сожа. Дрэвы ў золаце, на небе ні аблачынкі, вада ў рацэ гладкая, бы ў сподку. Адным словам, куды ні зірні — паўсюль гатовы здымак для каляровага турысцкага праспэкту. Я толькі пачынаў захворваць на беларушчыну, таму ўзьнёсла й безупынна дзяліўся зь сяброўкаю радасьцю сваіх уцёкаў ад Расеі-маці, і плянамі будаўніцтва новай дзяржавы. Але тая не падзяляла майго настрою. «Ты не ўяўляеш, — казала яна, як я не хачу, каб Беларусь была асобнай дзяржаваю». Я глядзеў на гэтую беларуску, як на закончаную дурніцу. А яна тым часам працягвала: «Што для цябе, чужынца, гэтая зямля? Палігон для ўвасабленьня ўласных амбіцыяў. Памроіў ды зьехаў. А я не хачу жыць ва ўбогай краіне».

Раптам, з-за павароту на рацэ, нібы фантом, зьявіўся цеплаход. На карме трапятаўся невялічкі бел-чырвона-белы сьцяжок. Капітан, напэўна, быў нацыяналістам. Тады яшчэ над былымі райкамамі віселі палотнішчы БССР. На тле вады й восеньскага лесу нашыя колеры глядзеліся асабліва ўрачыста. Нацыяналістычнае судна немітусьліва й спакойна, як маўклівы неабвержны аргумэнт, набліжалася да нас. Мы абое моўчкі назіралі яго шлях. «Што, прыгожа?» — запытаўся я. «Так. Сапраўды прыгожа». «А ты кажаш: «убогая». Ня пройдзе й пяці гадоў, і мы не пазнаем яе. Закопчаны сухагруз стане шыкоўным прагулачным ляйнэрам, на якім ты будзеш прагульваць свае шматлікія талеры. «Ну а ты, вядома, будзеш капітанам. Ня менш». «Я згодны й на пасаду кандуктара».

Празь пяць гадоў краіну было й сапраўды не пазнаць. Тая ж, каму я абяцаў прагулянку на ляйнэры, не дачакаўшыся, зьехала ў зусім няўбогую краіну пад назвай USA. І дзякуй Богу, што зьехала. Не люблю прайграваць спрэчкі жанчынам.

Ня так даўно шпацыруючы на адзіноце па тым самым паркавым маршруце, я затрымаўся пакурыць на пешаходным мосьце праз Сож. Нягледзячы на веснавы дзень, мне было сумна. І раптам убачыў на вадзе, здаецца, тое ж самае судна. Нібы карабель-прывід, яно ўсё так жа нясьпешна і ўпэўнена, як і сем гадоў таму, кіравала на поўдзень. На карме, я не паверыў вачам, скрозь смугу ўгадваліся нязьменныя колеры сьцяжка. Што за насланьнё? Толькі праз хвіліну да мяне дайшло, адкуль такая адчайная матроская беларускасьць. Судны Беларускага рачнога параходзтва заўжды хадзілі пад бел-чырвона-белымі кармавымі гюйсамі! Дзіўна, але разгадка мяне зусім не расчаравала. Карабель даўно зьнік з вачэй, а я ўсё стаяў, паліў цыгарэты адну за адной, і проста зараджаўся ўпэўненасьцю, што спрэчка не прайграная. І якога разу злавіў сябе на думцы, што менавіта ў гэтай краіне, як нідзе, добра дыхаецца вясною.

**Зьміцер Бартосік**

## ГОМЕЛЬСКІ ДЗЁНЬНІК

Дзелавіты дзед-адстаўнік гучна наракае на тое, што сёньняшняе пакаленьне ня ведае тых цяжнотаў, якія зазналі ён і больш старыя людзі, прайшоўшы праз некалькі войнаў. Ён лічыць, што з-за нястачы цяжнотаў — разбэшчанасьць моладзі; жаночую палову ён агулам абвінавачвае ў прастытуцыі. Міжволі мне прыгадаўся стары ляснік зь верша Адама Гурыновіча «Месца нячыстае». Даведаўшыся пра тое, што яго любімая дачушка стала ў горадзе жыць з распусты, ляснік павесіўся. Ня лаяўся, ня біўся. Проста пайшоў і ўдавіўся, зразумеўшы частку сваёй віны ў лёсе дачкі. Дзед жа адстаўнік ні ў якія петлі лезьці не зьбіраецца, бо вінаватымі заўсёды лічыў дый працягвае лічыць іншых.

***

Работнікі культуры на сустрэчы з мэрам між іншым выдалі «сьмелую прапанову» — перанесьці бюст А.Грамыкі на праспэкт Леніна, а на ранейшым месцы паставіць помнік А.Пушкіну. Ня ведаю дакладна іхных матывацыяў, але думаю, што не бракавала фразэалёгіі славянскай еднасьці. Нашыя культурнікі ўважаюць акурат вялікага афраславянскага паэта за сымбаль еднасьці гэнай. Ня знаю. Як на мой праваконсэрватыўны глузд, калі ўжо хочацца неяк ушанаваць славянскую ідэю, дык варта б было паставіць помнік Зарыяну Даленгу-Хадакоўскаму. Дасьледнік славянскіх старажытнасьцяў, ён жыў нейкі час у Гомелі, чакаючы «грантаў» ад графа Румянцава.

***

Ну, нарэшце, хаця б адзін з маіх сяброў дзяцінства з нашае пралетарскае пясочніцы выбіўся ў прадпрымальнікі. Зарабляе дзесьці 50 млн. рублёў штомесяц. Даводзіць да ладу атрыманы ў спадчыну дом. Усё было б добра, каб на полі яго сьвядомасьці не закрасавалі плыгкія порхаўкі квазібуржуазнасьці. Калі ўлічыць, што ў яго і раней была схілка да выхвальства, цяперашнія паводзіны глядзяцца проста камічна. Нагеленыя валасы, залаты сыгнэт, фанабэрыя рухаў, прыпылены пагляд. Гэткі бык буфэрны, як сказаў бы мой брацік. Сустрэўшы мяне нядаўна, заміж звычайных выведаў пра жыцьцё ці сытуацыю на палавым фронце квазібуржуа прамовіў у мой бок: «Ох, як мы ўчора накурыліся». Поўны постмадэрн!



***

Ужо амаль два з паловаю гады ў кожную цяжкую хвіліну ці часіну якой-любя няпэўнасьці я бяру ў рукі зборнічак вершаў Славаміра Адамовіча «Каханьне пад акупацыяй» і гучна дэклямую:

*Зайшла. Расказала пра мужа,*
*Аптэку, праблемы дачкі...*

Цяжкасьці і няпэўнасьці не зьнікаюць, але набываюць нейкія непраўдападобна цацачныя абрысы, якімі хочацца пагрэбаваць ды схаваць у кардонную скрыню ад эгіпецкіх апэльсынаў.

**Сяргей Балахонаў, 9-18.03.1999, Гомель**

# Narodny Albom

Міхал Анемпадыстаў, Лявон Вольскі

*Працяг са старонкі 1.*

1. Летні надвячорак.

На сцэне Болек, Лёлек, Зьміцер Костка, Фрэдэрык Рагойша. Груба зроблены стол зь негабляваных дошак. На стале піва, куфлі, каўбасы й іншая піўная закуска.

*Хлопцы пяюць «**Маладое піва**».*

МАЛАДОЕ ПІВА

Неяк у дуброве
Неяк у зялёнай
Каштавалі хлопцы
Піва маладое
Піва маладое
У куфлі налівалі
І адзін аднаму
Гэтак прамаўлялі:

Першы куфаль піва
Вып'ем за сустрэчу
Вып'ем за сустрэчу
За цудоўны вечар

А па першым куфлі
Трэба паўтарыць
Маладое піва
Заўсёды шуміць

Вып'ем другі куфаль
Маладога піва
За дзяўчатак нашых
Каб жылі шчасьліва

Трэці куфаль вып'ем
За нас, за малойцаў
Каб сьвяціла сонца
Ў наша ваконца

А чацьверты куфаль
Вып'ем за сяброўства
Каб канаць у самоце
Нам не давялося

Пяты п'ем за тое
Каб добра жылося
Каб слася смачна
Салодка пілося

Шосты вып'ем моўчкі
За тых, хто ня з намі
Каб ня зналі гора
Каб бяды ня зналі

Сёмы за край родны
Восьмы за Пагоню
Каб гарэлі зоркі
Каб ляцелі коні

П'ем дзявяты куфаль
За добрых людзей
Засьпяваймa разам
Гэй-гэй-гэй!

Да іх падыходзіць Лістаноша з торбай для лістоў, газэтаў ды іншае пошты. Лістаноша, натуральна, ва ўніформе.

Лістаноша. За агульным сталом і яда смачней! Ліст зь Вільні да пана Рагойшы! *(Аддае Рагойшу ліст, той адразу пачынае чытаць.)* Хлопцы, пачастуйце півам.

*Яму наліваюць, ён п'е.*

Болек *(летуценна ўзіраючыся ў далячынь).* Добрае піва варыць твой бацька, Юзік. Б'е не ў галаву, а ў сэрца.

Зьміцер. Праўду кажаш, Баляслаў. Да бацькі спэцыяльна зь Менску прыяжджаюць піва купляць. Ён сакрэт ведае.

Юзік. А памятаеш, Зьміцер, як летась на тваім вясельлі пілі мы піва ды й спалілі табе пуню?

Зьміцер. А як жа ж. Так і жывем, бяз пуні.

Юзік. Бяз пуні жыць можна, бязь піва — цяжка. А без гарэлкі дык і жыць няма сэнсу.




Зьміцер. От жа ж ты, Юзік, сэнс сабе вымысьліў! Гарэлка! Што твая гарэлка! Галоўнае — гэта зямля. Безь зямлі не было б ані гарэлкі, ані нас з табою. Колькі зямля ўсяго дае, а колькі ў ёй яшчэ схавана. Мы па ёй ходзім і нават ня ведаем. Я таму хачу на геоляга вучыцца. Паеду ў Варшаву, Броню з сабою вазьму. Хай таксама вучыцца. Яна ў мяне здольная.

Болек. А дзе грошы возьмеш на навучаньне?

Зьміцер. Ведама дзе, у бацькі.

Рагойша *(трымаючы ў руках ліст).* А я, хлопцы, паеду вучыцца ў Вільню. На электрыка альбо нават тэлеграфіста.

Юзік. Хто цябе туды возьме?

Лістаноша. Як той казаў, языком у Вільні, а галавой за печчу.

Рагойша. Пабачым, возьмуць ці не. Во дазвол на здачу іспытаў ужо далі.

Юзік. Глядзі, Фрэдзя, каб цябе электрычнасьцю там, у Вільні, ня лясьнула.

Лістаноша. Як той казаў, цырк на дроце.

Зьміцер. Вунь дзядзька нейкі йдзе. Са стрэльбай.

Болек. Гэта арандатар з фальварку. На жабаў, ці што, палюе? *(Грэбліва.)* Паляўнічы...

*Падыходзіць Паляўнічы.*

Паляўнічы. Дзень добры, хлопцы.

*Хлопцы вітаюцца.*

Юзік. Ці што ўпалявалі?

Паляўнічы. Не, хлопцы, бо палюю я на чорнага зайца, пра якога людзі кажуць, што бачылі, але ўсё выдае на тое, што няма яго ў гэтых лясох.

Рагойша. Можа, дзе далей, у Налібоках? У Налібоках дык пэўне што ёсьць.

Паляўнічы. Тэк ці йнакш, але тут я яго не спаткаў... Ды ўвогуле, неспакойна зараз у лесе. Ідзе да нас навала, і нам яе не абмінуць.

Болек. Скуль вы гэта ўсё ведаеце, а мы тут сядзім ды нічога не заўважаем?

Паляўнічы. То прыкладзі вуха да зямлі ды паслухай.

*Хлопцы ўкленчваюць і, прыклаўшы вушы да зямлі, слухаюць.*

*Гучыць «**Ать-два левой**».*

***

Ать-два, левой
Ать-два, правой
Наше дело правое
И всем встречным-поперечным
Мы желаем здравия

Выходите, привечайте
С хлебом-солью нас встречайте
Обнимайте, целовайте
Мы свои, вы так и знайте

Не судите слишком строго
Что шагаем мы не в ногу
Вот немного отдохнем
И опять шагать начнем

Ать-два, левой
Ать-два, правой
Наше дело правое
И всем встречным-поперечным
Мы желаем здравия

*Зацямненьне. Чуваць голас Юзіка ў цемры:* Хораша пяюць.

2. Хата Зьмітра Косткі.

*Стол засьцелены шэрым абрусам. На стале валізка. Ля стала — Браніслава ды Зьміцер.*

Браніслава *(гледзячы ў раскрытую валізку).* Зьміцер, глядзі сюды. Сала паклала, шынку паклала, хлеба бохан, сальцісона крыху — ты ж любіш, часнык, цыбулю, тытунь, соль, цукар і абразок.

Зьміцер *(ваксуючы боты).* Ты мне, Броня, гарэлку забылася пакласьці.

Браніслава. Нашто табе там тая гарэлка?

*Працяг на старонцы 14*

# ЯКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ ВАМ НАЙБОЛЬШ ДАРАГАЯ?

**Апытаньне «НН»**

Ведама, што густы ў людзей цалкам розныя. На нашу думку, няма нічога дзіўнага ў тым, што большасьць назвала песьні народныя. Бо найбольш душэўныя яны. «Народны Альбом» людзі згадваюць рэдка. Трэба думаць, што ён успрымаецца як нешта непарыўна-непадзельна-суцэльнае. Апроч таго, ён нядаўні — каб заўважыць, патрэбная пэўная адлегласьць. А адзін чадавек сказаў так: «Народны Альбом» — гэта гульня, і сталыя людзі яе могуць проста не разумець».

**Алесь Асіпцоў,** намесьнік старшыні Маладога фронту, Магілёў: «А можна з жонкай параіцца? Яна кажа, што ёй падабаецца нейкая песьня, якая завецца «А чорт яе ведае як», а калі сур'ёзна, то для яе гэта любая песьня ў выкананьні Данчыка. Ну, а што да мяне, дык гэта такі ўзьнёслы твор, як «Магутны Божа». Я яе ўпершыню пачуў, калі служыў на караблі ў Таліне ў 90-ым. Я быў у звальненьні, а ў той дзень беларусы Эстоніі ладзілі канцэрт на Ратушнай плошчы і сярод іншых песьняў сьпявалі «Магутны Божа».

**Вінцук Вячорка**, намесьнік старшыні БНФ: «Шмат, шмат песьняў. Я так сходу... Мяркую, што «Ці ўсе лугі пакошаны». Чаму? Проста. No comments».

**Рыгор Барадулін,** паэт: «»А ў полі вярба», яе мне матуля змалку сьпявала. Асабліва падабаліся словы «ой, здыму парчу, ножкі абвярчу». Песьня гэтая — уражаньні з майго маленства».

**Юрась Бушлякоў,** філёляг: «Куляшоўска-лучанкоўская «Алеся» — не зусім ужо кепскі варыянт: яна геніяльна лірычная, страшэнна сэнтымэнтальная і вельмі мілая вуху. Гэта, бясспрэчна, беларуская музычная клясыка XX ст.».

**Клаўс**, гурт «Крама»: «Напэўна, «За туманам» у выкананьні Веранікі з «Крывяў», хоць насамрэч гэта песьня паляшуцкая, а не беларуская, дый на Ўкраіне яе сьпяваюць. Але ўжо нейк кранае яна нутраныя струны. Песьня ж народная, старынная, сьпяваная яшчэ нашымі дзядамі-прадзедамі, а тут голас Веранікі ды новая аранжыроўка да таго ж. Зь іншага боку, мне і некаторыя песьні «Крамы» падабаюцца, прыкладам «Стэфка», але назваць якуюсь зь іх улюбёнай было б нясьціпла».

**Генадзь Ластоўскі,** гісторык, Смаленск: «Мне падабаюцца песьні «Сяброў», а найбольш — іхная «Паклоньніца». Можа, іхныя песьні й ня дужа сучасныя, але ёсьць у іх нешта душэўнае, сапраўды беларускае. У адрозьненьне ад «Песьняроў», «Сябры» вытрымалі стыль, зададзены ад самага пачатку, і мне падабаюцца і іхная музыка, і іхныя тэксты».

**Таіса Мішчанка,** нам. старшыні Таварыства Беларускай Культуры імя Скарыны, Масква: «Мне падабаецца «Аксамітны летні вечар» як яе сьпявае Данчык, бо песьня прыгожая. А таксама песьня Сокалава-Воюша «Блакітнае Прыдзьвіньне», бо я сама адтуль родам».

**Віктар Мухін,** Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў: «»Простыя словы, простыя рэчы» з «Народнага Альбому».

**Алесь Пушкін,** мастак, мястэчка Бобр: «Для мяне гэта «Алеся» і «Вераніка» ў выкананьні «Песьняроў», калі яшчэ Барткевіч быў. Асабліва «Алеся», бо яна адпавядае майму настрою: мне падабаецца пахмурнае надвор'е, а там менавіта пра «сосны і туманы» і сьпяваецца. Туманы, ці разумееце, гэта тыпова беларускае надвор'е, адсюль філязофія туманнасьці, «sfumata», як казаў Леанарда. Мне не падабаецца сонечнае надвор'е, калі каляровыя плямы маюць рэзкія граніцы. Шэрасьць прыцемкаў — вось гэта нашае».

**Алег Трусаў,** гісторык: «Дужа падабаюцца дзьве песьні XVII ст.: «Сабралася бедна басота» і «Ой, цалуе ружа кветку». Сьпяваем іх пад час розных выцечак, застольляў, пад лірычны настрой. Гэта старыя песьні, але актуальныя й дасюль, асабліва «Басота», дзе робіцца пэўныя высновы пра дзядзьку багатага, каб не хадзіў абы-дзе. Ну, а з сучасных — «Жлобская нацыя» майго любімага барда Шалкевіча, бо нацыя нашая сапраўды самая жлобская ў сьвеце. І гэтым трэба ганарыцца: нацыя здраднікаў, ліхвяроў, прыстасаванцаў. Таму й выжылі, ня вымерлі. А лепшых за дзьвесьце гадоў вынішчылі».

**Сяргей Чыслаў,** лідэр «Белага Легіёну»: «Мне асабіста падабаецца «Дробна драбніца». Даўняя песьня. Спачатку мы сьпявалі яе «Сабралася бедна басота», потым «менска студэнцтва», а цяпер — «Сабраліся файныя хлопцы ды гарэлку п'юць», а замест дзядзькі багатага ў нас «дзядзька лукавы»: «Не хадзі ж ты, дзядзька лукавы, там, дзе драбы п'юць». Час карэктуе тэксты. Але хутка ў мяне будзе іншая ўлюбёная песьня, бо мы тут спрабуем свой марш зрабіць. Ужо ёсьць 5—6 варыянтаў, але тыя, нацыяналізм якіх поўны снку, плачу, нам не падыходзяць. Таму зараз спыніліся на чатырохрадкоўі Караткевіча з «Маці ўрагану»:

*Дуды над хлопцамі выюць трывожна,*
*Над полем бітвы сьпявае рог.*
*Тапчыце зямлю, легіёны божыя!*
*Наперадзе — вораг! Над вамі — Бог!»*

**Віктар Шалкевіч,** бард, Гародня: «Напэўна, няма ў мяне такой песьні. Каб за сталом сьпяваць? Дык мяне заўсёды просяць засьпяваць сваё. Мо', «Белы шалік» Дзімы Бартосіка, асабліва люблю яе слухаць, калі ён сам яе грае. Вельмі дасьціпная, прыемная, шляхетная, з гумарам».

**Сямён Шарэцкі,** старшыня ВС РБ: «»Люблю наш край, старонку гэту» на словы Канстанцыі Буйло. Я сам люблю засьпяваць яе, бо калі сьпяваеш, то адразу перад вачыма паўстаюць і вёсны, і зімы нашыя — уся Беларусь, як яе здолела апісаць 16-гадовая паэтка».

**Апытваў Анатоль Ірасаловіч**

# Narodny Albom

*Працяг са старонкі 13.*

Зьміцер. Тады, любая ты мая жонка, давай з табою цяпер вып'ем аглаблёвую.

*Налівае чаркі.*

Браніслава. А можа, ня пойдзеш?

*У хату заходзяць Юзік, Болек, Лёлек — усе з сабранымі валізкамі.*

Юзік. А ці можна да вас?

Зьміцер. Заходзьце. Ну што, хлопцы, не перадумалі?

Болек. Не. Разам дык разам. Змагацца дык змагацца. Каб бачыць ворага сьпіну, бі яго ў лоб.

Юзік. А Рагойша не пайшоў. Рыхтуецца да ўступных іспытаў. Цьфу!

Браніслава. От ёсьць жа ж і ў нашым мястэчку нармальныя людзі!

Зьміцер. Пэўна ж ёсьць! І ўсе яны зараз у тваёй хаце. Ну што, хлопцы... Па аглаблёвай ды рушым.

*Хлопцы выпіваюць. Браніслава й Зьміцер пяюць **«Мы пераможам»**.*

МЫ ПЕРАМОЖАМ

Мы дапіць не насьпелі да дна
Як раптоўна пачулі «вайна»
Ты сказаў мне: «Даруй і бывай»
І пайшоў бараніць наш край

Край, ты мой край
Грай гэйнал, грай
Дай веры, дай
І мы пераможам

Мы ў шэрых мундырах
Пад шэрым крывіцкім небам
Перад навалай з Усходу
Станем мурам каменным

Будзем стаяць непарушна
Будзем стаяць непахісна
З намі вера і праўда
З намі Божая Маці

З намі анёл-абаронца
Будзем стаяць бясконца
Пакуль толькі хопіць моцы
Калі яшчэ будзем жывы

Край, ты мой край
Грай гэйнал, грай
Дай веры, дай
І мы пераможам

3. Тая ж хата праз некаторы час.

У хаце за сталом Браніслава, Адэлька, Надзенька. На стале — кубкі з гарбатаю, печыва, сочыва.

Надзенька. Не сумуй, Броня, вернецца твой Зьміцер.

Браніслава. Скуль жа ж ты ведаеш, Надзенька, вернецца ён ці не. Аднаму Пану Богу гэта вядома.

Адэлька. Казалі мне разумныя людзі, што вайна хутка скончыцца. Вось тады яны ўсе й вернуцца — і твой

**Міхал Анемпадыстаў, Лявон Вольскі**

Зьміцер, і Болек, і Лёлек, і Юзік.

Браніслава. Усё адно мне неяк неспакойна. Лістоў даўно ад яго не было.

*Уваходзіць Лістаноша.*

Лістаноша. Будзьце здаровыя, як зімою вада, будзьце багатыя, як улетку зямля.

*Кабеты вітаюцца.*

Браніслава. Ці не прынесьлі вы мне якую кепскую навіну, пане Лістаноша?

Лістаноша. Ды не, Браніслава, наадварот. *(Падае Браніславе ліст ад мужа.)* Вось ліст ад пана Зьмітра.

Браніслава *(чытае ліст, машынальна гаворачы Лістаношу.)* Частуйцеся, пане Лістаноша.

*Лістаноша частуецца гарбатай ды прысмакамі.*

Надзенька. Ну што? Што ён піша?

Браніслава. Піша, што ўсё добра. Піша, што жывы і здаровы, а як яно насамрэч, толькі Пан Бог ведае.

*Браніслава пяе **«Матку Боску Вастрабрамску»**.*

МАТКА БОСКА ВАСТРАБРАМСКА

Халодным жніўеньскім днём
Я кратаю струны халоднай гітары
Скажы, чаму гэты дзень
Пафарбаваны на колер хмары?

Халодным жніўеньскім днём
Ільлецца дождж на мёртвую пожню
Даруй, але я хачу быць
Сёньня слабой і бездапаможнай

Халодным жніўеньскім днём
Ты так далёка, што ня ўбачыць
Ну, як тут мне не сумаваць
Ну, як тут мне не заплакаць?

Халодным жніўеньскім днём
Адчыняю сэрца браму
Матка Боска Вастрабрамска,
Зьлітуйся над намі

Халодным жніўеньскім днём
Дай крыху цяпла і сонца
Скажы, чаму гэты дзень
Такі халодны, такі бясконцы?

Можа, якраз у гэты самы момант, ляжыць ён цяжка паранены ў полі альбо ў якім шпіталі, і нікому, нікому няма да яго справы... Гэх, Зьміцер мой, Зьміцер... Разлучыла вайна нас з табою, як рыбаньку з вадою. Дай жа ж, Божа, вярнуцца табе дахаты жывым і здаровым. А калі ўжо вернесься да мяне, нікуды болей не адпушчу!

4. Узьлесак.

Паходны вайсковы стол альбо пянёк дрэва — імправізаваны стол. На стале — неахайныя рэшткі закускі й выпіўкі, рознакалібэрныя посуд. Лёлек, Болек, Зьміцер ды Юзік у вайсковым адзеньні з чаркамі ў руках ды стрэльбамі за сьпінамі выконваюць песьню **«Эх, змагаліся мы...»** Пасьля гэтага падымаюцца, сыходзяць у кірунку Копыля.

***

Эх змагаліся мы
Ох стаміліся
Моцна біліся
Запыліліся

Пад крывой сасной
Прыпыніліся
На сыру зямлю
Завaліліся

Пад крывой сасной
На сырой зямлі
Мы палёжвалі
Ды віно пілі

Эх па чарачцы
Ды па малюсенькай
Эх па шкляначцы
Ды па паўнюсенькай

Эх па куфэльку
Ды па гліпянаму
Эх па цэбрыку
Ды па драўлянаму




Эх па вядзерачку
Ды па дзевяцілітроваму
Эх па дзежачцы
Ды па бяздонненькай

Эх па цыстэрначцы
Ды як хацелась выпіць нам
Але труба на жаль
Нам падала сыгнал

Мы як штыкі
Зь зямлі паўскоквалі
І крокам рушылі
Ў кірунку Копыля

5. Памежны лес.

На пяньку сядзіць Паляўнічы. Нешта піша ў нататніку. Паляўнічы падымаецца зь пянька.

Паляўнічы. Перапрашаю прысутных, але хацеў бы патлумачыць, што да свайго няўдзелу ў ваенных дзеяньнях як у складзе рэгулярных частак, гэтак і ў партызанцы ці, іншымі словамі, разам з паўстанцамі. Я й цяпер застаюся глыбока перакананым у тым, што гэткі актыўны супраціў ёсьць марным ды небясьпечным заняткам, які, у сутнасьці, нясе простаму люду новыя няшчасьці, зьнішчаючы пад корань найлепшых сыноў Краю. Вось і цяпер, пасьля заканчэньня ваенных дзеяньняў і падпісаньня мірнае дамовы, ці скончыліся насамрэч беды Краю, зьнявечанага вайною й падзеленага на часткі? Нават тут, па гэты бок мяжы, адчуваецца халодны подых Сібіру, але я, шаноўныя, і надалей лічу за свой пачэсны абавязак, не зважаючы ні на якія вонкавыя абставіны, даглядаць сваю сьціплую гаспадарку й дасьледаваць фаўну краю, асабліву ўвагу надаючы рэліктавым экзэмплярам.

Зьяўляюцца Лёлек ды Адэлька. Лёлек цягне на плячох мех, Адэлька яму дапамагае. Праходзяць побач з Паляўнічым.

Паляўнічы *(наўздагон)*. Дзень добры, пан Леслаў. Грыбкі зьбіраеце?

Лёлек. Ды не, пан Паляўнічы. Нясу тавар у Саветы.

Паляўнічы. Маеце пшэпустку?

Лёлек. Нашто мне ў лесе пшэпустка?

Адэлька *(грэблівa, пагрозьліва)*. А ты, батанік, на тое, што бачыў, забудзься.

Паляўнічы застаецца сам і, цяжка ўздыхнуўшы, пяе **«Я да жалю, ня пан»**.

***

Я, здаецца, ня тут
Я, напэўна, ня там
Я, да жалю, ня пан
Я, на шчасьце, ня хам

Я твайго не вазьму
Я свайго не аддам
Вось мой дом, вось мой плот
Вось за плотам паркан

Ад нуды ды бяды
Уратуюся сам
Час зьбіраць камяні
Час расьці камяням

Я, да жалю, ня пан
Я, на шчасьце, ня хам
Я, здаецца, ня тут
Я, напэўна, ня там

Неакрэсьлены стан
Незавершаны лад
Я стаю на мяжы
Паміж дрэваў і хат

Вось дарога туды
Вось дарога назад
Там дубы ля вады
Тут шыпшынавы сад

Я, здаецца, ня тут
Я, напэўна, ня там
Я, да жалю, ня пан
Я, на шчасьце, ня хам

Я стаю на мяжы
Я іду па нажы
Божа, дапамажы
Захаваць раўнавагу

*Зьяўляецца Браніслава з кашом.*

Браніслава. Дзень добры, пан Паляўнічы. Як хораша вы пяеце. Але чаму гэткая сумная вашая песьня?

Паляўнічы. Дзень добры, пані Браніслава. Таму сумная мая песьня, што сам я ёсьць сумным ды самотным, бо такі ўжо ў мяне лёс. А як вы маецеся? Куды ідзяце? Таксама несяце тавар у Саветы?

Браніслава. Ды не, грыбкі зьбіраю. А маюся я, самі ведаеце як, не сказаць, каб занадта салодка.

Паляўнічы. Так-так, ведаю, шаноўная пані Браніслава. І пра тое, што муж ваш Зьміцер дагэтуль з вайны не вярнуўся, ведаю, і пра тое, што бацька ягоны памёр, таксама ведаю, вечны яму спакой.

Браніслава. Ня ведаю, што й рабіць, цяжка мне самой, пан Паляўнічы. Можа, таму й спадабалася мне вашая песьня.

Паляўнічы. Рады, што вам спадабалася. Але скажыце, шаноўная пані Браніслава, чаму не вярнуўся дагэтуль муж ваш, Зьміцер? Ці ж ён ня ведае, як вам цяжка?

Браніслава. Пэўна ж ведае, але вярнуцца ня можа, бо камандаваньне накіравала яго на курсы падафіцэраў. Вось скончыць курсы ды прыедзе.

Паляўнічы. Но, то зычу найхутчэйшага спатканьня. А як станецца, шаноўная пані Браніслава, якія праблемы, то заходзьце. Заўсёды буду рады дапамагчы.

*Паляўнічы нахіляецца й цалуе руку Браніславы.*

Браніслава. Ой, ня трэба, я ж рукі ня мыла!

*Паляўнічы, не зважаючы, працягвае цалаваць руку.*

Браніслава. Увага! Трачу прытомнасьць!

*Зацямненьне.*

6. Карчма.

Марка-карчмар праціраe сталы. За адным са сталоў сьпіць п'яны Юзік.

Марка. Божа мой, божа мой, вайна скончылася, хто здолеў, той вярнуўся, а да мяне ў карчму ніхто ня йдзе. Нашто тады было лезьці пад кулі, калі цяпер не хапае на чарку жытнёвае? Ці ня лепей было б займацца адвечнай сялянскай працай, памнажаючы багацьце дамоў сваіх? Дурні былі, дурні й засталіся.

*Заходзяць Лёлек з Адэлькай.*

Марка *(салодка)*. Дзень добры, шаноўны пан Леслаў. Дзень добры, Адэлька. Чым магу быць карысны?

Лёлек. Здароў, Марка. Для паненкі — куфаль піва, а мне — чарку гарэлкі ды чагось пад'есьці.

Марка. Ці можа быць бульба зь селядцамі, цыбулькай ды алеем?

Лёлек. Хай будзе з алеем... Але пачакай, Марка, маю да цябе канфідэнцыйную справу.

Марка. Слухаю пана. *(Ставіць на стол піва і гарэлку.)*

Лёлек *(сьцішыўшы голас)*. Маю на продаж залатыя рублі, ці ня ведаеш, хто б купіў?

Марка. Ой не, ня ведаю. Зараз золата ніхто не бярэ... Але, можа, я б узяў з павагі да пана Леслава, калі пан нядорага аддасьць. Але адкуль у пана залатыя рублі?

Адэлька. А адкуль, шаноўны Марка, могуць быць залатыя рублі тут, на памежжы?

Гучыць **«Кантрабандыст»**. Пад час песьні Юзік прачынаецца й, наколькі можа, жвава рэагуе на яе — усьміхаецца, спрабуе танчыць, потым налівае сабе яшчэ гарэлкі, выпівае й зноўку засынае.

КАНТРАБАНДЫСТ

Тут на памежжы
Каменныя вежы
Жалезныя дзьверы
Замкі і засовы
Таемныя пасткі
Падземныя сховы
Маўклівыя маскі
На тварах аховы
Ім сэрцы і душы
Аплецены дротам
І токам атручана кроў

А ў кантрабандыста
Блакітныя вочы
Ён працуе штоночы
Робіць цёмную справу
Парушаючы Права
І Закон крымінальны
Праз граніцу цягае
Кантрабандны тавар

А ў кантрабандыста
Сталёвыя нэрвы
Ён гуляе ў цэмры
Ў небясьпечныя гульні
І драпежная куля
Нецярпліва чакае
Каб нарэшце спаткацца
Каб напіцца крыві

Ды ў кантрабандыста
Ёсьць ад кулі замова
Не баіцца ён змовы
І таемнае пасткі
Не баіцца судзьдзі ён
Не баіцца ён кратаў
Ён з-за кратаў дахаты
Усё адно ўцячэ

Бо ў кантрабандыста
Ёсьць на сэрцы наколка
Там ключы ды іголка
І кажанавы крылы
Ён турэмныя краты
Тым ключом адмыкае
І ў цэмры зьнікае
Не сказаўшы гудбай

*Цалкам п'еса будзе надрукаваная ў часопісе «ARCHE».*

АРГЕНТЫНСКАЕ ТАНГА

Кожны вечар у клюбе
Адбываліся танцы
Там прыходзілі дзеўкі
Там зьбіраліся мальцы

І танчылі моўчкі
Да самага золку
А ранкам ізноўку
На працу ішлі

Аргентынскае танга
Экзатычная кветка
Па-над вёскай віруе
Ды зацягвае нас

У духмяную цемру
У салодкую пастку
Ў аксамітную багну
На глыбокае дно

А там дзе дно
Нам усё адно
Ёсьць толькі рытм
Сэрца й Танга
Твой дотык
Як джала
Твой позірк
Як студня
Дай мне напіцца
Я хачу піць

ПРОСТЫЯ СЛОВЫ

Простыя словы
Простыя рэчы
Хлеб на стале
Полымя ў печы

Гэта так проста
Гэта так добра
Як з галавою
Залезьці пад коўдру

Прыцемкам сінім
Зімовай парою
У доме бацькоўскім
Ўсё так знаёма

Усё так надзейна
Усё так грунтоўна
Што тут дадаць?
Хіба што нічога

Можна жыць далей
Дзень прыйдзе новы
Дабранач, паненкі
Дабранач, панове

НАСТАЎНІК РАГОЙША

Тысяча дзевяцьсот дваццаць шосты год.
Мястэчка Ракаў пры панскай Польшчы.
У цэнтры плошча. На плошчы касьцёл.
Па плошчы ідзе настаўнік Рагойша.

Narodny Albom

Ён апрануты па апошняй модзе:
На ім галіфэ, камізэлька ды гальштук,
На ім акуляры ды новыя боты
(Новыя боты добрай работы!).
Сам ён тутэйшы — вярнуўся нядаўна.
Вучыўся на фізіка ў Ратэрдаме.
Ну, ёсьць такі горад недзе ў Эўропе.
Але гэта, зрэшты, ня вельмі істотна.

Дык вось пра Рагойшу: у школе працуе,
А дома чытае ды нешта майструе.
Напрыклад, паставіў на даху антэну,
Зрабіў зазямляльнік, аплёў дротам сьцены
І прыстасову паставіў у хаце —
Даруйце, панове, завецца «адапцер»...
Яшчэ ёсьць дынамік і ручка настройкі.
А ў школе, сабака, паставіў мне тройку.
Але не пакрыўдзіўся я на Рагойшу —
Я ў школе ня лепшы, але й ня горшы.
Затое Рагойша сказаў па сакрэту,
Навошта паставіў антэніну гэту.
Маўляў, яна ловіць нябачныя хвалі,
Якія як быццам у часе блукалі,
Ці будуць яшчэ яны ў часе блукаць...
Даруйце, панове, мне цяжка казаць.

Я, кажучы шчыра, ня ўсё разумею,
Але кажу праўду, кажу, як умею.
Дакладней, кажу, як тлумачыў Рагойша,
А ён, можа, зблытаў ці перабольшыў.
Але прысягаю: уночы аднойчы
На ўласныя вушы, на ўласныя вочы
Я бачыў і чуў, як у Рагойшавай хаце
Сьвяціўся і граў той, даруйце, адапцер,
І слухаў Рагойша вар'яцкія гукі —
Пякельныя енкі, пачварныя хрукі,
Як быццам бы д'ябал пілікаў на скрыпцы.
І мне закарцела пабегчы ў паліц'ю.
Але не пабег я. Стаяў скамянеўшы,
Збляднелы, нібыта два тыдні ня еўшы.
І вось адчыняюцца дзьверы ў хаце,
І кажа Рагойша: «Заходзьце, сядайце!»
Заходжу, кажу: «Вечар добры ў хату!»
«Год тысяча дзевяцьсот семдзесят пяты», —
Кажа ён мне і дзіка рагоча.
І я зразумеў: вар'яцее Рагойша.
Шалее Рагойша. І я адчуваю,
Як б'е ў галаву маю музыка тая,
І я паміж волі раблюся вар'ятам
Ад музыкі, гранай у семдзесят пятым.

Я страціў прытомнасьць ад року ды панку,
З бальной галавой ачуняў толькі ранкам
І болей ніколі ў жыцьці да Рагойшы
Я не пайду... Лепш нап'юся у Мойшы,
У простай звычайнай карчме местачковай,
Гарэлкі празрыстай, гарэлкі жытнёвай!

АДЭЛЬКА

У суботу-нядзельку
Апрануся прыстойна
Апрану камізэльку
І кашулю з бавоўны

Навяжу сіні гальштук
І пайду да Адэлькі
Каб ў яе таварыстве
Зазірнуць у бутэльку

Трай-ля-ля-ля-ля
У суботу-нядзельку
Трай-ля-ля-ля-ля
Зазірнуць у бутэльку

А ў бутэльцы на дне
Чорт рагаты жыве
І паказвае мне
Адмысловыя дулі

Згінь, нячысьцік рагаты
Не пагань маё сьвята
Шчэ крыху пагасьцюю
У Адэльчынай хаце

Вып'ю чарку, другую
Зьем капусты з сардэлькай
Засьпяваю, а потым
Пацалую Адэльку

Трай-ля-ля-ля-ля
Пацалую Адэльку
Трай-ля-ля-ля-ля
У суботу-нядзельку

Ах, Адэлька, Адэля
Не Хрысьціна, ня Гэля
Не Эльжбета, а ты
Да самое труны
Будзеш у сэрцы маім
Назаўсёды

ЛАЛАЛАЛА

У нашым мястэчку восень
І прыхадні розныя лазяць па хатах
Тыкаюць пальцамі ў сала
І наводзяць свае парадкі

У мяне на душы паскудна
І словаў бракуе, каб выказаць гэта
І не хапае моцы
Каб далей гэта моўчкі трываць

Я пайду па мэстэчку
Вазьму ў рукі кала
І засьпяваю ўголас
Каб чулі ўсе:
— Лалалала!

СЬНЕЖАНЬ, СТУДЗЕНЬ І ЛЮТЫ

Прыйдзе зіма, і Сьнежань
Лісьце заваліць сьнегам
Мы адсьвяткуем разам
Божае Нараджэньне
Цёмна-зялёны водар
Будзе ад елкі ў доме
Раніцай прыйдзе Студзень
І зьменіцца нумар году

Халодна зробіцца ў хаце
Бо Люты пачне лютаваці
Грукацца ў вокны і дзьверы
Са злосьці, што ён кароткі

Сьнежань, Студзень і Люты
Сьнегам, сьцюжай і лёдам
Будуць псаваць настрой нам
І вушы будуць марозіць

А мы павыцягваем з шафы
Шалікі, швэдры, пальчаткі
Шкарпэткі з авечае воўны
І зімнія палітоны

Мы апранемся цёпла
Хай тады нас марозіць
Калі толькі вопратку гэтую
Моль яшчэ не пажэрла

Калі толькі гэтую вопратку
Яшчэ не пажэрла моль!

КРЭЎСКАЯ ПОЛЬКА

Гэй, музыкі, грайце польку
Грайце да самога золку
Я хлапчына зухаваты
Не пайду я спаць дахаты

Гэй, музыкі, польку грайце
Дайце чаду, жару дайце
Гэй, музыкі, дайце жару
Я шукаю сабе пару

У цябе на носе болька
У мяне на лбе гузак
Я з табою танчу польку
Ты са мною кракавяк

Вяк-вяк-вяк
Вякае гітара
Чым жа ж, чым
Мы ня добра пара

Пара добра, трыё лепей
Тут ня Жлобін і ня Лепель
Тут культурнае мястэчка
Твае вусны, як парэчка

Полька справа, полька зьлева
Ты з Варшавы, а я з Крэва
Я зь мястэчка, ты з Варшавы
Вось жа ж во, такія справы!

Карацей, паўсюдна полькі
Паміж імі беларус
Чым ня швэдзкі трохвугольнік?
Чым ня тройсьцьвяны саюз?

НАДЗЕНЬКА

Ой, вы дзевачкі беларускія,
Не ўлюбляйцесь ў ваенных рабят,
Бо ваенныя ўсе жанатыя,
У заблуджэньне прыводзяць дзяўчат.

Адна дзевушка — раскрасавіца,
Празывалася Надзяй яна,
Улюбілася у ваеннага,
Но ня знала, што дома жана.

Позьнім вечарам прыйшоў Ванечка,
Падарыў насавой ёй платок.
«Сабірай ўсё, што ёсьць ў цібя,
І паедзем на Дальны Васток».

Да вакзала йшлі, цалаваліся,
Любавалісь сабой, как маглі.
Дал он в рукі ей чамадан пустой,
Сказал: «Пару мінут абаждзі».

Абашоў кругом, сам зашоў ў вагон
І празрыцельна смотрыт ў акно.
«Да сьвіданія, больш ня жді міня,
Ў мяне дома есьць дзеці, жана».

І асталася бедна Надзенька
З чамаданам пустым у руках.
Аблілась сьлязой, зь цем ушла дамой,
Так прайшлі маладыя гада.

## Сьвятлана Алексіевіч:

# «У МЯНЕ ЁСЬЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АФАРБОЎКА»



Дому літаратара зь ягонымі творчымі вечарынамі больш няма, выступылекцыі перад студэнтамі даюць чытаць хіба што Кшыштафу Занусі. Сваім — не. Любая сустрэча творцы з чытачамі стае падзеяй. Ці даўно сустракаўся з чытачамі, да прыкладу, Рыгор Барадулін? Выступ Сьвятланы Алексіевіч перад студэнтамі журфаку БДУ адбываўся ў характэрнай для ейных раманаў форме «жывога маналёгу» пра сябе. Вытрымкі зь яго прапануе наш карэспандэнт. Цікава, як пісьменьніца кажа «ня могуць» там, дзе магла б сказаць «ня хочуць»; «наша», дзе магла б — «расейская»; «аднолькавыя», дзе магла б — «розныя»; «мы», дзе — «я»...

С.А.: Аднойчы добры беларускі пісьменьнік Валянцін Тарас сказаў мне: «Сьвятлана, я люблю Вашыя кнігі, але нечага я не прымаю» — і прачытаў урывак з «Цынкавых хлопчыкаў».

Абед. Хтосьці сілкуецца, хтосьці паліць, хтосьці пайшоў да ветру. І ў гэты час — імгненны абстрэл, імгненны, як віхор. Маёр узьнімае галаву: адзін ляжыць, уторкнуўшыся носам у кашу, другі ўжо мёртвы, а цыгарэта яшчэ гарыць, а ў трэцяга прарэх расшпілены, капае, а ён ужо забіты.

Валянцін Тарас кажа: «Як Вы можаце гэтае пісаць? Гэтага нельга, гэта па-за межамі мастацтва». Я кажу: «Спадару Валянціне, асабіста для мяне тут і пачынаецца мастацтва, пачынаецца чалавечы крык — жыцьцё па-над усім». За кожным часам існуе свая эстэтыка.

Кажуць, у мяне кан'юнктурныя тэмы. Але ж я пішу пра вайну праз 40 гадоў, пра Чарнобыль праз 12, калі ўжо ёсьць дзясяткі і сотні кніг. Чалавек нічога пра сябе да канца ня ведае. Ніводная тэма ў сьвеце не раскрытая да канца. Глядзеце, Спілбэрг: зрабіў фільм пра вайну і перавярнуў разуменьне абсалютна. У прынцыпе, вайна, звычайнае жыцьцё, космас альбо яшчэ нешта — паўсюль дзейнічае адная й тая ж асоба: чалавек і яго душа, ягоная цемра, тое, што аддзяляе яго ад расьліны.

**Пра нацыянальнае пытаньне**

— Калі я атрымала прэмію «Трыюмф», «Литературная газета» напісала, што Сьвятлана Алексіевіч — безумоўна расейскі пісьменьнік, толькі жыве ў Менску. Для мяне гэта складанае пытаньне. Я прасякнутая абедзьвюма культурамі. Я, безумоўна, беларускі пісьменьнік, які піша па-расейску. Рэч у тым, што я пішу пра савецкіх людзей. У мяне ёсьць нацыянальная афарбоўка, але з чалавека, які жыве тут, я выводжу чалавека ўвогуле, які жыве паўсюль. Генэрал, які здымае свой шынэль, і цывільны, балівіец і расеец уначы аднолькавыя.

Нацыянальнае пытаньне пры канцы дваццатага стагодзьдзя набывае іншае адценьне: пасьля Чарнобылю, асабліва на мёртвай зямлі, адчуваеш сябе ня немцам, французам, беларусам, расейцам, а прадстаўніком увогуле нейкага чалавечага біявіду. Адбываецца ўнівэрсалізацыя: нацыянальнасьць выступае ў новых межах. Мы не асэнсоўваем гэтых межаў і не прапануем новых пытаньняў.

*Працяг на старонцы 16.*

## Сьвятлана Алексіевіч:
# «...НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АФАРБОЎКА»

*Працяг са старонкі 15.*

Я перачытваю свае інтэрвію, Пазьняковы, Адамовічавы, Шушкевічавы — сёньня яны здаюцца такімі рамантычнымі. Чаму мы пацярпелі паразу? Мы рамантычна прыдумалі сабе дзяржаву й народ. Мы паблыталі сябе ці то з Прыбалтыкай, ці то з Польшчай, а мы — нешта зусім іншае.

**Пра нацыянальную ідэю**

— Нядаўна прэзыдэнт казаў аб стварэньні сваёй нацыянальнай ідэі. Пару гадоў таму тое самае казаў Ельцын, і скончылася гэта чачэнскай вайною. Нацыянальную ідэю ня трэба ствараць ці прыдумляць: яна ёсьць. У нас ёсьць дзяды і прадзеды, ёсьць мова, усё ёсьць, толькі нацыянальнай самасьвядомасьці ў народзе няма. Патрэбная вялікая асьветніцкая праца — працаваць трэба. А нацыянальную ідэю выдумляць — усё адно, што выдумляць Бога: Бог ужо ёсьць.

**Пра пошукі мовы**

— Пасьля трох кніг пра вайну, кнігі пра самагубцаў на руінах імпэрыі і «Чарнобыльскай малітвы», я пішу гісторыі каханьня. Але мяне хвалюе тое ж пытаньне: хто мы і які сэнс у нашых пакутах, у нашым існаваньні?

Самае цікавае, што людзі пра гэтае размаўляць ня могуць. Я зьдзівілася: я вельмі рэдка чую, што каханьне — гэта дар, прасьвятленьне, радасьць. Пераважна: «ахвяра», «хвароба», «катастрофа». Калі я запісваю, напрыклад, швэдку, яна кажа пра сябе, пра сваё цела, пра сваё жыцьцё. А нашая жанчына... Як быццам яна ня мае асабістага жыцьця, ня мае мовы, каб распавесьці.

Я кінулася па прыклад да літаратуры і раптам выявіла, што ў нашай літаратуры каханьня няма. Культ жыцьця — гэта культ пакутаў. Тэма пакутаў у нашай гісторыі, праваслаўі, літаратуры — вельмі складанае пытаньне. Я спрабавала адказаць на яго ў «Чарнобыльскай малітве» і ўпершыню адчула ў сабе нейкі бунт супраць гэтага культу.

А Захад больш рацыянальны. Людзі будавалі дом, а не разбуралі так, каб кожнае пакаленьне пачынала ўсё нанова.

Шчыра кажучы, шчасьлівых людзей я не знайшла ані там, ані тут. Тут дык увогуле. Сьвет уяўляецца як катастрофа, каханьне — таксама. Але ж мова барыкады — дагэтуль галоўная мова майго пакаленьня, хоць гэта дрэнна. Я ўсё прайшла за сваім пакаленьнем, за сваім часам. І я сама хачу зразумець, намацаць сэнс жыцьця, бо я ж не іншапланэтніца, якую аднекуль скінулі.

**Запісаў Сяргей Пульша**

# ПІВА ЗА БЕЛАРУСЬ

*«Наша Ніва» працягвае стварэньне рэйтынгу беларускага піва. Абярыце 5 найлепшых і 1 найгоршы, на Ваш погляд, гатунак піва і* ***паведамце сваю думку лістом ці паштовай карткай на адрас «Нашай Нівы»****, прыпісаўшы, калі Вы п'еце піва, з кім, з чым, як, з чаго і дзеля чаго. Будзе яснасьць, будуць прызы, будуць і пераможцы, і піва. Піце піва і пішыце ў «Нашу Ніву»!*

Калі вярнуцца ў мінулыя, так званыя савецкія часы, дык гатункаў піва было зусім няшмат, пераважала «Жыгулёўскае», якое сустракалася паўсюль, як, скажам, паліва на бэнзакалёнках. Яно тады, як і цяпер, не вызначалася асаблівым смакам. Усё залежала ад месца вырабу. Але гэтай марцы не было альтэрнатывы. Цяпер жа, дзякуй Богу, зьявіўся багаты выбар піўных напояў. У нашай сям'і аддаюць перавагу цёмнаму піву. На нашу думку, найлепшымі маркамі зьяўляюцца «Сябры», «Леў», «Портэр» (Менск), «Чорны прынц», «Клясычнае» (Ліда), але нічога кепскага ня скажаш і пра сьветлыя півы. П'ем піва ў сям'і або зь сябрамі. Да яго пасуюць салёныя грэнкі з часныком, сушаная рыба, што трапляе на кручок пад час летняй лоўлі. Калі дазваляе кішэня, добра ідзе й вэнджаная крамная рыба. І наогул, можна піць піва безь нічога, яно праганяе смагу летам, дае бадзёрасьць і цяпло ўзімку. Кажуць: «Хто піва п'е, той сто гадоў жыве».

Моцнага здароўя і творчых посьпехаў, усяго добрага, чыстага, сьветлага рэдакцыі «НН» ды ўсім аматарам піва.

**Мікола Сьцепулёнак, Койданава**

Пішу я зь невялічкага піўнога гарадка. Адкуль? Правільна, зь Ліды. Чым славіцца мой горад? Старажытным замкам, двума выступамі NRM, журналістамі, якія ў нас «гасьцілі» летась, і... канечне, ПІВАМ!!!

1. П'ю піва я часьцей за ўсё зь сябрамі ўвечары ў пятніцу, суботу і нядзелю. Каб купіць сапраўды найлепшае на наш густ піва, прыходзіцца ісьці ў другі канец гораду ў фірмовую краму Лідзкага піўзаводу, бо толькі там (і то зрэдку) прадаецца піва «Стары замак».

2. Безумоўна, «Клясычнае». Яно толькі крыху саступае «Старому замку».

3. І пачаткоўцам, і дэгустатарам са стажам падыдзе «Бархатнае» – 3-ці радок.

4. Улетку, калі ў самым экватары футбольны сэзон і мае вакацыі, мне дастаўляе асаблівае задавальненьне глядзець футбол (на стадыёне), лаяць і задзіраць зялёна-блакітных і піць «Чорнага прынца».

5. У перапынку футбольных матчаў я заўсёды іду ў краму, купляю рыбіну і іду да «бочкі», дзе выпіваю куфаль «Алімпійскага».

Дарэчы, ня ўсе футбольныя фанаты – скінгеды. Лідзкія – ні ў якім разе.

Узьнікае пытаньне, чаму я ня п'ю піва з панядзелка па чацьвер. Рэч у тым, што я вучуся ў Навагрудку, а там вельмі цяжка знайсьці лідзкае піва, затое паўсюль стаіць піва «Каласок», якое чамусьці аддае слынным «Арыэлем». Але пральнага парашку я ня п'ю і таму аддаю сапраўды адпаведнае «Каласку» месца – месца самага дрэннага піва.

Дзе я п'ю піва? На вуліцы і ў бары. У склепе, на стадыёне і на канцэрце. У аўдыторыі (тэхнікуму) і дома (калі няма бацькоў).

З кім? Зь сябрамі, рэдка адзін.

З чаго? Са шкляных куфляў і бутэлек. З бляшанак – не.

Як? Цэлая навука. Тэлефануйце 3-13-77 у пятніцу–нядзелю з раніцы – распавяду, як.

З чым? З гарэлкай (нячаста), з рыбай, з чыпсамі. І ўвага – са сьмятанай. Увага тым, у каго ня ўсё нармальна з...

Піце піва са сьмятанай,

... як у султана (здагадайцеся самі).

Са сьмятанай піва трэба добра перамяшаць, піць павольна, смакуючы.

Дзеля чаго? Дзеля самога працэсу.

Хочацца закончыць ліст словамі з творчасьці найлепшага беларускага рок-гурта:

*Калі ў вачох маіх – туман*
*І галава баліць мая,*
*Я вып'ю піва*
*І сьпяю «я-я».*

**P.S.** Прапаную шляхетнаму пану Андрэю Мельнікаву назваць усе гатункі лідзкага піва. У даўгу не застануся.

Са сьвятам Незалежнасьці! Жыве Беларусь!

**А.Чайко, Ліда**

# НАША НІВА 90 ГАДОЎ ТАМУ



*9 красавіка 1909 году*

**10 запаведзей для гаспадароў, як садзіць бульбы**

1) Перад тым, як маеш садзіць бульбу, перабяры насеньне.

2) Не садзі такой бульбы, што мае ўжо адросткі.

3) Не бяры вельмі малой бульбы на насеньне.

4) Старайся ня рэзаць насеннай бульбы.

5) Калі насеньне бульбы надта вялікае, дык рэж яе, але толькі ўздоўж на дзьве часьці.

6) Калі будзеш садзіць парэзаную бульбу, дык рэж яе за якіх 10 дзён прад садзэньнем ды гэтак рассып, каб яна абсохла.

7) Садзі бульбу ў такой зямлі, што ўжо абсохла і абагрэлася.

8) Не кладзі ў адно месца 2—3 малых бульб заместа адной акуратнай бульбіны.

9) Адлегласьць ад кожнага насеньня павінна залежаць ад гатунку і ўраджайнасьці зямлі. На лепшай ральлі адлегласьць меж баразнамі павінна быць ня большая, як 24 цалі*, а ад адной бульбы да другой якіх 16 цалі. На горшай зямлі баразны рабі адна ад адной на 18—20 цаляй, а бульбы садзі ня меней, як на 12 цалі каліва ад каліва.

10) На лёгкай ральлі закрывай бульбу глыбей, як на цяжкай ральлі.

*Крэмень.*

**М. Ляхавічы,** Слуцк. пав. Мен. губ. Бацькоўскі недагляд і нядбальства былі прычынай аднаго няшчасьця ў нашым мястэчку. У Вербную нядзелю хлопчык выгнаў сьвіньні на выган каля рэчкі і ўзышоў на крыгу; крыга пахінулася, а той пад крыгу і ўтапіўся. Хлопец меў ужо гадоў 13-14 і быў немалой падмогай для бацькоў. Варта, каб трохі бацькі за дзяцьмі лепей глядзелі: няшчасьце можа ўва ўсякую мінуту здарыцца.

*Падарожны.*

**Паштовая скрынка.**

**М. Бальцэнікі (?)** Вілен.губ. К.К.: ізноў ацец, кума і булка! Што гэта: эпідэмія ў вас на іх, ці што?!.

* Цаля — 2,54 см (1999)

# ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Сп. Станішэўскі! У мяне квіток ад 27.01.99 г. Калі чакаць касэту? Тэл. у Гомелі: 55-50-22, Алена

Маладыя патрыёты Стаўпеччыны, адгукніцеся! Шыдлоўскі Аляксей, 222660, Стоўпцы, зав. Стадыённы, 7

Спосабы нарошчваньня цяглііцаў бяз «хіміі» і трэнажораў, заробак у хатніх умовах. Капэрта са зв/а + купон б/а. А/с 143, Гомель-12, 246012

Віншую дзякана Часлава з днём народзінаў! Жадаю здароўя, Божай ласкі, добрага настрою, посьпехаў у жыцьці. Супаненка Паўлюк

Zaprašajem patryjotaŭ da zhurtavańnia! Žyvie VKŁ!!! «Lićviny». A/s 124, Homiel, 246012

Спадароў Аўгена Мурашку і Алеся Мазура віншую з днём народзінаў! Удачы вам і рэалізацыі праектаў! Мельнікаў

На будучым працэсе — беларуская дзяржава супраць Аляксандра Лукашэнкі — дастаткова будзе і аднаго абвінавачваньня ў спробе замаху на забойства нацыі. Сяржук Аржанцаў

Куплю кнігу А.Краўцэвіча «Стварэньне Вялікага Княства Літоўскага». Сяргей Бельскі, вул. Тургенева 4, кв. 18, Хойнікі, 247600

Запрашаем уніятаў Гомеля на набажэнствы. Гомельская парафія. Лістуйце! А/с 124, Гомель, 246012

Годзе цярпець зьдзекі над нашаю Дзяржаваю! Беларуская партыя свабоды склікае змагароў: штоаўторак а 18-й гадзіне ля помніку Янку Купалу

Куплю слоўнікі Станкевіча і Насовіча. Тэл.: 226-42-63

Гена і Ларыса! Віншую вас з днём народзінаў! Посьпехаў вам і вашаму КАЦКу! Мельнікаў

Генадзя Шэпелева з днём нараджэньня віншуе Культурна-асьветніцкі цэнтар імя Караткевіча. Зычым волі і незалежнасьці

К.Р.! З Днём Анёла! Удзячная лёсу, што ты ёсьць у маім жыцьці. Ж.В.

Сяргея Міхайлавіча Занкевіча віншую з днём народзінаў. Зь вялікай удзячнасьцю ўзгадваю аб Вас. Ларыса Рыгораўна

Вярніце віддзакасэты, што брала пад сваю адказнасьць Вольга Харламава на пару гадзінаў 5 сакавіка! Мельнікаў



**БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ**
**запрашае на публічныя лекцыі**

***6 красавіка***
**Прэзэнтацыя незалежнага часопісу *Грамадзянская альтэрнатыва* з удзелам галоўнага рэдактара *В. Карбалевіча* і сяброў рэдакцыйнай калегіі *У. Роўды, В. Чарнова, У. Анцулевіча***

***13 красавіка***
***Ібрагім Канапацкі***
Беларускія татары: гістарычны лёс народа і культуры

27 красавіка
Сяргей Даніленка (Магілёў)
Родавая геральдыка Рэчы Паспалітай: паходжаньне і сэмантыка

Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (актавая заля): вул. В.Харужай, 16
Пачатак лекцыяў а 18.30
Дадатковую інфармацыю можна атрымаць праз тэл. 256 -36-13

## Беларускія музычныя навінкі:




**Аўдыёкасэты:**

1. Грунвальд. Старыя назовы. Наваполацак. Тэатар-студыя «Зьніч», 1998. БМА.
2. В.Шалкевіч. Правінцыя. Горадня (1992). БМА, 1999.
3. Вольныя Танцы. Слухай сваё! Беларуская Музычная Альтэрнатыва, Беларускі Хельсінскі Камітэт, 1999.
4. Ален. Балахоўскія песьні. Юбілейны канцэрт. БМА, 1998.
5. Mojo Blues. Love Across The Ocean. Ковчег, 1998.
6. Newcosmopolis. Gloria Patria Ruthenia Alba. БМА, 1998.
7. Newcosmopolis. Любоў. БМА, 1998.

**CD:**

Вольныя Танцы. Слухай сваё! БМА і БХК, 1999.

У справе набыцьця касэтаў зьвяртайцеся: 220085, Менск, а/с 5.




**КУПОН** БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

*Імя і прозьвішча* ______________________________

*Адрас, тэлефон* ______________________________


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Набор Аляксандры Макавік. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3415. 8 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18⁰⁵, 28.03.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N1439

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



У наступным нумары чытайце: «Суайчыньнікі-4» Адама Глёбуса. Тэма нумару: Беларусь пасьля Лукашэнкі. Інтэрвію з наступнікам Абдулы Аджалана.

Наступны нумар газэты выйдзе 12 красавіка.